Рагойша В. П.

Пераклаў Якуб Колас... Мн., Выд. БДУ, 1972. - 112 с. 1800 экз. 66 к.

У кнізе разглядаюцца сутнасць і прынцыпы перакладчыцкай дзейнасці Якуба Коласа, асвятляецца праца паэта па аўтарызацыі перакладаў сваіх твораў на рускую мову. Разлічана на літаратуразнаўцаў, выкладчыкаў вышэйшых навучальных устаноў, перакладчыкаў і ўсіх тых, хто цікавіцца тэорыяй і практыкай мастацкага перакладу. Літ. у падрадковых заўвагах у канцы кнігі.

Перакладная літаратура ў кожнага з новых еўрапейскіх народаў прымала вельмі важны ўдзел ў развіцці народнай свядомасці... Таму гісторыка-літаратурныя творы толькі тады не будуць хварэць на непажаданую надта аднабаковасць, калі стануць на перакладную літаратуру звяртаць значна большую ўвагу, чым гэта звычайна робіцца цяпер.

М. Г. Чарнышэўскі.

# УСТУП

Пераклаў Якуб Колас...

Гэтыя словы даволі часта стаялі пад перакладзенымі на беларускую мову творамі А. Пушкіна, М. Лермантава, Т. Шаўчэнкі, А. Міцкевіча... Яны азначалі, што тысячы, дзесяткі тысяч беларусаў — рабочых, калгаснікаў, прадстаўнікоў інтэлігенцыі — мелі мажлівасць чытаць вершы любімых паэтаў на роднай мове; перакладзеныя творы маглі ўключацца ў беларускія школьныя чытанкі, гучаць са сцэны, чытацца па радыё.

Пераклаў Якуб Колас... Гэта сцвярджала неацэнны, самы непасрэдны ўплыў класікаў братніх літаратур на творчасць народнага песняра, а тым самым — і на ўсю беларускую літаратуру. Гэта гаварыла пра далейшае развіццё і ўзбагачэнне беларускай літаратурнай мовы, актывізацыю яе ўласных моўна-выяўленчых сродкаў, умелае запазычанне тых, якіх па той ці іншай прычыне неставала.

Пераклаў Якуб Колас... Гэта паказвала таксама на няўхільнае папаўненне вопыту перакладчыка, актыўны ўдзел яго ў выпрацоўцы агульных прынцыпаў перакладу твораў з адной роднаснай мовы на другую, у стварэнні тэорыі мастацкага перакладу ўвогуле. Гэта сведчыла, што ўпісвалася яшчэ адна цікавая старонка ў адвечную кнігу славянскай супольнасці.

Дзякуючы Якубу Коласу на беларускай мове загучалі неўміручыя «Палтава» Пушкіна, «Дэман» Лермантава, верш Міцкевіча «Паніч і дзяўчына», многія творы. Шаўчэнкі, сярод якіх такія шэдэўры Кабзара, як паэмы «Ерэтык», «Неафіты», «Марыя», «Сляпы» («Нявольнік»), вершы «Раскапаная магіла», «Чыгрыне, Чыгрыне», «Чаго мне так цяжка, чаго мне так нудна», «Гогалю» і многія іншыя. Перакладзеныя Коласам, па-беларуску загаварылі таксама вялікі індыйскі пісьменнік Рабіндранат Тагор, украінцы Максім Рыльскі і Паўло Тычына.

У 1927 г. Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі прыняў пастанову выдаць дванаццацітомны збор твораў У. І. Леніна на беларускай мове. У склад камісіі, якая вяла стылявое рэдагаванне перакладаў, увайшоў і Якуб Колас. Сёння, чытаючы Леніна па-беларуску, мы з удзячнасцю ўспамінаем тых, хто данёс да нас неўміручае слова Ільіча. І вельмі прыемна бачыць сярод многіх імёнаў імя класіка роднай літаратуры.

У 30-я гады ажыццяўлялася выданне на беларускай мове поўнага збору твораў Максіма Горкага. Колас, разам з М. Лыньковым і Зм. Бядулем, рэдагаваў гэтае выданне.

«Кабзар» Шаўчэнкі поўнасцю па-беларуску выходзіў двойчы — у 1939 і 1952 гг. І абодва разы (у 1939 г.— сумесна з Янкам Купалам) Колас браў на сябе нялёгка але пачэсны абавязак літаратурнага рэдактара кнігі.

Нягледзячы на ўсё гэта, перакладчыцкая дзейнасць народнага паэта Беларусі не прыцягнула належнай увагі нашых літаратуразнаўцаў. Ні ў адной з навуковых прац пра Коласа нічога не гаворыцца аб перакладах паэта, ім прысвечана ўсяго некалькі артыкулаў у перыёдыцы, пераважна інфармацыйнага характару[1]. Больш таго, самі пераклады ўпершыню, ды і то не поўнасцю і з паасобнымі тэксталагічнымі недакладнасцямі, перадрукаваны толькі ў 1964 г. у дванаццацітомным Зборы твораў пісьменніка. Да гэтага яны, параскіданыя па газетах, часопісах, выданнях рознай даўнасці, былі практычна недаступныя чытачу. Нават не ўсе літаратуразнаўцы ведалі пра іх, бо і ў самым грунтоўным бібліяграфічным даведніку пра творчасць Якуба Коласа[2] пераклады не зарэгістраваны. Іменна гэтыя акалічнасці вымушаюць нас звярнуцца да перакладчыцкай спадчыны аўтара «Новай зямлі» і «Сымона-музыкі».

Працу перакладчыка Якуб Колас пачаў не на пустым месцы. Беларускі пераклад за сваю паўтысячагадовую гісторыю прайшоў цяжкі, складаны, але цікавы шлях. Усё лепшае з гэтай спадчыны пісьменнік, безумоўна, узяў. Узяў, каб пакінуць яе сваім нашчадкам яшчэ больш багатай і каштоўнай.

Якая ж гэта спадчына? На жаль, «у нас да гэтага часу няма яснай думкі аб гісторыі станаўлення беларускага мастацкага перакладу, няма навукова абгрунтаванай перыядызацыі яго развіцця»[3]. Аднак, бясспрэчна, бацькам беларускага перакладу ў самым глыбокім сэнсе гэтага слова з'яўляецца геніяльны асветнік, сапраўдны тытан «па сіле думкі, страсці і характары, па шматбаковасці і вучонасці» (Ф. Энгельс), «доктар са слаўнага горада Полацка», першадрукар Францыск Скарына.

Гаворачы пра Скарыну, мы звычайна менш за ўсё падкрэсліваем яго ўклад у станаўленне нацыянальнай школы перакладу. А гэты ўклад сапраўды непераўзыдзены. Узяўшы ўсё лепшае з традыцый, пакінутых перакладчыкамі агульнарускай пары, добра ведаючы прынцыпы тагачаснага славянскага і заходнееўрапейскага перакладу, Скарына паглыбіў іх, удасканаліў. У многіх выпадках складаныя

---

[1] Гл. бібліяграфію ў канцы кнігі.

[2] Якуб Колас. Бібліяграфічны даведнік. Скл. Н. Ватацы, М. Пратасевіч і М. Базарэвіч. Мінск, 1962.

[3] В. Небышынец. Нявырашаныя праблемы. Думкі пра беларускі мастацкі пераклад. «Літаратура і мастацтва», 1969, 24 кастрычніка.

пытанні тэорыі перакладу ён вырашаў як першапраходца, уносячы свой уклад у яе станаўленне і развіццё. Увогуле, увесь перыяд старажытнабеларускага перакладу можна назваць скарынінскім.—настолькі ўсеабдымна ў дзейнасці Скарыны ўвасобіліся тагачасныя прынцыпы перакладу, настолькі моцны ўплыў аказаў перакладчык на сваіх наступнікаў.

У свой час зварот рэлігійнай літаратуры да народнай мовы меў вялікае прагрэсіўнае значэнне. Ужо ў сярэднія вякі мёртвую царкоўнаславяншчыну ці латынь большасць веруючых не разумела. Аднак заслуга Скарыны не толькі ў тым, што ён пераклаў дваццаць дзве кнігі «Бібліі», даўшы ў рукі беларусам своеасаблівую энцыклапедыю самых разнастайных ведаў («У гэтай кнізе прыроджанай мудрасці зачала і канец»). Відаць, няменшае значэнне мела тое, як Скарына перакладаў.

Шырокія асветніцкія мэты Скарыны прадвызначылі спецыфічнае стаўленне яго да арыгінала. Беларускі першадрукар парушыў традыцыйны ў перакладанні «Бібліі» на еўрапейскія мовы прынцып літаралізму. Ён, у адрозненне ад іншых перакладчыкаў, уносіў у тэкст «свяшчэннага пісання» пэўныя змены (ужываў вобразы з вуснапаэтычнай творчасці, народныя прыказкі, карыстаўся рознымі аратарскімі прыёмамі, устаўляў уласныя вершы і г. д.). ён дадаваў да кніг свае прадмовы, па-свойму тлумачыў сэнс кожнага іх раздзела. Асабліва фетышызавалі царкоўнікі словы дзесяці запаведзяў.

Скарына ж у адным месцы перадае іх вершамі ў свецкім духу, у другім у яго перакладзе «зусім выпадае 2-я запаведзь з абодвух раздзелаў кнігі «Исход», 7, 8, 9, 10-я запаведзі з XXXIV раздзела, 10-я запаведзь з XX раздзела расчляняецца ім на дзве, а астатнія перадаюцца не даслоўна»[1].

Што датычыць заслуг Скарыны ў гісторыі беларускай літаратурнай мовы, то яны, відаць, аналагічныя заслугам Лютэра перад нямецкай мовай. Па словах Ф. Энгельса, «Лютэр вычысціў аўгіевы стайні не толькі царквы, але і нямецкай мовы»[2]. Дзейнасць Скарыны, гэтага «адукаванейшага чалавека свайго часу» (Я. Карскі), адкрыла шырокую дарогу народнаму беларускаму слову на старонкі кніг. Гэта тым больш знамянальна, што першы буйны беларускі перакладчык стаў і першадрукаром — і не толькі ў Беларусі, але і ва ўсіх усходніх славян. Такім чынам, прыклад, справа Скарыны набывалі шырокі розгалас, станавіліся вядомымі ва ўсіх канцах славянскага свету.

---

[1] М. Алексютовіч. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мінск, 1958, стар. 81.
[2] Ф. Энгельс. Дыялектыка прыроды. Мінск, 1954, стар. 6

Традыцыі Скарыны найбольш плённа развівалі ў Беларусі Сымон Будны і Васіль Цяпінскі (Амельяновіч). У 1562 г. у Нясвіжы выйшаў пераклад з польскай мовы кальвінісцкага «Катэхізіса», зроблены рукою Буднага. Мова перакладу «Катэхізіса» нават цясней звязана з народнай гаворкай, чым слова Скарыны. Праўда, яшчэ сустракаецца ў ёй шмат царкоўнаславянізмаў, трапляюцца і паланізмы. Але гэта хутчэй гаворыць не пра недахопы перакладу, а пра ўплыў названых моў на старабеларускую літаратурную мову. У перакладзе ж «Евангелля» Цяпінскага (1570) — ужо «даволі чыстая заходнеруская мова» (Я. Карскі). Сапраўды, тут уплыў кніжнаславянскай пісьменнасці наглядаецца крыху толькі ў лексіцы і сінтаксісе. Ды і то гэта было выклікана «агульным станам тагачаснай беларускай літаратурнай мовы і жаданнем перакладчыка ў нейкай меры захаваць моўную спецыфіку твораў «свяшчэннага пісання» як асобнага віду літаратуры параўнальна з іншымі»[1]. Як бачым, ужо Цяпінскі звярнуў увагу і на спецыфіку арыгінала, прынёсшы гэтым нешта новае ў практыку старажытнага беларускага перакладу.

І Сымон Будны, і Васіль. Цяпінскі, адчуваючы на сабе моцны ўплыў перакладчыцкіх традыцый Скарыны, адступалі ад тэксту арыгінала, уносілі ў пераклад свае выразы, словы, тлумачылі па-свойму асобныя месцы свяшчэнных кніг, дадавалі да іх свае прадмовы і пасляслоўі, далучалі да кніг застаўкі.

Такое больш ці менш вольнае абыходжанне з арыгіналам было характэрна, бадай, для ўсіх беларускіх перакладаў рэлігійных твораў той пары. А перакладалі на беларускую мову праваслаўныя, католікі, іудаісты, нават магаметане. Дайшло да нашага часу даволі шмат рукапісных і друкаваных кніг — бібліі, евангеллі, апосталы, псалтыры, каран, дзе старабеларуская мова перадаецца то кірыліцай, то лацінкай, а то і арабскім пісьмом[2]. Можна толькі здзіўляцца надзвычай шырокаму колу моў, з якіх рабіліся пераклады: старажытнагрэчаская, яўрэйская, царкоўнаславянская, латынь, арабская, балгарская, польская...

Сярод тагачасных жанраў рэлігійнай перакладной літаратуры найбольшае распаўсюджанне мелі жыцці або агіяграфічныя творы («Жыціе Аляксея, чалавека божага», «Сказанне пра віленскіх пакутнікаў»), аповесці рэлігійнага зместу («Аповесць аб трох каралях-валхвах», «Аповесць аб Таўдале-рыцары», «Сказанне аб Сівіле-прарочыцы» і інш.), апокрыфы («Аб дванаццаці пакутах», «Загадкі цара Давыда»,

---

[1] Л. М. Шакун. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Мінск, 1963, стар. 131.
[2] Гл., у прыватнасці, пра гэта ў кн.: А. К. Антановіч. Белорусские тексты, писанные арабским письмом. Вильнюс, 1968.

«Страцім-птах» і інш.). Як сцвярджаюць даследчыкі, у гэтых творах нярэдкімі былі скарачэнні і дапаўненні. Так, з жыцій праваслаўныя перакладчыкі выкідалі мясціны, дзе праслаўляўся рымскі папа, ухваляўся каталіцызм. Замест іх з'яўляліся ўстаўкі — выпады супраць каталіцкай веры і касцёла. Калі так абыходзіліся з кананічнай царкоўнай літаратурай, то чаго можна было чакаць ад перакладаў свецкіх кніг!

Значнае пашырэнне ў Вялікім княстве Літоўскім, куды ўваходзіла таксама і Беларусь, набылі пераклады гістарычных хронік і воінскіх аповесцяў, рыцарскіх раманаў, дыдактычных навел. Шырокая распаўсюджанасць гэтых кніг на тэрыторыі нашага краю вельмі добра паказвае на запатрабаванні тагачаснага чытача, на тое, што беларуская літаратура здаўна развівалася ў жывой сувязі з літаратурамі іншых народаў. Асаблівай папулярнасцю сярод чытачоў карысталіся такія рыцарскія раманы (аповесці), як «Аповесць аб Троі», «Александрыя», «Аповесць аб Трышчане» і «Аповесць аб Баве». Цікава, што ўсе гэтыя творы былі не выпадковымі ў еўрапейскай літаратуры, яны ў многім вызначалі яе тагачаснае аблічча. Такім чынам, мы можам канстатаваць нават пэўны свядомы падыход пры адборы твораў для перакладу. Гэта самае можна сказаць і пра жанр воінскай аповесці. І «Гісторыя аб Атыле, каралі ўгорскім», і «Аповесць аб Скандэрбег», і «Пра пабоішча Мамая», і іншыя творы не толькі вызначалі воблік літаратуры, што іх стварыла, але і паказвалі выдатныя рысы пэўных народаў — венграў, албанцаў, рускіх...

Многія пераклады свецкіх твораў, за невялікім выключэннем, з'яўляюцца, па сутнасці, перапрацоўкамі, іх беларускімі варыянтамі. Так, «Александрыя» папоўнілася на Беларусі новымі эпізодамі, якіх няма ў лацінскім арыгінале. Беларуская рэдакцыя «Аповесці аб Трышчане» істотна разышлася з старафранцузскай версіяй аб Трыстане і Ізольдзе. Тут і Трыстан (Трышчан) больш верны ў сваіх пачуццях да Ізольды (Іжоты), і каралева Мерэтрыса паказана больш нікчэмнай, і, нарэшце, зменена канцоўка твора — героі не гінуць, а толькі разам змагаюцца са смерцю. Бава ў беларускай аповесці падобны хутчэй не на замежнага рыцара, а на нейкага казачнага ўсходнеславянскага волата. Скандэрбег стаў не толькі больш дэмакратычным па сваім характары, але і выразнейшым, ярчэйшым як мастацкі вобраз.

Абеларушванне можна на кожным кроку сустрэць і ў самой мове перакладаў. Імёны некаторых персанажаў славянізаваліся, у тэкст уводзіліся беларускія прыказкі, прымаўкі, ідыёмы, фальклорныя параўнанні. Па сутнасці, гэта былі ўжо своеасаблівыя наследаванні, паўарыгінальныя творы. Іменна таму яны з поўным правам і разгля-

даюцца ў курсе гісторыі айчыннай літаратуры[1] З вышыні сённяшніх дасягненняў перакладчыцкай думкі і мастацкай літаратуры ўвогуле такі падыход да арыгінала можа выклікаць асуджэнне. Але ў старажытную пару так званы выпраўленчы пераклад меў прагрэсіўнае значэнне. Ён дэмакратызаваў замежную літаратуру, рабіў яе больш даступнай масаваму чытачу. Не трэба забывацца, што ў той час уласная мастацкая літаратура толькі нараджалася.

Такім чынам, у сярэднія вякі на Беларусі перакладчыцкая справа набыла вялікае пашырэнне. Тады ж былі выпрацаваны свае прыёмы перакладання рэлігійных і свецкіх кніг. Гэта адкрыла шырокія магчымасці для далейшага ўдасканалення і развіцця беларускага перакладу. Аднак добрым усходам не суджана было вырасці. Выношваючы свае экспансіянісцкія планы, Рэч Паспалітая дабілася таго, што ў выніку Люблінскай уніі (1569) самастойнасць Вялікага княства Літоўскага ліквідавалася. Беларуская мова паступова перастала функцыяніраваць як мова дзяржаўная. У 1697 г. польскі сейм пастанавіў, што нават «пісар павінен па-польску, а не па-руску (г. зн. па-беларуску.— В. Р.) пісаць». Беларуская літаратура, у тым ліку перакладная, амаль выключна існавала ў адной форме — вуснай. Так працягвалася да канца XVIII ст., пакуль Беларусь не была далучана да Расіі. І хоць шавіністычная палітыка рускіх цароў не ўступала нацыяналістычным памкненням польскіх каралёў (Мікалай I у 1840 г. нават само слова «Беларусь» забараніў, замяніўшы яго тэрмінам «Северо-Западный край»), усё ж езуіцкае апалячванне беларусаў прыпынілася, пахіснулася манаполія касцёла — гэтага галоўнага паланізатара.

Прыйшло XIX стагоддзе, стагоддзе рэвалюцый, нацыянальна-вызваленчых рухаў, стагоддзе, калі на гістарычную арэну выступілі Маркс і Энгельс. У Расіі, перадавая думка, якой аказвала жыватворчае ўздзеянне на Беларусь, разгарнулі сваю дзейнасць рэвалюцыйныя дэмакраты — В. Бялінскі, М. Чарнышэўскі, М. Дабралюбаў. Заклікаючы да барацьбы з царызмам, у Лондане, у эміграцыі, нястомна ў свой «Колокол» біў А. Герцэн. І беларускі народ, як і іншыя заняволеныя народы, пачаў спакваля абуджацца. Нарадзілася новая беларуская літаратура.

«Узварушаны нарэшце дух народны» (М. Багдановіч) праявіўся і ў тых нешматлікіх паэтычных перакладах, з'яўленнем якіх беларуская літаратура XIX ст. абавязана перш за ўсё В. Дуніну-Марцінкевічу. Гэта ён пачаў адраджаць зацярушаную пылам двух стагоддзяў славу

[1] Гл.: Л. Я. Цімашкова. Перакладная літаратура XV-XVII стст. У кн.: «Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры», т. і. Мінск. 1968, стар. 383-408.

беларускага перакладу. Ён распачаў яго новы перыяд, які канчаецца гадамі першай рускай рэвалюцыі. Гэты перыяд, што па сваёй сутнасці адпавядае ў гісторыі рускага перакладу прыблізна XVIII ст., можна назваць вопытным.

Дунін-Марцінкевіч выдаў у перакладзе на беларускую мову першую частку паэмы Адама Міцкевіча «Пан іадэвуш». Есць звесткі, што быў зроблены пераклад усей паэмы. На гэта ўказваюць, у прыватнасці, невядомыя ўрыўкі з перакладу, уключаныя ў «Альбом» А Вярыгі-Дарэўскага[1] Аднак царская цэнзура не толькі не дазволіла надрукаваць на беларускай мове астатнія раздзелы геніяльнага твора польскай літаратуры, але і зрабіла усе магчымае, каб пазбавіць нашчадкаў кнігі якая ужо выйшла ў свет. Ад агню «ахоўнікаў парадку» цудам уцалеў толькі адзін экземпляр «Пана Тадэвуша» які захаваўся ў фондах бібліятэкі Кракаўскага універсітэта.

Галоўнай мэтай перакладчыка было даць у рукі беларусаў зразумелую кнігу для мастацкага чытання па гісторыі роднага краю (А. Міцкевіч нарадзіўся на Беларусі і пісаў пра яе). А галоўным штуршком для працы паслужыла перакладанне ў той час (1859) твора на рускую мову.

Польска-беларускі вучоны і літаратар Адам Кіркор даў перакладу вельмі высокую ацэнку. Ён пісаў, што «перакладчык перамог неадольныя цяжкасці. Пераклад не толькі верны, але і мова ўсюды гарманічная, зразумелая і асабліва мяккая»[2]. Аднак калі больш уважліва прыглядзецца да перакладу, то можна лёгка ўбачыць залішнюю суб'ектыўнасць такіх меркаванняў. Відаць большую рацыю меў Карскі, калі гаварыў, што «ў перакладзе Дуніна-Марцінкевіча няма той прастаты і жывасці гутаркі, якія характарызуюць народную мову»[3]. Заслугоўвае ўвагі і меркаванне карыфея беларускай філалогіі, што перадача паэмы адэкватным польскаму беларускім сілабічным вершам бадай ці з'явілася адзіным выхадам са становішча. У XIX стагоддзі сілабіка ў беларускай паэзіі пачала гучаць ненатуральна, анахранічна. Усё гэта, тым не менш, нікольні не прыніжае заслуг Дуніна-Марцінкевіча як перакладчыка. Трэба ўлічыць час, у які першы раз перакладаўся на беларускую мову «Пан Тадэвуш». Здабыткі старой школы беларускага перакладу за стагоддзі жорсткага нацыянальнага ўціску былі забыты. Старабеларуская літаратурная мова выпрацавала ў свой час багатыя і разнастайныя стылі: летапісны, дзелавы, апавядальны, публіцыстычны, багаслоўскі. Аднак перакладчык, калі б яму і было вядома

[1] Гл.: Беларуская літаратура XIX ст. Хрэстаматыя. Мінск 1971 стар. 110
[2] Цыт. па кн.: Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III. Очерки словесности белорусского племени, ч. 3. Пг., 1922, стар. 60.
[3] Там жа.

старажытнае пісьменства, іх выкарыстаць не мог: новая беларуская літаратурная мова ўзнікала не на пісьмовай, а на вуснай народнай аснове. Перад Дуніным-Марцінкевічам ляжала цаліна народнай мовы, неапрацаваная, нераспрацаваная, з адзіным каларытным стылем — размоўна-бытавым. А ім адным перадаць усе багацце сэнсу, стылявую шматграннасць «Пана Тадэвуша» было немагчыма.

У 1892 г. у друку з'явіўся новы, праўда, таксама няпоўны, пераклад «Пана Тадэвуша» на беларускую мову[1] Перакладчык А. Ельскі быў добра знаёмы, як гэта відаць з прадмовы да выдання, з працай у гэтым кірунку Дуніна-Марцінкевіча. Ельскі, як і Дунін-Марцінкевіч, хацеў, каб «беларускі братні народ Міцкевіча, каторы быў яму найблізшым к сэрцу», атрымаў на сваёй роднай мове геніяльны твор геніяльнага земляка. Але ў Ельскага была і іншая, адкрыта выказаная ім мэта: паказаць, што «старадаўняя беларуская мова мусіць варта чагось, калі можна на яе склад ператлумачыць найцальнейшыя паэтычныя творы вялікіх пісацеляў»[2]. Тым не менш даказаць яму гэта калі і ўдалося, то ў вельмі нязначнай ступені. Прычынай з'явілася не столькі стылявая беднасць літаратурнай беларускай мовы (к канцу XIX стагоддзя мова адносна абагацілася), колькі адсутнасць належнага мастацкага таленту ў перакладчыка. Ельскі славіўся як краязнаўца, гісторык, эканаміст, адным словам — вучоны. Літаратурнымі здольнасцямі ён не вызначаўся. Ды і перакладчыцкі прынцып Ельскага, які быў характэрны таксама для пэўнай часткі перакладчыкаў XIX стагоддзя, хібны ў сваёй аснове. Літаратар урачыста заяўляў: «Пералажыў я «Пана Тадэвуша» амаль даслоўна». І тут жа нават даказваў неабходнасць гэтага: «Гэта даслоўнасць перакладу з тэксту польскага няхай будзе довадам брацтва дзвюх моў і двух народаў, каторым бог судзіў жыць сумесна і побач»[3]. У выніку — адступленняў ад тэксту сапраўды няшмат (у гэтым, дарэчы, Ельскаму дапамаглі шматлікія паланізмы, якімі ён занадта насыціў мову перакладу). Але рытм, вершаваны памер арыгінала зусім не перададзены. Калі Дунін-Марцінкевіч, не трымаючыся слепа літары арыгінала (у перакладзе з'яўляліся нават лішнія радкі), усё ж усюды захаваў яго памер — трынаццаціскладовы сілабічны верш, то Ельскі з памерам зусім не лічыцца. Адзін радок верша ў перакладзе мае, як і ў арыгінале, 13 складоў, другі — 15, трэці —16, чацвёрты — 10 і г. д. Вядома, сілабіка такога парушэння дапусціць не можа.

---

[1] Pan Tadeusz, paemat Adama Mickiewicza. Piaralażyu z polskaha na bietaruski jazyk A. J. kn. 1. Lwou, 1892.
[2] Там жа, стар. 2.
[3] Pan Tadeusz, paemat Adama Mickiewicza, kn. I, стар 2.

«Вопытны перыяд» у гісторыі новага беларускага перакладу быў не асабліва плённым. Праўда, пра сам плён меркаваць цяжкавата. Да самага пачатку XX стагоддзя не дазвалялася друкаванне беларускіх тэкстаў, і многія пераклады ў свой час так і не пабачылі свету. Так, толькі ў 1916 г. апублікаваны пераклад байкі А. Бартэльса «Свінні і бараны», зроблены Ф. Багушэвічам. А пераклады А. Гурыновіча надрукаваны ўпершыню яшчэ пазней — ажно ў 1956 г. Пра большасць жа цікавых перакладаў і перакладчыкаў наогул даведваемся толькі са скупых паведамленняў у перыёдыцы, успамінаў сучаснікаў. У прыватнасці, ёсць звесткі, што А. Вярыга-Дарэўскі зрабіў поўны пераклад паэмы «Конрад Валенрод» Міцкевіча, «ды такі цудоўны, што сілай і ўзнёсласцю радка здзівіў бы самога неўміручага песняра» (А. Кіркор). Асабліва шмат перакладаў А. Абуховіч. Дзякуючы яму многія вершы Пушкіна, Лермантава, Міцкевіча. Канапніцкай загучалі і па-беларуску. Перакладчык быў цвёрда перакананы, што беларуская мова можа перадаць разнастайныя адценні чалавечых пачуццяў і разуменняў, выказаных на іншых мовах. Добра валодаючы ўсімі асноўнымі еўрапейскімі мовамі, Абуховіч узнавіў па-беларуску асобныя раздзелы з «Фауста» Гётэ і «Разбойнікаў» Шылера, некаторыя вершы Гюго, Байрана, Дантэ. На жаль, пераклады ў свой час не маглі быць надрукаваны і, відаць, страчаны для нас назаўсёды. У шэрагу выпадкаў гісторыя захавала толькі прозвішчы перакладчыкаў (Станіслаў Глазка, Юльян Ляскоўскі) ці ананімныя пераклады («Пра багацце ды беднасць», «ДзядзькаАнтон» і інш.)

Найбольш каштоўную спадчыну пакінулі нам Адам Гурыновіч, Янка Лучына і Марыя Косіч. З творчага дапіску А Гурыновіча засталіся пераклады вершаў Пушкіна («Восень»), польскіх паэтаў Міцкевіча («Вілія») і Каспровіча («Вясна» і «...Гібне заранне столькі цвяткоў»), украінца Франка («Вечны рэвалюцыянер») і неўстаноўленага аўтара «Весяльчак». Але нават па іх можна меркаваць, што Гурыновіч быў прыхільнікам уважлівага стаўлення да арыгінала, праціўнікам якога б там ні было перайначвання. Ён унаследаваў лепшыя традыцыі рускага рэалістычнага перакладу, радаслоўная якога вядзе свой пачатак ад творчай практыкі Пушкіна і Жукоўскага, тэарэтычных разважанняў Бялінскага, Чарнышэўскага, Дабралюбава, Пісарава і М. Міхайлава. Верагодна, што Гурыновіч, які вучыўся у Пецярбурзе, быў знаёмы і з перакладамі, і з крытычнымі працамі гэтых выдатных пісьменнікаў і літаратуразнаўцаў. І хоць нераспрацаванасць беларускай пісьмовай мовы адсутнасць лексічнай літаратурнай нормы адбілася на перакладах (у іх шмат дыялектызмаў, правінцыялізмаў), ўсё ж і сёння яны чытаюцца лёгка, дастаўляюць пэўную эстэтычную асалоду.

Лучына развіваў у беларускім пракладзе XIX стагоддзя форму вольных наследаванняў. Такое яго вольнае наследаванне Ул. Сыракомлю (Л. Кандратовічу) «Горсць пшаніцы». Аднак і іншыя пераклады твораў гэтага польскага паэта («Бусел», «Ямшчык», «Надта салодкія думкі», «Не я пяю!», «Воскресенье»), па сутнасці з'яўляюцца наследаваннямі ці вельмі блізкія да іх. Тым не менш гэта наследаванні асаблівыя. Творы Сыракомлі, беларуса па паходжанні, былі цесна звязаны з беларускай рэчаіснасцю, і Лучыну не трэба было спецыяльна адапціраваць. Ён толькі змяняў рытміку, танізаваў яе, вольна абыходзіўся з вобразамі, падкрэсліваў у змесце пэўныя моманты, на іншыя — не звяртаў увагі і г. д. Так, пры перакладзе верша Сыракомлі «Не я пяю!» з трох 16-радковых строф Лучына пакінуў толькі адну (другую), перанёсшы найбольш важныя думкі сюды з першай і трэцяй строф. Такім чынам, эквілінеарнасць не захавана, але асноўныя думкі арыгінала ўзноўлены. Разам з тым Лучына ўзмацніў сацыяльнае гучанне твора. У Сыракомлі гаворыцца пра сувязь паэзіі з «божай іскрай», а ў Лучыны выток паэзіі — народнае жыццё і фальклор.

Непараўнана вальней абыходзілася з арыгіналамі — байкамі Крылова — М. Косіч. Яе «Переложение некоторых басен Крылова на белорусское наречие» (Чарнігаў, 1903) — прыклад «переложения» твораў рускага байкапісца не толькі на мову беларусаў, але і на іх рэчаіснасць. Здаецца, што для Косіч важней было самой пагаварыць пра розныя жыццёвыя справы ў сувязі з мараллю баек Крылова, чым даць іх мастацкі пераклад на беларускую мову. Так, вельмі свабодна пераказаўшы змест байкі «Лебедь, Рак и Щука», пісьменніца тут жа прымаецца асуджаць вяскоўцаў, якія ніяк не завязуць дроў у школу, не хочуць яе па чарзе прыбіраць, не рамантуюць царкву і г. д. Воўк у Косіч («Воўк і Зязюля») ідзе «на перасяленне, цераз Чалябін на Амур», Арол ляціць «з паднябесся» і спускаецца «на Палессе» («Арол і Пчала») — рэальныя з'явы тагачаснай рэчаіснасці, канкрэтная геаграфія ўваходзяць у пераклады баек Крылова, робячы іх, па сутнасці, новымі творамі, мала падобнымі да арыгінала.

Калі праводзіць аналогію ў прынцыпах перадачы іншамоўных тэкстаў, то апрацоўкі баек Крылова, апублікаваныя Косіч, бліжэй стаяць не да вольных наследаванняў Лучыны, а да ананімных перакладаў твораў рэвалюцыйнай публіцыстыкі — брашур «Пра багацце ды беднасць» (1881) і «Дзядзька Антон, або гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць — не ведаем» (1892). Пераклад гэтых брашур зроблены з улікам канкрэтнага чытача — беларуса. Іменна таму ўкраінскія (у першым выпадку) і польскія (у другім) прозвішчы, месца дзеяння, падзеі, факты і г. д. скрозь заменены аналагічнымі ці

падобнымі беларускімі. Так, ва ўкраінскім выданні С. Падалінскага «Про богатство та бідність» (1876), з якога зроблены пераклад, дзеянне адбываецца каля нейкага цукровага завода на Украіне, у беларускім — на будаўніцтве Палескай чыгункі. Беларускім перакладчыкам пасобныя мясціны арыгінала апушчаны, дададзены новыя факты, лічбы, што характарызуюць эканамічныя працэсы беларускай вёскі. Нават імя апавядальніка Міхайла заменена больш каларытным беларускім — Кастусь.

Трэба сказаць, што падобны «адапціраваны» пераклад, які нечым нагадвае старажытнабеларускі («скарынінскі»), у XIX і нават на пачатку XX стагоддзя меў пэўнае пашырэнне. З ім мы сустракаемся, напрыклад, у выдадзеным у 1891 г. на беларускай мове ў Маскве апавяданні У. Гаршына «Сігнал», у якім Сямён Іваноў стаў Семкам, яго жонка Арына — Таццянай, Васіль Спірыдонаў — Васілём Гушчаю. Цікава, што пра гэтыя змены, як пра нешта само сабой зразумелае, паведамлялася нават на вокладцы выдання: «Пераложана з малымі (!) зменамі»[1]. Гэтак сама ва ўкраінскім перакладзе «Бацькі Шымана» (у беларускім варыянце — «Дзядзька Антон») — брашуры «Дядько Дмитро» (1905) — польскія прозвішчы заменены ўкраінскімі, маюцца дапісаныя мясціны, тэкст заканчваецца ўкраінскім вершам. Безумоўна, адаптацыі пры перакладах падвяргаліся перш за ўсё нелегальныя рэвалюцыйныя выданні, якія адрасаваліся зусім пэўнаму чытачу, павінны былі быць надзённымі, зразумелымі і даходлівымі. Але, як мы бачым, методыка такіх перакладаў распаўсюджвалася часамі і на мастацкія творы, паэтычныя і празаічныя. Гэта гаворыць пра тое, што адзіных, строга вытрыманых творчых прыёмаў беларускі пераклад XIX стагоддзя не меў. Іх стварэнне — заслуга XX стагоддзя, плён намаганняў перш за і ўсё класікаў нашай літаратуры — Янкі Купалы, Максіма Багдановіча і Якуба Коласа. Разам з перакладчыцкай дзейнасцю гэтых пісьменнікаў закончыўся так званы «вопытны перыяд» у гісторыі беларускага перакладу. Пачаўся новы, галоўная заслуга якога — выпрацоўка і замацаванне асноўных прынцыпаў рэалістычнага перакладчыцкага пісьма.

Беларускаму перакладу пачатку XX стагоддзя дасталася небагатая спадчына як колькасна, так і якасна. Перш за ўсё трэба было асвойваць амаль некранутыя ранейшымі перакладчыкамі жанры. З мастацкай прозы, у прыватнасці, быў перакладзены, як адзначалася ўжо, «Сігнал» Гаршына, а таксама некалькі апавяданняў польскага пісьменніка Сянкевіча. Драматычныя жанры не закраналіся зусім.

---

[1] У. Гаршын. Сігнал альбо расказ аб тым, як дабро перамагло зло ў чалавеку. Пераложана з малымі зменамі. М., 1891.

Можа таму, калі развіццё беларускага тэатра выклікала вялікі попыт на п'есы, і перакладчыкі, побач з драматургамі, сталі імкнуцца яго задаволіць, на свет зноў з'явіўся «адапціраваны» пераклад. Не было традыцый перакладу п'ес. Не было калі думаць над гэтымі традыцыямі. Ды і глядач хацеў бачыць на сцэне не жыццё ўкраінца, паляка ці рускага (гэта ён, дарэчы, бачыў у пастаноўках рускіх, польскіх і ўкраінскіх труп, якія яшчэ з XIX стагоддзя гастралявалі на Беларусі), а перш за ўсё сваё. Так, у перакладах камедый Крапіўніцкага «Па рэвізіі» і «Пашыліся ў дурні» скарачаліся некаторыя эпізоды, усе ўкраінскія назвы населеных месц і імёны замяняліся беларускімі, з'яўляліся пэўныя ўстаўкі і дадаткі[1]. Пэўнай апрацоўцы пры перакладзе падвергліся таксама п'есы Чэхава, Ажэшкі і інш.

Паэтычны беларускі пераклад, у адрозненне ад празаічнага і драматычнага, меў усё ж пэўныя традыцыі. Яны маглі хаця б сказаць, як не трэба перакладаць. Купала і Багдановіч, людзі высокаталенавітыя, эрудзіраваныя, скарыстоўвалі і багатыя дасягненні рускай, украінскай і польскай перакладчыцкай думкі. Так, з прац Багдановіча пра ўкраінскую літаратуру відаць, што паэту былі вядомы лепшыя пераклады Франка, Самійленкі. Як крытык, ён сам аналізаваў некаторыя працы рускіх перакладчыкаў. Купала, якому была надзвычай блізкай польская культура, быў знаёмы, безумоўна, з яе дасягненнямі ў галіне мастацкага перакладу.

Творчая дзейнасць двух карыфеяў роднай літаратуры за параўнальна кароткі прамежак часу надзвычай абагаціла беларускі пераклад. Купала «спецыялізаваўся», галоўным чынам, на літаратурах славянскіх народаў, мову якіх ён добра ведаў, літаратуры якіх любіў. Па любві выбіраліся для перакладу і аўтары — Някрасаў, Кальцоў, Міцкевіч, Канапніцкая, Шаўчэнка... Ніводнага выпадковага паэта, ніводнага выпадковага твора!

Багдановіч таксама шмат перакладаў са славянскіх літаратур. У прыватнасці, творы ўкраінскіх пісьменнікаў (Шаўчэнкі, Франка, Крымскага і інш.) загучалі ў яго перакладзе не толькі па-беларуску, але і па-руску. Але галоўная заслуга Багдановіча ў гісторыі беларускага перакладу ў тым, што дзякуючы яму ўпершыню загаварылі на нашай мове паэты самых розных краін і эпох: старажытныя рымляне Гарацый і Авідзій, француз Поль Верлен, бельгіец Эміль Верхарн, немцы Гейне і Шылер, фін Рунеберг. Дзякуючы яго стараннням беларусы адчулі самабытную прыгажосць народнага меласу — скандынаўскага, іспанскага, сербскага, персідскага, японскага. Багдановіч

---

[1] Гл. пра гэта: П. П. Охріменко. Шляхами братання, Київ, 1968, стар. 69-76.

імкнуўся даць беларускаму чытачу ўзоры сусветнай лірыкі на роднай мове, хацеў даказаць, што гэтая мова можа перадаць самыя разнастайныя сэнсава-вобразныя і эмацыянальна-стылёвыя адценні неўміручых твораў замежных аўтараў. І ў адрозненне, напрыклад, ад Ельскага даказаў гэта!

А літаратурная мова ўжо сапраўды магла многае, не тое што ў XIX ст. Вядома, што «адшуканне патрэбнай сэнсавай адпаведнасці, уласна, магчыма толькі пры наяўнасці культурнай роўнасці моў. Калі ж такога няма то трэба дабівацца і дабіцца запаветнай роўнасці; а на гэта патрэбны час, праца, у некаторых выпадках — моватворчасць шэрагу пакаленняў»[1]. Тое, што іншыя народы рабілі на працягу некалькіх пакаленняў, беларусам неабходна было зрабіць за пару дзесяткаў год. Гэта прадвызначалася самім ходам гістарычнага прагрэсу, паскораным развіццём беларускай літаратуры і літаратурнай мовы.

Працэс станаўлення літаратурнай мовы (актывізацыя яе лексічных багаццяў, усталяванне граматычных нормаў, фарміраванне функцыянальных стыляў) адбываўся вельмі хутка. Яна, накапіўшы ўжо такія-сякія багацці ў XIX ст., актыўна абшарвала «кішэні свае памяці» (Я. Колас), звярталася за дапамогай да сяброў-славян, галоўным чынам суседзяў. На пачатку XX ст. над ёй працавалі дзесяткі пісьменнікаў самага рознага таленту, творчых схільнасцяў і плёну. Сярод іх — прызнаныя майстры слова: Купала, Колас, Багдановіч, Бядуля, Цётка, Гартны, Гарун, Ядвігін Ш., Каганец, Галубок, Гарэцкі. І хай некаторыя з названых паэтаў і празаікаў не займаліся непасрэдна перакладам, яны ўсё роўна, садзейнічаючы развіццю беларускай літаратурнай мовы, апасродкавана ўплывалі на яго якасць, яго здабыткі.

Багдановіча-перакладчыка вызначаюць надзвычай шырокі дыяпазон твораў, якія ён перакладаў, і, разам з тым, іх выбарнасць, адсутнасць выпадковасці; імкненне перадаць у першую чаргу дух арыгінала, а не яго літару. Разглядаючы вершы Тэафіля Гацье ў рускіх перакладах Гумілёва, паэт падкрэсліваў перш за ўсё «пэўную духоўную роднасць французскага паэта і яго рускага перакладчыка», ганіў апошняга «за імкненне да літаральнай перадачы подлінніка»[2]. Рэцэнзія была напіса ў 1914 г., у пару творчай сталасці Багдановіча. У ёй, безумоўна, выявіліся творчыя прынцыпы самога аўтара, паэта-перакладчыка.

---

[1] И. Вильмонт. «Предисловие» да кн.: «Зарубежная поэзия в русских переводах». М., 1968, стар. 11.
[2] М. Багдановіч. Збор твораў у двух тамах, т. 2. Мінск, І 1968, стар. 403, 404.

Разам з тым Багдановіч, асабліва ў ранні перыяд творчасці, не заўсёды поўнасцю перадаваў нацыянальную спецыфіку арыгінала, арыентаваўся перш за ўсё няпростага селяніна-беларуса, не знаёмага з рэаліямі чужой рэчаіснасці. Іменна таму ў вершы Генрыха Гейнэ «Азра» і заструменіла вясковая «крыніца» замест арыстакратычнага «фантана», а «голая вяршына» з верша «...У паўночным краю на кургане» стала традыцыйным і беларускім курганом. У гэтым ён падтрымліваў перакладчыцкія прынцыпы ранняга Купалы, які таксама падчас «замяняў этнаграфічныя дэталі, лексічныя і фразеалагічныя элементы тэксту адпаведнымі нацыянальнымі беларускімі адзінкамі»[1] Такое сыходжанне беларускіх перакладчыкаў да запатрабаванняў, густаў, магчымасцяў вобразнага мыслення простага чытача было на пачатку стагоддзя з'явай даволі распаўсюджанай. Аднак з цягам часу рос — адукацыйна, культурна, эстэтычна — дэмакратычны чытач, змяняўся паступова і характар перакладаў, якія яму адрасаваліся. Новага, савецкага чытача, адукаванага, знаёмага з шырокім светам — духоўным і матэрыяльным,— Багдановічу не суджана было ўбачыць. З ім сам-насам загаварыў Купала. І тады, калі і ў час грамадзянскай вайны перакладаў «Інтэрнацыянал» і неўміручае «Слова аб палку Ігаравым». І калі ўзнаўляў на беларускай мове да 100-годдзя з дня смерці Пушкіна чаканеныя радкі яго «Меднага конніка». І калі рыхтаваў у 1939 г. поўнае выданне беларускага «Кабзара», нанава пераглядаючы і выпраўляючы свае дарэвалюцыйныя пераклады твораў Шаўчэнкі з «замененымі этнаграфічнымі дэталямі».

У савецкі час Купала перакладаў і паэзію, і прозу, і драматургію. І што б гэта ні было: ці вершаваная страфа, ці драматычны дыялог, ці празаічны перыяд — усюды перакладчык імкнуўся перадаць мастацкую сутнасць арыгінала, душу яго. «Янка Купала,— піша С. Александровіч,— паставіў мастацтва перакладу ў беларускай літаратуры на шырокую аснову, з'явіўся пачынальнікам новых творчых прынцыпаў мастацкага перакладу»[2]

Калі гаварыць пра савецкі беларускі пераклад, то побач з Янкам Купалам становіцца ў адзін рад другі волат беларускай літаратуры — Якуб Колас. Пра яго — уся наша далейшая гутарка.

---

[1] Д. Палітыка. Янка Купала — перакладчык. Мінск, 1959, І стар. 12.

[2] С. Х. Александровіч. Янка Купала — мастер художественного перевода. Автореферат кандидатской диссертации. Минск, 1958, стар. 19.

## ПОШУКІ І МАЙСТЭРСТВА

Ёсць падставы меркаваць, што перакладаць Якуб Колас пачаў яшчэ задоўга да рэвалюцыі, прыблізна ў адзін час з Янкам Купалам. Па ўспамінах самога пісьменніка, у час працы ў «Нашай ніве» да суда 1908 г. ён «пісаў сваё, правіў допісы, перакладаў тое-сёе»[1]. На жаль, мы дагэтуль не ведаем ніводнага дарэвалюцыйнага перакладу Коласа. Архіў «Нашай нівы» захаваўся далёка не поўнасцю, многія рукапісы з яго бясследна зніклі.

Як перакладчык Колас стаў вядомы чытачу з 1926 г., калі ў літаратурна-мастацкім дадатку да газеты «Беларуская вёска» з'явіліся яго вольныя пераклады з рускай мовы вершаў Рабіндраната Тагора «Шапнуў ён: «Мілая, ну, глянь...» і «Скажы мне, мой любы...»[2]

Пераклады Якуба Коласа з Р. Тагора працягвалі традыцыю вольных наследаванняў, традыцыю, якая дала лепшыя за арыгінал лермантаўскія «Горные вершины» — выключэнне, якое ніколі не стане правілам» (М. Забалоцкі). Вольныя пераклады з Рабіндраната Тагора з'явіліся для пісьменніка своеасаблівай пераходнай ступенню да яго пазнейшых перакладаў. І не толькі ў сэнсе павышэння перакладчыцкага майстэрства. Пераклады з Р. Тагора — гэта адзіны, выключны выпадак, калі Колас перакладаў не непасрэдна з мовы арыгінала, якую ён не ведаў, але праз пасрэдніцтва рускай мовы.

Вядома, што прынцыпы рэалістычнага перакладу высмагаюць перш за ўсё веданне перакладчыкам мовы арыгінала. Гэтага патрабавалі ў свой час Горкі, Блок, Чукоўскі, Багрыцкі, Пастэрнак, Маршак — усе тыя, хто ствараў савецкую школу перакладу, хто прынёс ёй сусветную вядомасць і славу. Развіваючы традыцыі беларускага дарэвалюцыйнага перакладу, асабліва традыцыі Багдановіча і Купалы, беларускія савецкія перакладчыкі 20-х гг.— Крапіва, Дубоўка, Гаўрук і інш.— таксама звярталіся непасрэдна да твораў у іх арыгінальным гучанні. І ўсё ж наглядаўся ў тыя часы, і даволі часта, зварот да пасрэдніцтва рускай мовы. З'ява гэта была, відаць, заканамернай. Перакладаліся ў 20-30-я гг. творы самых розных аўтараў і літаратур[3], а перакладчыкаў, якія б ведалі некалькі замежных моў, было не так многа.

---

[1] Максім Лужанін. Колас расказвае пра сябе. Мінск,. 1964, стар. 174.

[2] «Чырвоны сейбіт», дадатак да газеты «Беларуская вёска»,. 1926, № 5, 30 снежня.

[3] Так, у 1931 г. у Беларусі было выдадзена 124 пераклады твораў іншамоўных аўтараў — амаль столькі, колькі арыгінальных твораў беларускіх пісьменнікаў (126). Гл.: «Кніга масам», 1932, № 4-5, стар. 25.

Колас, такім чынам, аддаў даніну часу. Пазней жа ён будзе перакладаць толькі з рускай, украінскай і польскай моў — тых моў, якія добра ведаў яшчэ з дзяцінства.

Найбольш перакладаў Колас у 30-я гг. Гэта выклікалася галоўным чынам тым, што іменна ў гэты час беларускі народ разам з усімі савецкімі людзьмі шырока адзначаў некалькі знамянальных дат: у 1937 г.— 100-годдзе з дня смерці А. С. Пушкіна, у 1939 — 125-годдзе з дня нараджэння Т. Р. Шаўчэнкі і М. Ю. Лермантава. Да знамянальных дат друкаваліся шматлікія творы гэтых пісьменнікаў у перакладзе на беларускую мову, перакладаць якія было даручана лепшым літаратурным сілам Беларусі. Таму, безумоўна, Колас не мог не скарыстаць магчымасці хоць у невялікай меры аддзячыць сваім найбліжэйшым літаратурным настаўнікам, павучыцца ў лепшых майстроў слова.

Літаральна ўсе пераклады Коласа сведчаць яшчэ і пра тое, што паэт узнаўляў па-беларуску толькі тых пісьменнікаў, якія былі блізкія яму гуманістычным пафасам творчасці, дэмакратызмам ідэй. Так, у лісце да жонкі Марыі Дзмітраўны ад 12 ліпеня 1924 г. Колас пісаў пра сваё захапленне творчасцю выдатнага сына Індыі: «Дачытваю Рабіндраната Тагора «Гора». Чытаў яго «Крушэнне». У сэнсе ўражання яно робіць больш, чым «Гора»[1] Прыблізна на гэты час прыпадаюць і коласавы пераклады вершаў Р. Тагора[2]. Шмат і надзвычай цёпла выказваўся Колас і пра сваіх першых настаўнікаў — Пушкіна, Лермантава, Шаўчэнку, Міцкевіча. Любіў ён і сваіх сучаснікаў — украінскіх паэтаў Максіма Рыльскага і Паўло Тычыну.

Адным з самых першых і самых значных перакладаў Якуба Коласа з'яўляецца пераклад на беларускую мову неўміручай паэмы Пушкіна «Палтава». Пушкін яшчэ з дзіцячых гадоў быў адным з любімых паэтаў Коласа. Але няхай скажа пра гэта сам пісьменнік: «Я добра памятаю: у дзіцячыя гады ў маёй пастуховай торбе ляжаў невялікі, добра патрапаны томік пушкінскай паэзіі. Да таго часу я ўжо сяк-так навучыўся чытаць, і чытанне паланіла мяне. У належныя мінуты, дзенебудзь на ўзлеску або ў прыбярэжным лазняку, я з захапленнем чытаў паэмы і вершы Пушкіна, завучваў іх напамяць. Я мог прачытаць па памяці ад пачатку да канца «Палтаву», «Братоў-разбойнікаў», «Цыганоў» і шмат лірычных вершаў. Розумам я тады, магчыма, не разумеў яшчэ гэтай бессмяротнай паэзіі, але сваім дзіцячым сэрцам адчуваў непераадольную ўладу чароўнага пушкінскага верша, гармо-

---

[1] Якуб Колас. Збор твораў у 12 тамах, т. 11. Мінск, 1962, стар. 436. (Далей усе спасылкі на гэта выданне — Якуб Колас. Збор твораў...)
[2] Пераклад вершаў Р. Тагора «Шапнуў ён: «Мілая, ну, глянь...» датуецца 1922, «Скажы мне, мой любы...» — 1926 г.

нію формы і зместу. Многія вершы Пушкіна выклікалі ў мяне блізкія, родныя вобразы»[1].

Праз усё жыццё пранёс Колас любоў да «сонца рускай паэзіі», да генія сусветнай літаратуры, аднаго са сваіх настаўнікаў. «Я люблю Пушкіна за ясны, шырокі, разнастайны паэтычны гарызонт, за яго чулыя, гуманныя адносіны да людзей і, у прыватнасці, да мнагалікіх народаў Расіі, якія стагналі пад ярмом царскага прыгнёту»,— пісаў народны паэт Беларусі ў 1949 г. у артыкуле «Друг человечества», калі ў нашай рэспубліцы шырока святкавалася 150-годдзе з дня нараджэння волата рускай паэзіі. У тым жа артыкуле, які быў надрукаваны ў «Литературной газете»[2] Колас гаварыў пра ўплыў творчасці Пушкіна не толькі на беларускую паэзію, але і на творчасць украінцаў Тараса Шаўчэнкі, Лесі Украінкі, Івана Франка, палякаў Адама Міцкевіча і Юльюша Славацкага, грузінаў Ільы Чаўчавадзе і Ніколаза Бараташвілі, армяніна Аванеса Туманяна, азербайджанца Мірзы Фаталі Ахундава, казаха Абая Кунанбаева.

Да пушкінскага юбілею ў «Звяздзе» быў змешчаны другі артыкул Коласа — «Сонца нашай паэзіі»[3]. Там, у прыватнасці, паведамлялася пра плён вялікай працы па перадачы бессмяротных пушкінскіх твораў на беларускай мове. «Беларускі народ чытае Пушкіна на сваёй роднай мове,— гаварылася ў артыкуле,— Яшчэ Янка Купала пераклаў паэму «Медны коннік». Закончыў шматгадовую работу над перакладам «Яўгенія Анегіна» Аркадзь Куляшоў. Пятро Глебка пераклаў выдатны пушкінскі твор «Барыс Гадуноў». Перакладзены казкі і часткова проза. Кузьма Чорны пакінуў нам таленавітыя пераклады «Капітанскай дачкі» і «Дуброўскага». Многія лірычныя вершы Пушкіна з'явіліся ў перакладах П. Броўкі, М. Танка, М. Лужаніна, А. Якімовіча»[4]. Аўтарская сціпласць не дазволіла Коласу дадаць сюды і свой пераклад «Палтавы».

Да перакладу паэмы Колас прыступіў не пазней жніўня 1936 г. Часопіс «Полымя рэвалюцыі» ў нататцы пад загалоўкам «Над чым працуюць беларускія пісьменнікі», змешчанай у раздзеле «Хроніка», пісаў у верасні таго ж года: «Народны паэт Беларусі Якуб Колас падрыхтоўвае да друку зборнік вершаў, які выйдзе ў Маскоўскім дзяржаўным выдавецтве мастацкай літаратуры, а таксама перакладае паэму Пушкіна «Палтава»[5] Да 100-годдзя з дня смерці вялікага рускага паэта ра-

[1] Якуб Колас. Збор твораў, т. 11, стар. 381.
[2] «Литературная газета», 1949, 4 чэрвеня.
[3] «Звязда», 1949, 5 чэрвеня.
[4] Там жа.
[5] «Полымя рэвалюцыі», 1936, № 9, стар. 126.

бота над перакладам была скончана. «Полымя рэвалюцыі» паведаміла: «1 лютага ў Мінску ў памяшканні Белдзяржтэатра будзе праведзены вялікі вечар перакладаў А. С. Пушкіна на мовы нацыянальнасцей БССР... Акадэмік, народны паэт рэспублікі Якуб Колас прачытае пераклад «Палтавы»...»[1] Неўзабаве ўрыўкі з перакладу пачалі з'яўляцца і ў друку. Так, у нумары «Звязды» за 9 лютага 1937 г. быў апублікаваны ўрывак з першай песні паэмы, газета «Літаратура і мастацтва» двойчы (26 лютага і 17 сакавіка) змяшчала ўрыўкі з другой песні паэмы[2]. Аднак поўнасцю паэма з'явілася ў свет толькі ў 1938 г.[3]

Адзначыць два вялікія юбілеі —100-годдзе з Дня смерці (1937) і 150-годдзе з дня нараджэння Пушкіна (1949) — рыхтаваліся ўсе народы Савецкага Саюза. У прыватнасці, на Украіне выдаваліся шматлікія пераклады твораў класіка рускай літаратуры на ўкраінскую мову, абмяркоўваліся тэарэтычныя прынцыпы такіх перакладаў. Прыблізна ў той час, калі Колас перакладаў на беларускую мову «Палтаву», Максім Рыльскі пісаў артыкул «Пушкін на ўкраінскай мове». У ім вядомы пісьменнік не толькі імкнуўся падагульніць плён літаратараў па ўзнаўленні бессмяротных твораў Пушкіна сродкамі ўкраінскай мовы, але і даў грунтоўнае вытлумачэнне неабходнасці такіх перакладаў. «Украінскія пераклады Пушкіна,— сцвярджаў Рыльскі,— надзвычай патрэбны. Гэта, па-першае, спосаб наблізіць пушкінскую спадчыну да шырокіх мас нашага народа, якія думаюць і гаворáць на ўкраінскай мове,— такім чынам, пераклады з'яўляюцца трамплінам да далейшага азнаямлення з творчасцю Пушкіна ў арыгінале; а па-другое, які гэта цудоўны спосаб вывастрыць сваю моўную зброю, узнесці ўкраінскую моўную культуру на вышэйшую ступень развіцця. Пераклады Пушкіна на ўкраінскую мову ўзбагачаюць украінскую мову, украінскую паэзію, літаратуру наогул. Мы ўпэўнены, што паэты, перакладчыкі, працуючы над перакладамі з Пушкіна, адчувалі, як у цяжкіх, але і радасных пошуках слоўнага эквіваленту, а калі не эквіваленту, дык хоць паралелі да пушкінскага арыгінала,— як яны пашыраюць свой уласны творчы светапогляд, удасканальваюць свае ўласныя творчыя сродкі»[4]

Выказванне Рыльскага ў поўнай меры стасуецца і да перакладаў з Пушкіна на беларускую мову. Але ў канкрэтных умовах нашай рэспублікі неабходнасць беларускай інтэрпрэтацыі паэзіі Пушкіна,

[1] «Полымя рэвалюцыі», 1937, № I, стар. 158.
[2] М. Базарэвіч у артыкуле «Якуб Колас — перакладчык» («Літаратура і мастацтва», 1958, 13 жніўня) памылкова адносіць дату публікацыі асноўных ўрыўкаў з «Палтавы» да 1936, а не да 1937 г.
[3] А. С. Пушкін. Палтава (пераклад з рускай мовы Я. Коласа). Мінск, 1938.
[4] М. Рильський. Пушкін українською мовою. У зб. «О. С. Пушкін». Київ, 1938, стар. 22—23.

рускай класікі увогуле дыктуецца і спецыфічнымі задачамі. Перакладныя творы адрасуюцца ў першую чаргу чытачу, які не ведае мовы арыгінала. Але ж беларусы добра разумеюць рускую мову. І ім, здавалася б, не патрэбны нейкі спецыяльны «трамплін да далейшага азнаямлення» з тым ці іншым творам рускай літаратуры. Аднак калі з, такой думкай можна пагадзіцца ў адносінах да навуковай літаратуры, то ў дачыненні да прыгожага пісьменства яна зусім не мае слушнасці. Высокамастацкія пераклады рускай класічнай літаратуры ўзбагачаюць беларускую мову, актывізуюць яе ўласныя лексічныя, формаўтваральныя, сінтаксічныя магчымасці, павышаюць культуру роднага слова. Яны з'яўляюцца неаспрэчным доказам руска-беларускай культурнай еднасці, добрай школай перакладчыцкага майстэрства для многіх літаратараў. Ужо адно гэта цалкам апраўдвае з'яўленне лепшых твораў рускай паэзіі, прозы і драматургіі на беларускай мове. Але, апрача пералічанага, ёсць яшчэ акалічнасць, не ўлічваць якую нельга.

Твор у перакладзе на іншую мову — не копія, не паўтарэнне арыгінала. Перакладны твор, паводле назірання Гётэ,— гэта «нешта трэцяе», узнікшае ў выніку «збліжэння чужога са сваім, нацыянальным, знаёмага з незнаёмым»[1]. Да перакладнога твора, відавочна, можна« дастасаваць вызначэнне «знаёмы незнаёмец», дадзенае калісьці Бялінскім літаратурнаму вобразу. У перакладзе мы пазнаем арыгінал, яго характэрныя асаблівасці, ранейшы воблік. Гэтак «Яўгеш Анегін», «Палтава» Пушкіна, «Дэман», «Мцыры» Лермантава і іншыя без цяжкасці прызнаюцца і ў беларускім строі. Але ў перакладзе непазбежна акажуцца некаторыя новыя, незнаёмыя рысы. Беларуская «Палтава»— гэта не дакладная копія рускай паэмы, а некалькі іншы твор. З'яўляючыся адначасовым здабыткам дзвюх літаратур, перакладны твор, з аднаго боку, належыць аўтару арыгінала, а з другога — уваходзіць у арыгінальную іншамоўную літаратуру, узбагачае, памнажае яе эстэтычныя каштоўнасці. Вось чаму мы можам захапляцца творамі класікаў рускай літаратуры і ў іх першасным гучанні, і ў таленавітым узнаўленні гэтых твораў на беларускай мове. Магчымасць азнаямлення са спадчынай рускіх пісьменнікаў у арыгінале не выключае, такім чынам, мэтазгоднасці сустрэчы са «знаёмымі незнаёмцамі»— перакладамі на беларускую мову. Гэта знаёмства з «нечым трэцім», у якім «абавязкова знаходзіць адлюстраванне нацыянальная своеасаблівасць абодвух народаў, прадстаўленых пера-

[1] Цыт. па нататках А. Кундзіча «Перекладацький блокнот». «Літературна Україна», 1970, I9 чэрвеня.

кладчыкам і аўтарам (праз перакладчыка)»[1] узбагачае чытача духоўна, нярэдка прыносіць яму няменшую эстэтычную асалоду, чым пры чытанні арыгінала.

Веданне беларусамі рускай мовы не здымае неабходнасці перакладання лепшых твораў рускай літаратуры на мову беларускага народа. Але, у сваю чаргу, іменна гэта абумоўлівае асаблівую складанасць такіх перакладаў, ставіць перад перакладчыкамі дадатковыя цяжкасці. Амаль кожны наш чытач, для якога творы Пушкіна і Лермантава, Блока і Ясеніна, Маякоўскага і Твардоўскага такія ж знаёмыя і блізкія, як і творы Купалы, Коласа, Багдановіча, становіцца — хоча ён таго сам ці не хоча — міжвольным крытыкам беларускіх перакладаў рускай паэзіі. Радкі арыгінала, вядомыя з дзяцінства, прыходзяць на памяць адразу ж, ледзь толькі пачуюцца яны ў рэху — беларускім перакладзе. І калі рэха фальшывіць, змяняе тон і чысціню першаснага гучання — гэта ўмомант будзе заўважана і належным чынам ацэнена. Відавочна, такога чытача-крытыка перакладчыкі з англійскай, французскай, італьянскай і іншых малазнаёмых моў не маюць. Таму перакладаць з гэтых моў у пэўнай ступені лягчэй, чым з рускай.

Усе гэтыя фактары яскрава сведчаць аб складанасці задачы, за вырашэнне якой узяўся Колас. Цяжкасць заключалася яшчэ і ў тым, што да 30-х гг. нашага стагоддзя беларускі пераклад не меў, па сутнасці, вопыту ў перадачы на беларускай мове пушкінскай паэзіі наогул, «Палтавы» ў прыватнасці. У той час, калі «Палтава» загучала па-ўкраінску яшчэ ў першай палове XIX ст., калі ўкраінс.кія савецкія перакладчыкі ўспрынялі шматгадовыя традыцыі сваіх папярэднікаў (А. Шпігоцкага, Я. Грабінкі, С. Руданскага і інш.)[2], Колас вымушаны быў ісці непраторанымі сцежкамі, эксперыментаваць, ствараць свае традыцыі, што было нялёгка. Тым больш «Палтава» як мастацкі твор — з'ява ў пушкінскай паэзіі асаблівая, выключная.

Бялінскі, ацэньваючы мастацкія дасягненні Пушкіна, справядліва ўказваў, што кожная карціна ў паэме выпісана так ярка, так шматфарбна, што «жывапісец мог бы пісаць з яе, як з натуры»[3]. Але не толькі гэта вызначае арыгінальнасць твора. У «Палтаве» Пушкін імкнуўся жанр старой, гераічнай паэмы спалучыць з новай, лірыка-эпічнай, якую стварыў рамантызм. Таму адлюстраванне вялікай гістарычнай падзеі спалучаецца тут з рамантычным сюжэтам (каханне Марыі і Мазепы, каханне вельмі складанае, драматычнае). Такая

---

[1] Олексій Кундзіч. Перекладацький блокнот. «Літературна Україна», 1970, 19 чэрвеня.
[2] Гл. пра гэта ў кн. Ф. Небарачка «О. С. Пушкін українською мовою». Львів, 1958.
[3] В. Г. Белинский. Полное собрание сочинений, т. VII М 1955, стар. 418.

складанасць твора абумовіла і выбар моўна-выяўленчых сродкаў. У «Палтаве» з надзвычайнай яркасцю адлюстраваўся створаны паэтам «сінтэз разнародных па паходжанню і стылістычнаму профілю моўных сродкаў», які «ўяўляў сабой творчы «сплаў», якасна новы, яркі і высокамастацкі»[1]. Якраз у гэтай пушкінскай паэме сцерлася грань паміж моўнымі сродкамі паэтычнага і празаічнага характару, паміж складам высокім і нізкім, паламаліся каноны трох моўных «шціляў». Тут, як і ў шэрагу іншых твораў «палтаўскага» часу, кавалася руская літаратурная мова. Смеласць паэта ў падборы і выкарыстанні моўна-выяўленчых сродкаў была надзвычайнай. Каб уявіць атмасферу тагачаснага моўнага кансерватызму, варта прыгадаць хаця б тое, што некаторыя крытыкі папракалі Пушкіна нават за ўжытыя ў «Палтаве» словы «визжать», «вставай», «ого», «пора» і іншыя, якія здаліся ім нізкімі, «бурлацкімі» выразамі.

Усё гэта і стварала, кажучы словамі Коласа, «цяжкасці, здавалася б, неадольныя», цяжкасці, з якімі давялося сутыкнуцца яму ў першы ж дзень сваёй працы над перакладам.

Часта ад пісьменніка можна пачуць, што самае цяжкае для яго — напісаць першыя радкі альбо першую старонку твора. Іншымі словамі — пачаць твор. У. гэтым няма нічога дзіўнага: іменна першыя радкі з'яўляюцца вынікам пошукаў «гучання, зададзенага ў пачуццях, але цяжкага для выканання словам, нейкай гукавой дамінанты, нейкай адзінай струны»[2] якая гучыць да канца рэчы; яны — гэта той уздых, з якога пачынаецца доўгае і роўнае дыханне твора. Не менш складаную задачу мае і перакладчык. Вартасць усяго перакладу ў многім залежыць ад яго «запеву».

Вось пачатак «Палтавы», велічны, маляўнічы:

Богат и славен Кочубей.
Его луга необозримы;
Там табуны его коней
Пасутся вольны, нехранимы.
Кругом Полтавы хутора
Окружены его садами,
И много у него добра,
Мехов, атласа, серебра
И на виду и под замками.
Но Кочубей богат и горд
Не долгогривыми конями,

---

[1] А. И. Ефимов. История русского литературного языка М„ 1957, стар. 231.
[2] Мікола Лобан. Думкі ўголас. «Літаратура і мастацтва», 1964, 4 жніўня.

Не златом, данью крымских орд,
Не родовыми хуторами,
Прекрасной дочерью своей
Гордится старый Кочубей[1].

Інтанацыйная плаўнасць, словы старaславянскага паходжання (необозримы, нехранимы), кароткая форма прыметнікаў (богат, славен) — усё гэта стварае атмасферу прыўзнятасці, урачыстасці. Адразу ж адчуваецца, што аўтар хоча сказаць нешта вельмі важнае, патрэбнае.

За размахам радка, за насычанасцю яго вялікай колькасцю галосных а і о (богат, Кочубей, табуны, нехранимы, садами, много, атласа і інш.) адчуваецца шырыня, бязмежная роўнядзь стэпавага прастору.

У перакладзе першая песня паэмы пачынаецца так:

Багаты, слынны Качубей,
Яго лугі — разгон прастору;
Там табуны яго каней
Пасуцца вольна, без прызору.
Вакол Палтавы хутары
Яго атулены садамі.
Жыве ў раскошы і ў дабры,
І п'е і есць на серабры,
І шмат багацця пад замкамі.
Ды Качубей багат і горд
Не доўгагрывымі канямі.
Не золатам, данінай орд,
І не фамільнымі дварамі,
А ганарыцца Качубей
Красуняй дочкаю сваей.

Колас імкнуўся выканаць першую запаведзь рэалістычнага перакладу: дакладна перадаць змест арыгінала. На першы погляд можа здацца, што гэта не так ужо і цяжка. Але, як вядома, паэтычны твор слова ў слова перакласці нельга хаця б таму, што парушыцца рытміка-інтанацыйная плынь вершаваных радкоў, і адно гэта прымушае перакладчыка адступаць ад літары арыгінала. Такія адступленні якраз і прыводзяць да скажэння сапраўднага зместу твора. Перакладчык, у асобе якога спалучаецца вучоны і пісьменнік, павінен ведаць, дзе, калі і чым ахвяраваць, што дадаць, каб «нешта трэцяе» не

[1] Прыклады з арыгінала даюцца згодна выдання: А. С. Пушкин. Сочинения. М., 1949; с перакладу — па кнізе: А. С. Пушкін. Выбраныя творы. Мінск, 1949.

з'явілася своеасаблівым паклёпам на аўтара, не паказала яго малаталенавітым ці маладасведчаным чалавекам.

Нават беглае знаёмства з перакладам першых радкоў «Палтавы» (дарэчы, як і з усёй паэмай) сведчыць, што Колас ашчадна і беражліва паставіўся да перадачы зместу пушкінскага твора. Важнейшае, сутнаснае, характэрнае ў ім перакладчык імкнуўся захаваць. Калі ж даводзілася ахвяраваць, то ахвяра выбіралася найменшая, неістотная. Страціўшы ў адным месцы, Колас абавязкова стараўся набыць у іншым — новым набыткам кампенсаваць ранейшую страту.

Усё гэта асабліва добра заўважаецца, калі нагадаць раней прыведзеныя радкі паэмы ў перакладзе на ўкраінскую мову, зробленым С. Галаваніўскім у тым жа юбілейным 1937 г.:

Багат і славен Кочубей.
Його луки кінця не мають;
На вільній волі в тьмі ночей
Там табуни його блукають.
В Полтаві хутір не один
Його оточений садами,
Багато зібрано данин,
Єдвабу, срібла і перлин
І на очах і під замками.
Та гордий Кочубей між всіх
Не молодими табунами,
Не данню з кримських орд шумних,
Не родовими хуторами,—
Дочки красою між людей
На старість гордий Кочубей[1]

Пераклад Галаваніўскага крытыка амаль адзінадушна прызнала няўдалым (іменна таму ў 1949 г. з'явіўся новы, дарэчы, вельмі добры, пераклад «Палтавы» на ўкраінскую мову, выкананы М. Рыльскім і А. Малышкам). Асаблівае асуджэнне выклікалі недакладнасці у перадачы зместу твора. Вось як піша пра іх, аналізуючы прыведзеныя вышэй радкі, вядомы ўкраінскі даследчык тэмы «Пушкін і Украіна» Ф. Небарачок. «Сапраўды, Пушкін толькі гаворыць пра тое,— тонка заўважае літаратуразнаўца,— што лугі Качубея необозримы, а перакладчык «збольшвае» іх памеры да бясконцасці (кінця не мають); у арыгінале размова ідзе пра тое, што табуны коней на тых вялікіх лугах пасутся вольны, нехранимы, а ў перакладзе гэтыя ж табуны чамусьці блукають, ды яшчэ і ў тьмі ночей (?). Пра няведанне жыцця

[1] О. С. Пушкін. Полтава. Київ, 1937, стар. 4.

перакладчыкам сведчыць радок: *В Полтаві хутір не один*, бо ж мова ідзе пра загараднія паселішчы (іншая рэч у Пушкіна: кругом Полтавы хутора...), парушае характарыстыку вобраза пераклад слова добро выразам зібрано данин, а далейшыя радкі перакладу пры такой нязграбнай пабудове сказа ператвараюць змест у несінетніцу (выходзіць, што: Багато зібрано данин... і на очах і під замками). Не меў права перакладчык у наступным радку выпускаць слова богат, бо яно падкрэслівае пералічаныя багацці Качубея, якія, маўляў, нішто ў параўнанні з найбольшым скарбам Качубея — дачкою»[1]

Да беларускага перакладу «Палтавы», відавочна, усе гэтыя папрокі не могуць быць адрасаваны, хоць Колас таксама там-сям адступае ад арыгінала, змяняе некаторыя пушкінскія рэаліі. Важнейшае адступленне — у наступных радках:

| *У Пушкіна:* | *У Коласа:* |
| --- | --- |
| И много у него добра, | Жыве ў раскошы і ў дабры |
| Мехов, атласа, серебра | І п'е і есць на серабры, |
| И на виду, и под замками. | І шмат багацця пад замкамі. |

Пушкінскае пералічэнне, сутнасць якога — у вызначэнні памеру багацця Качубея, Колас замяніў двума раўназначнымі па сэнсе народнымі выразамі. Адсутнасць пераліку некаторай часткі канкрэтных рэчаў з багатага скарбу Качубея кампенсавана ідыёмамі жыве ў раскошы і ў дабры, і п'е і есць на серабры, сэнс якіх добра зразумелы беларускаму чытачу. Такім чынам, змест арыгінала не застаўся скажоным альбо збедненым. Думаецца, што і другую замену (не родовыми хуторами — і не фамільнымі дварамі) таксама можна апраўдаць: перакладчык толькі падкрэсліў тое, што меў на ўвазе і аўтар арыгінала.

Максім Рыльскі выказаў асноўныя прынцыпы, якіх, на яго думку, трэба прытрымлівацца перакладчыкам твораў геніяльнага рускага паэта. Сюды ўваходзяць: «...вышыня сучаснага разумення перакладу, зберажэнне вершаванай структуры, метра, рытму, строфікі, парадку рыфм, не кажучы ўжо пра элементарныя патрабаванні да перакладчыка: перадача стылю, тону, характару, а значыць, і ідэйнай афарбоўкі твора»[2].

Самымі цяжкімі для перакладчыка з'яўляюцца, бадай што, памянёныя «элементарныя» патрабаванні: стыль, тон, характар... Бо «вышыня сучаснага разумення перакладу», як нешта само сабой зразумелае, мае на ўвазе дакладную перадачу сэнсу, зберажэнне рытма-

---

[1] Ф. Неборячок. О. С Пушкін українською мовою. Львів, 1958, стар. 201.
[2] М. Рильський. Пушкін українською мовою. Зб. «О. С. Пушкін». Київ, 1938, стар. 26.

мелодыкі, строфікі, парадку рыфмоўкі арыгінала. Стыль жа (у вузейшым значэнні гэтага слова) — паняцце некалькі іншае. Гэта — «почырк» пісьменніка (характар вобразнасці, прыёмы выкладання думкі, сінтаксіс, рытміка і г. д.), тое, што вылучае яго з цэлага шэрагу майстроў слова. Зберагчы аўтарскі стыль арыгінала ў перакладзе — справа не лёгкая, але, разам з тым, вельмі неабходная.

Якуб Колас не мог абмежавацца толькі дакладнай перадачай зместу «Палтавы». Як пісьменнік ярка выражанай індывідуальнасці, ён разумеў усю важнасць узнаўлення аўтарскага стылю. Пра гэта добра сведчыць той жа пачатак паэмы ў беларускім перакладзе. Ствараючы пушкінскі малюнак, толькі ўжо фарбамі беларускай мовы, Колас поўнаю жменяй чэрпаў са скарбніцы народных моўна-выяўленчых сродкаў як лексічных, так і фразеалагічных. У самым першым радку ўжыта слова слынны, якое, нягледзячы на сваё спрадвечнае існаванне ў беларускай мове, на мілагучнасць гучання, дагэтуль не часта сустрэнеш у літаратурным ужытку[1] Выкарыстаў яго перакладчык, безумоўна, з пэўнай стылістычнай мэтай: стварыць, як і ў Пушкіна, настрой урачыстасці, важнасці паведамлення. З гэтага боку эквівалент да славен падабраны як нельга лепш: ён не толькі адэкватны яму па сэнсу, але, маючы ў сабе вялікае экспрэсіўнае напаўненне, разам з іншымі вобразна-стылёвымі сродкамі ўзвышае тон усёй страфы. Запеў твора атрымаўся велічным, вольным, што прадвызначыла ўзнёслае гучанне паэмы ад пачатку да канца.

Артыкул «Сонца нашай паэзіі», які мы згадвалі ў пачатку гэтага раздзела, цікавы тым, што ў ім Колас не толькі прыгадвае працэс работы над перакладам, але выказвае і сваё разуменне стылявых асаблівасцей паэмы Пушкіна. «З вялікім узрушэннем я пачынаў пераклад «Палтавы»,— успамінаў паэт.— Выключная суразмернасць (ва ўсіх трох песнях бадай аднолькавая колькасць радкоў), абмалёўка характараў, дынамічнасць дзеяння і, нарэшце,— верш! Пушкінскі верш! Бязмежна ясны, лёгкі, якім перадаецца не толькі рух, але нават дыханне». Усё гэта ставіла цяжкасці, здавалася б, неадольныя. Але колькі сапраўды творчай радасці прыносілі тыя гадзіны, калі з гурбы чарнавікоў узнікалі гатовыя вобразы і ўрыўкі. Гэта была работа «па мандату абавязку», абавязку перад паэтам, які некалі адкрыў мне дзівосную магчымасць — гаварыць вершам»[2]

Трэба адразу прызнаць, што ў «Палтаве» беларускай захаваныя і суразмернасць, і цудоўная абмалёўка характараў паэмы, і дынаміч-

---

[1] Так, нават у «Беларуска-рускім слоўніку» (1962) словы слынь, слынны не зафіксаваны.
[2] Якуб Колас. Збор твораў.., Т. 11, стар. 388—389.

насць дзеяння; амаль заўсёды мы можам пазнаць яснасць, лёгкасць пушкінскага верша, «у якім, перадаецца не толькі рух, але нават дыханне». Зрабіць гэта было вельмі цяжка, тым больш, што ў «Палтаве» маюцца шэдэўры пушкінскага пейзажу і батальных сцэн. Але хто, чытаючы Пушкіна па-беларуску, не залюбуецца чарамі летняй украінскай ночы?!

Лагодна ўкраінская ноч.
Празрыста неба. Зоры ззяюць.
Паветра веек сонных воч
Раскрыць не хоча. Чуць хістаюць
Лісцём таполі ў цішыні,
Спакойна месяц з вышыні
Над Белай Цэрквай бляск раняе
І пышных гетманаў сады
І стары замак асвятляе.

Амаль усё тут захавана — ад лірычнасці апісання і да сінтаксічнай структуры простых сказаў, шматлікасць якіх абумоўлена намерам аўтара ў невялікім урыўку намаляваць шырокую і яркую карціну месячнай летняй ночы.

Цікава параўнаць гэтыя радкі з адпаведным месцам І перакладу паэмы на ўкраінскую мову:

Спокійна українська ніч.
Прозоре небо. Зорі сяють.
Дрімоти-сну не гонить з віч
Повітря тепле. Ледве мають
Тополі листям сріблянi.
І місяць ген з височині
Над Білу Церкву випливає
І гетьмана сади рясні
Та замок давній осяває.

Майстэрскі пераклад М. Рыльскага і А. Малышкі таксама змог перадаць усю чароўнасць пушкінскага верша. Аднак моўна-выяўленчыя сродкі выкарыстаны тут крыху іншыя. Першы радок (Тиха украинская ночь) перададзены, як спокійна українська ніч. Колас гэтае слова не мог выкарыстаць хаця б таму, каб не збядніць у перакладзе пушкінскай сінанімікі. Бо ўжо літаральна праз некалькі радкоў ідзе: спакойна месяц з вышыні…

Цудоўны пушкінскі вобраз — своей дремоты превозмочь не может воздух — ва ўкраінскім і беларускім перакладах таксама перададзены па-рознаму, і цяжка вызначыць, дзе лепш.

| *У Рыльскага і Малышкі:* | *у Коласа:* |
|---|---|
| Дрімоти-сну не гонить з віч | Паветра веек сонных воч |
| Повітря тепле. | Раскрыць не хоча. |

Хочацца толькі падкрэсліць віртуозна перададзеную народным паэтам Беларусі інструментоўку гэтых радкоў, пушкінскі асананс (паветра веек сонных вон...).

Пушкін быў надзвычайным майстрам стварэння тонкага псіхалагічнага малюнка, што падмацоўваўся адпаведнай настраёвасцю, рухам інтанацыйнай плыні. У другім раздзеле паэмы апісваецца, як да дачкі Марыі, якая жыве ў харомах Мазепы, цёмнай ноччу прабіраецца маці. На заўтра назначана пакаранне Качубея, мужа яе. Маці просіць дачку, каб яна заступілася за бацьку.

Псіхалогія чалавека ў такіх абставінах агульнавядомая. Не знойдзецца, бадай, ніводнага, хто б у такім выпадку не хваляваўся. Хвалюецца і маці. Прабраўшыся у палац, яна хоча хутка выказаць, што трэба, і незаўважанай знікнуць. Таму кожны яе маналог (а іх усяго два) — гэта адзін сказ. Маці хоча ўсё сказаць узапар у адзін дух:

Иль ты доныне
Не знаешь?., нет! ты не в пустыне,
Ты во дворце; ты знать должна,
Как сила гетмана грозна,
Как он врагов своих карает,
Как государь ему внимает —
Но вижу: скорбную семью
Ты отвергаешь для Мазепы;
Тебя я сонну застаю,
Когда свершают суд свирепый,
Когда читают приговор,
Когда готов отцу топор,—
Друг другу, вижу, мы чужие...

Вось амаль і ўвесь маналог. Граматычна яго можна разбіць кропкамі на некалькі сказаў. Але Пушкін гэтага не робіць. Нават пасля шматкроп'я і клічніка сказы пішуцца з малой літары.

А вось — і другі маналог:

Ужель еще не знаешь ты,
Что твой отец ожесточенный
Бесчестья дочери не снес
И, жаждой мести увлеченный,
Царю на гетмана донес —
Что в истязаниях кровавых
Сознался в умыслах лукавых,

В стыде безумной клеветы,
Что, жертва смелой правоты,
Врагу он выдан головою,—
Что пред громадой войсковою,
Когда его не осенит
Десница вышняя господня,
Он должен быть казнен сегодня,—
Что здесь покамест он сидит
В тюремной башне.

У Коласа першы маналог, своеасаблівасць сінтаксісу якога абумоўлена складанасцю чалавечых перажыванняў, перапыняецца вялікай літарай аж тры разы:

Ці ж ты нічога
Яшчэ не знаеш? Не, нябога,
Ты не ў пустыні. Мусіш знаць.
Як можа гетман страх нагнаць,
І як ён ворагаў карае,
Як слых яму сам цар схіляе.
Але гаротную сям'ю
Ты адкідаеш для Мазепы,
Цябе я ў сне тут застаю,
Калі суд чыняць люты, слепы,
Калі чытаюць прыгавор
І бацьку ставяць пад тапор.

Што гэта: дань сучаснай граматыцы, згодна якой сказы пасля кропак і пытальнікаў абавязкова пішуцца з вялікай літары, ці звычайныя «выдаткі вытворчасці», без якіх цяжка абысціся пры перакладзе неўміручых твораў Пушкіна? Думаецца, што другое. Пераклад «Палтавы» быў, па сутнасці, першай вялікай перакладчыцкай працай Коласа. Майстэрства перакладу набывалася не адразу. Былі ўдачы (і іх, на шчасце, многа), але і былі накладныя выдаткі. Яны відаць і ў прыблізнай, не пушкінскай рыфме, і ў зачастым ужыванні дзеяслоўных рыфмаў, і ў скажэнні паасобных слоў, каб толькі яны не выпучваліся з рытмікі радка (шоу, шла ў сэнсе ішоў, ішла; парозна ў сэнсе паасобку; грукацяць замест грукочуць; гаманіць замест гамоніць і інш.). Відаць, гэтым тлумачыцца і той факт, што ў вусны Мазепы ўкладзены перакладчыкам словы, якія, з прычыны свайго становішча, адукацыі і іншага, Мазепа не мог сказаць:

Мой друг, несправядліва ты,
Пакінь вар'яцтва чмут пусты —
Дарма сама сябе згрызеш.

Не, душу пылкую тваю
Хвалююць, асляпляюць страсці.

Вар'яцтва чмут пусты, згрызаць (у значэнні мучыць сябе здагадкамі)— гэта грубаватыя, чыста прастамоўныя выразы. Яны маглі б гучаць дарэчы ў вуснах Мазепы пры сварцы ці ў хвіліны парушанай душэўнай раўнавагі. А тут ён ласкава адхіляе неабгрунтаваныя падазрэнні Марыі, што ён быццам бы нераўнадушны да пані Дульскай.

У Пушкіна ж гэта сказана інакш:

Мой друг, несправедлива ты,
Оставь безумные мечты;
Ты подозреньем сердце губишь:
Нет, душу пылкую твою
Волнуют, ослепляют страсти.

Вартасць працы любога мастака слова (у тым ліку і працы перакладчыка) вызначаецца ў першую чаргу мастацкімі дасягненнямі, а не тымі ці іншымі пралікамі. А дасягненні Коласа пры перадачы паэмы Пушкіна на беларускую мову сапраўды вялікія.

Ужо другі маналог маці Марыі, з якім яна звяртаецца да сваёй дачкі, сінтаксічна адэкватны арыгіналу. А гэта значыць, што перададзены адзін з самых складаных псіхалагічных момантаў пры абмалёўцы вобраза паэмы і тым самым захавана праўдзівасць і ўсяго вобраза:

Няўжо не ведаеш — ты ж глянь,—
Што бацька, крыўдаю зацяты,
Ганьбы дачкі свае не знёс
І, помсты прагнасцю узняты,
Цару на гетмана данёс —
Што ў катаваннях сам, нявінны,
Прызнаўся ў намысле злачынным...

Паказальнае ў гэтых адносінах яшчэ адно месца ў перакладзе. Прыгадаем урывак, дзе малюецца абстаноўка у доме Мазепы ў ноч перад здрадай Пятру І:

Мазепа мрачен. Ум его
Смущен жестокими мечтами,
Мария нежными очами
Глядит на старца своего.
Она, обняв его колени,
Слова любви ему твердит.
Напрасно: черных помышлений
Ее любовь не удалит.
Пред бедной девой с невниманьем

Он хладно потупляет взор,
И ей на ласковый укор
Одним ответствует молчаньем.

Як жа выпісвае Пушкін гэтую сцэну, якая па сваёй драматычнай напружанасці, псіхалагізму, яскравасці адлюстравання не ўступае раней прыведзенаму эпізоду сустрэчы Марыі са сваёй маці ў замку Мазепы? Ужо першы сказ прымушае чытача насцярожыцца: Мазепа мрачен. Гэты просты неразвіты сказ абсякаецца кароткай формай прыметніка мрачен. Далей ідзе новы сказ, які тлумачыць настрой Мазепы: Ум его смущен жестокими мечтами. Яшчэ далей:

Мария нежными очами Глядит на старца своего.

Гэта — супрацьпастаўленне: жестокие мечты і — нежные очи, кантраст, як святло і цемра, дзень і ноч Іменна ён (кантраст) яшчэ больш узмацняе ці, правільней, адцяняе змрочнасць настрою Мазепы. Далей зноў супрацьпастаўляюцца кантрастныя пары: слова любви — черные помышления, хладно потуплять взор — ласковый укор.

Як бачым, гэтая сцэна «Палтавы» пабудавана на супрацьпастаўленні светлага кахання Марыі і чорных дум Мазепы. Прыём кантрасту — асноўны мастацкі прыём той стрыжань, на якім трымаюцца тут радкі паэмы Кантрастам абумоўліваюцца ў гэтым урыўку ўсе астатнія мастацка-выяўленчыя сродкі (лексіка, сінтаксіс, інтанацыя, інструментоўка і інш.).

Як жа пераклаў гэтыя вершы на беларускую мову Якуб Колас?

Мазепа хмур. Адум яго
Трывожыць мары чорным роем.
Марыя з ласкай, з непакоем
Глядзіць на гетмана свайго,
Шчакой прынікшы да каленяў,
Каб сум пяшчотамі суняць.
Дарма панурых яго ценяў
Яе каханню не сагнаць.
Не кранут ён яе адданнем.
Няўважна ў дол утупіў зрок,
І ёй на ласкавы папрок
Нямым адказвае маўчаннем.

Усіх мастацкіх асаблівасцей гэтага ўрыўка ў перакладзе не ўдалося захаваць. У прыватнасці, у ім няма архаічна-ўзвышанай лексікі арыгінала (очи, дева, невниманье, хладно). Аднак Колас, як самае каштоўнае, перадаў пушкінскі прыём кантрасту, які мае тут вельмі вялікае значэнне. Вось кантрастныя пары Коласа: чорны рой мараў —

ласкава глядзець, панурыя цені — сунімаць пяшчотамі сум, няўважна ўтупіць зрок — ласкавы папрок...

Вядомы рускі паэт і перакладчык М. Забалоцкі ў сваіх «Заметках перакладчыка» пісаў, што сапраўдны перакладчык — той, хто «правільна адрознівае вялікае ад малога і свядома ахвяруе малым для дасягнення вялікага»[1] Ахвяраваў і Колас, але мы не адчуваем якіх-небудзь значных страт. Галоўнае, найбольш істотнае, захавана.

Першы сказ (як і ў Пушкіна) — просты, неразвіты, «абсечаны» кароткай формай прыметніка: Мазепа хмур. Далей — адны з самых лепшых у гэтым урыўку радкі:

Адум яго
Трывожыць мары чорным роем.

Якое гэта важкае для данага кантэксту слова — адум! У ім і задуменнасць, і ўзнёсласць адначасова. А далей, як скрып дзвярэй у начной цішы,— алітэрацыя: трывожыць мары чорным роем. Без гэтай алітэрацыі (якой, дарэчы, няма ў Пушкіна) пераклад шмат страціў бы. Яна замяняе ў нейкай ступені тое «малое», якім ахвяраваў перакладчык у імя дасягнення большага.

«Палтава» — гэта велічная араторыя, прысвечаная Пятру І і яго суайчыннікам. У гэтую араторыю ў розных месцах умела ўплятаюцца гукі, розныя па вышыні, тэмбру, па сваёй афарбоўцы. Яны то змрочныя, як настрой Мазепы перад здрадай Пятру, то ціхія і лагодныя, украінская ноч, то бурныя і імклівыя, як Палтаўскі бой. Захаваць іх, узнавіць сродкамі беларускай мовы — гэта значыла данесці да чытача-беларуса адну з важнейшых састаўных частак у гармоніі непаўторных гукаў і фарбаў пушкінскай паэмы.

Як мы ўжо зазначылі, асноўным стылёвым сродкам, які падтрымлівае агульную высокую танальнасць твора, з'яўляецца шырокае выкарыстанне ў «Палтаве» архаічнай лексікі, у прыватнасці царкоўнаславянізмаў. «У гісторыі рускай літаратурнай мовы,— пісаў вядомы лінгвіст Л. Булахоўскі,— можна канстатаваць амаль поўную адпаведнасць паміж ступенню ўрачыстасці выбранага пісьменнікам складу і колькасцю царкоўнаславянізмаў, якія ён выкарыстоўвае»[2] У пушкінскай паэме налічваецца некалькі дзесяткаў слоў царкоўнаславянскага паходжання. У той жа час, у выніку шэрагу гістарычных прычын, якія не садзейнічалі «прамой пераемнасці паміж новай і старажытнай беларускай пісьменнасцю.., у сучаснай беларускай літаратурнай мове пласт царкоўнаславянізмаў аказаўся зусім нязначным»[3]. Цікава, што ў

---

[1] Н. Заболоцкий. Заметки переводчика. У зб. «Мастерство перевода». М., 1959, стар. 251
[2] Л. А. Булаховский. Курс русского литературного языка, т. 1. Киев, 1952, стар. 58.
[3] Л. М. Шакун. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы Мінск, 1963, стар. 150-151.

гэтых адносінах беларускую мову можна параўнаць з французскай, продак якой — латынь — была мёртвай ужо ў эпоху старафранцузскай мовы. Таму архаічны пласт у сучаснай французскай мове зусім адсутнічае. У выніку гэтага «высокі шціль» многіх рускіх паэтаў XVIII-XIX стст. пры перакладзе захаваць вельмі цяжка, і французскі чытач, які высока цэніць прозу Пушкіна, амаль зусім не ведае яго паэзіі[1].

Калі параўнаць асобныя месцы арыгінала і перакладу, то пры іх супастаўленні можна заўважыць, што рамантычная ўзнёсласць паэмы ў беларускім перакладзе часамі нібыта прыземліваецца, вышыня тону спадае. Вось як гаворыць Пушкін аб тым моманце, калі Качубей упершыню даведаўся, што яго дачка, любімая Марыя, у абдымках «зладзея злога»— Мазепы:

И вскоре слуха Кочубея
Коснулась роковая весть.

Якуб Колас для ўзмацнення неспадзяванасці гэтай весці ўвёў у вершы сваё параўнанне, узятае са скарбніцы народных моўна-выяўленчых сродкаў:

І вось да слыху Качубея
Прыйшла, як з грому, навіна.

Крыху раней паэт паказвае паводзіны Марыі перад той злавеснай ноччу, калі яна неабдумана збегла з дому разам з Мазепам:

Целые два дня,
То молча плача, то стеня,
Мария не пила, не ела,
Шатаясь, бледная, как тень,
Не зная сна. На третий день
Ее светлица опустела.

У перакладзе чытаем:

Цалюткія два дні
Была Марыя, бы ў агні.
І не піла яна, не ела,
Хадзіла плачучы, як цень,
І не сплючы. На трэці дзень
Яе святліца апусцела.

Безумоўна, дзееприслоўі (плачучы, сплючы), ужытыя перакладчыкам, крыху архаізуюць мову, робяць яе кніжна-прыўзнятай. Аднак прастамоўнае «цалюткія», вельмі выразнае, але па-фальклорнаму простае параўнанне «была, бы ў агні» тон паэмы некалькі зніжаюць.

---

[1] Гл. пра гэта больш падрабязна ў артыкуле Я. Эткінда «Перевод и сопоставительная стилистика». Зб. «Мастерство перевода». М., 1959, стар. 71-86.

У нагаданых урыўках «урачыстасць выбранага пісьменнікам складу» можа ў найменшай ступені залежыць ад колькасці ўжытых царкоўнаславянізмаў — іх тут амаль няма. Што ўжо тады, здаецца, казаць пра пераклад тых мясцін паэмы, дзе густа ўплецены невядомыя беларускай мове славянізмы (пени, глава, стекло, тиара і г. д.)! Прысуд, быццам бы, можна вынесці загадзя: паэма ў перакладзе гучыць не ў тым рэгістры, як у арыгінале. Але з прысудам трэба пачакаць.

Давайце прачытаем не паасобныя ўрыўкі з «Палтавы», а ўсю паэму цалкам, ад прысвячэння і да апошняга радка. І — як ні дзіўна!— амаль не адчуем таго зніжэння велічна-ўрачыстага апавядання, якое насцярожвала нас раней у некаторых паасобных радках паэмы на беларускай мове. Чаму і як гэта здарылася?

Колас як перакладчык пайшоў той дарогай, выкарыстаў тыя прынцыпы перакладу, пра якія праз дваццаць гадоў (праўда, у дачыненні да французскай мовы) вядомы савецкі тэарэтык перакладу Я. Эткінд будзе пісаць: «Пры перакладзе з рускай мовы на французскую... перакладчыку давядзецца шукаць іншых, зусім новых шляхоў для перадачы стылістычнай сістэмы арыгінала аналогій ужо не ў межах словазлучэнняў альбо нават фраз, а ў межах усяго твора як цэлага»[1]

Думкі Эткінда развівае эстонскі літаратар-перакладчык з беларускай мовы на эстонскую Олев Йыгі: «Калі ў адным месцы родная мова не валодае раўнацэннымі сродкамі і пераклад атрымліваецца бяднейшым, бяскроўным, то перакладчык можа кампенсаваць гэты недахоп дзесьці ў іншым месцы, перадаць тэкст больш сакавіта, ярка, замест аднаго слова ўжыць фразеалагізм, замест нейтральнага выразу — трапны народны зварот і г. д. Гэта і тэарэтычна апраўдана, таму што мы перакладаем не паасобныя словы, а твор цалкам»[2].

У змаганні з сілай супраціўлення слова Колас скарыстаў усе магчымасці беларускай мовы — лексічныя, марфалагічныя, фразеалагічныя... Тая невялікая колькасць даўніх слоў, якая маецца ў сучаснай літаратурнай беларускай мове, выкарыстана ў поўную меру. Аднак перакладчык, шукаючы аналогіі «ў межах усяго твора як цэлага», не абавязкова ўжываў славянізмы ў тых радках, дзе яны ёсць у Пушкіна. Вось шырокавядомы ўрывак з «Палтавы» ў перакладзе на беларускую мову:

Гарыць усход дзянніцай новай.

---

[1] Е. Эткинд Перевод и сопоставительная стилистика Зб. «Мастерство перевода». М., 1959, стар. 85-86.
[2] Олев Йыги. Заметки из практики переводчика. «Неман», 1970, № 2, стар. 167

Ужо па ўзгорках, па далах
Гурчаць гарматы. Дым ружовы
Клубамі ўсходзіць у прасцяг
Праменням ранішнім на шлях.

Слова дзянніца ў адпаведным месцы ў Пушкіна не было (Горит восток зарёю новой...). Знаходзячыся ў адным эмацыянальным радзе з такімі словамі, як персі, чало, плаха, клеўрэт, кумір і некаторыя іншыя, яно падтрымлівае агульны ўрачысты тон паэмы.

Цікава, што падобную стылістычную нагрузку гэтае слова нясе ў іншым месцы перакладу:

Абрусам золакавых кос
Дзянніца сцеле схіл нябёс,

а таксама ў арыгінальным творы Коласа — ва ўступе да «Сымона-музыкі»:

...І гэты скарб, пазычаны, адбіты,
У сэрцы перажыты,
І росамі абмыты
Дзянніц маіх, дзянніц маіх мінулых,
Для вас, душою чулых,
Як доўг, як дар,
дае пясняр[1].

Беларускія перакладчыкі яшчэ ў сярэднія вякі выкарыстоўвалі стылістычныя магчымасці замежных слоў, так званых варварызмаў (у прыватнасці, гэта можна назіраць у перакладзе «Аповесці пра Трыстана і Ізольду»), Колас таксама ўжывае гэты мастацкі прыём для захавання не толькі сэнсу, але і эмацыянальна-вобразнага малюнка пушкінскіх вершаў, іх узвышанага складу. Так, радок, у якім Пушкін гаворыць пра Мазепу: Король ему в Варшаве внемлет... перададзены па-беларуску па-свойму, але надзвычай каларытна: З ім польскі круль інтэрас мае... У гэтых словах з'явілася нешта коласаўскае, чаго не было ў арыгінале, а іменна — іронія, адрасаваная адначасова і ў адрас здрадніка Мазепы, і ў бок польскага круля, які внемлет яму. Гэта іронія не выходзіць з рэчышча арыгінала, знаходзіцца ў духу пушкінскай паэмы, тэмы і сюжэта яе. І таму яна нам уяўляецца як добрая знаходка перакладчыка, пошукі якога зноў-такі былі ў рамках твора як цэлага.

---

[1] Колас Я. Збор твораў.., т. 6, стар. 291. Дарэчы, слова дзянніца, як і слоў слынь, слынны, таксама няма ў «Беларуска-рускім слоўніку» (1962).

Каб пазбегнуць прыземленасці, Колас, услед за Пушкіным, выкарыстоўвае даўнія моўныя канструкцыі, якія надаюць выказванню ўзвышана-велічны каларыт. У «Палтаве» чытаем:

Домой приехав, «что Мария?»
Спросил Мазепа.

Іменна не «что с Марией?» альбо «как Мария?», а «что Мария?». Зараз і ў рускай літаратурнай мове, не кажучы ўжо пра беларускую, такая форма выказвання амаль не сустракаецца. Аднак перакладчык вырашыў яе Дакладна захаваць:

Дамоў прыехаў. «Што Марыя?»
Спытаў Мазепа

У іншым месцы Колас, добра ведаючы скарбы роднае мовы, скарыстоўвае стылістычныя магчымасці дзеяслоўнага кіравання. Пасля таго як раскрылася жудасная тайна ўцёкаў Марыі з дому, Пушкін піша:

Тогда лишь только стало явно,
Зачем бежала своенравно
Она семейственных оков.

Бежать чего-нибудь, а не ад чаго-небудзь — гэта чыста літаратурная, устарэлая форма. Адэкватнага выразу ў сучаснай беларускай літаратурнай мове, здавалася б, нельга знайсці. Але вось Колас ужывае па-народнаму важкае, многімі літаратарамі забытае, слова унікнуць. І як да месца загучала яно ў беларускіх радках пушкінскай паэмы!

І толькі зараз стала яўна,
Чаму ўнікала самапраўна
Яна замуства, як акоў[1]

Калісьці ў агульнарускай літаратурнай мове былі вельмі пашыраны кароткія формы прыметнікаў. Дастаткова сказаць, што яны мелі ў той час нават шырокую сістэму скланення. У сучаснай беларускай літаратурнай мове ўтварэнне і ўжыванне кароткіх прыметнікаў вельмі абмежаванае. Яны «сустракаюцца пераважна ў мове вуснай народнай творчасці, а таксама ў паэтычным стылі літаратурнай мовы і, як правіла, з'яўляюцца стылістычна матываванымі»[2]. У перакладзе «Палтавы» Якуб Колас вельмі часта ўжывае кароткія формы прыметнікаў.

Карла XII Пушкін характарызуе наступнымі словамі:;

Он слеп, упрям, нетерпелив,

---

[1] Дарэчы, гэтае ж слова Якуб Колас уклаў і ў вусны вясковага настаўніка Алеся Садовіча:— А начорта змагацца з імі (спакусамі.— В. Р.), калі гэтага можна ўнікнуць? (Якуб Колас. На ростанях, Мінск, 1958, стар. 271.)
[2] Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Марфалогія. Мінск, 1957, стар. 78—79.

И легкомыслен, и кичлив,
И весть какому счастью верит.

Колас уводзіць кароткія прыметнікі ў мову перакладу:

Ён слеп, упарт, нецерпяліў,
І лёгкадумен, і пыхліў,
Якому толькі шчасцю верыць!

У іншым месцы паэмы Качубей на допыце са злой іроніяй гаворыць Орліку:

...Показанья
Мои все ложны. Я лукав.
Я строю козни. Гетман прав.
Чего вам боле?

Вось гэтыя словы ў перакладзе:

...Паказанні
Мае — хлусня, я — вінават,
Я зло чыню, а гетман свят.
Чаго ж вам болей?

Наогул, слоў накшталт багат, горд, хмур, стар, горак, блізак і г. д. у перакладзе шмат. Усе яны, разам з іншымі моўна-выяўленчымі сродкамі, узвышаюць тон пушкінскай паэмы, прыдаюць выказванню адценне велічы, урачыстасці.

Праўда, такую стылістычную функцыю кароткіх форм прыметнікаў у перакладзе «Палтавы» на беларускую мову некаторыя крытыкі ў свой час не заўважалі. Адказваючы аднаму з іх, Колас гаварыў: «ён (г. зн. крытык.— В. Р.) кінуў такі закід, што ў перакладзе я ўжываю кароткія формы прыметнікаў. Ён сцвярджае, што гэтыя прыметнікі не ўласцівы беларускай мове. Я з гэтым не згодны. Кароткімі формамі беларуская мова багатая. Прывяду прыклады: І сама малада і дзяцей чарада, Горка рэдзька, ды ядуць, кепска замужжам, ды ідуць,— гэта запісана на Чэрвеньшчыне... Свая сіла сабе міла... Іх багата, гэтых прыкладаў... Уводзячы гэтыя кароткія формы ў беларускую літаратурную мову, я проста меў на ўвазе рассунуць межы нашай літаратурнай мовы — няхай мова расце, развіваецца. І гэта на законнай падставе, паколькі аб гэтым кажуць тысячы прыкладаў фальклору»[1]

Сапраўды, абумоўленае моўнымі традыцыямі беларускай вусна-паэтычнай творчасці, ужытае пад непасрэдным уплывам рускай мовы і, у прыватнасці, паэзіі Пушкіна, такое пашырэнне сферы выкарыстання аднаго з Цікавейшых стылістычных сродкаў адкрывала

[1] Якуб Колас. Выйсці на прастор жыцця. «Літаратура і мастацтва», 1937, 14 красавіка.

шырокія магчымасці для больш поўнай і гібкай перадачы на беларускай мове эмацыянальна-вобразнай плыні пушкінскай паэмы. Дарэчы, у стылістычных мэтах кароткія формы прыметнікаў ўжывалі Янка Купала і Максім Багдановіч, Кузьма Чорны і Змітрок Бядуля. Ужываў іх у сваёй арыгінальнай творчасці і Якуб Колас. Прыгадаем хаця б наступныя радкі з «Новай зямлі»:

А маладзенькія ялінкі
Пад белым пухам чуць заметны:
Яны так мілы, так прыветны,
Бы тыя красачкі-дзяўчаткі[1]

Такім чынам, усё гэта — і невялікая колькасць беларускіх славянізмаў, і ўстарэлыя моўныя канструкцыі і стылістычна матываваныя кароткія формы прыметнікаў — служыць у перакладзе адной мэце: перадаць агульны велічна-ўрачысты тон арыгінала, захаваць яго стыль. Пералічаныя моўна-выяўленчыя сродкі хоць у некаторай ступені замяняюць сабой тую вялікую колькасць царкоўнаславянізмаў, якая маецца ў паэме ўрэшты, не было неабходнасці замяняць усе словы царкоўнаславянскага паходжання, бо Пушкін, застаючыся ў «Палтаве» яшчэ верным старой літаратурнай традыцыі яўна злоўжываў імі і пазней у гэтым раскайваўся сам[2]!

Колас вельмі многа і настойліва працаваў над перакладам «Палтавы» на беларускую мову. Максім Лужанін прыгадвае словы паэта: «Відаць, ужо ў гады маленства прымяраў я да Пушкіна беларускае слова. Некаторыя мясціны «Палтавы» даліся перакласціся лёгка з першага чарнавіка. А наогул пасядзеў над гэтай работай доўга. Паэма так аўладала мною, што нічога іншага рабіць не мог, ні аб чым не дбаў і не помніў. Начамі не спаў. Толькі прымружу вочы — пачынаю сніць, нібы пераклаў якраз тое месца, што не ўдавалася. А зараз ліецца свабодна, роўна, лёгка. Адна бяда: прачнешся — і забыў усё чыста. Тады я навучыўся прымушаць сябе прахватвацца і запісваць тое, што сасню... Трэба сказаць праўду, што раніцай высненыя радкі здаваліся не такімі ўжо і ўдалымі. Я іх амаль не скарыстаў. Адна толькі мясціна пайшла ў друк. Я вельмі доўга думаў над ёю і запісаў, прачнуўшыся ноччу:

Ён сам імклівасць. Ён — дзень ясны.
Ён грому божага раскат.

---

[1] Якуб Колас. Збор твораў ., т. 6, стар. 168.
[2] Пра гэта, у прыватнасці, згадвае М. Рыльскі ў сваёй кнізе «Классики и современники» (М., 1958, стар. 89)

А як скончыў работу, стала і радасна і сумна: няўжо гэта ўсе? Хацеў брацца яшчэ за якую пушкінскую рэч. Аблюбаваў сабе «Домік у Каломне». І зрабіў бы, але нешта адцягнула, перашкодзіла»[1].

Пераклад «Палтавы» Колас лічыў сваім вялікім дасягненнем. Так, трымаючы справаздачу перад партыяй і народам з выпадку пятай гадавіны рэарганізацыі літаратурна-пісьменніцкіх арганізацый, народны паэт Беларусі, побач з напісаннем аповесці «Дрыгва», драмы «Вайна вайне», адзінаццаці раздзелаў паэмы «На шляхах волі» і іншых твораў, ставіў у адзін рад і пераклад «Палтавы» на беларускую мову[2]. І гэта было зусім справядліва.

Беларуская крытыка таксама высока ацаніла коласаўскі пераклад. У 1949 г. на беларускай мове выйшлі «Выбраныя творы» Пушкіна, куды ўвайшла і «Палтава» ў перакладзе Коласа. Гаворачы пра майстэрства перакладу паэмы «Медны коннік», зробленага Янкам Купалам, Віталі Вольскі пісаў: «...У цэлым пераклад «Меднага конніка» з'яўляецца ўзорам глыбокага пранікнення Купалы ў змест і тэкст пушкінскага твора. У перакладзе Купалы захаваны ўсе... мастацкія прыёмы і асобныя дэталі арыгінала. Ён зроблены без значных адхіленняў, з найменшымі мастацкімі стратамі, якіх вельмі цяжка ўнікнуць у кожным паэтычным перакладзе з адной мовы на другую, асабліва калі гэта мовы блізкія... Тое самае можна сказаць і аб перакладзе «Палтавы» Якубам Коласам...»[3]

Пераклад пушкінскай паэмы на беларускую мову з'явіўся для Якуба Коласа своеасаблівай школай перакладчыцкага майстэрства. Навука гэтай школы асабліва прыдалася ў часе працы над перакладам твора, напісанага на той мове, што і «Палтава»,— паэмы М. Лермантава «Дэман».

## «КАБЗАР» ГУЧЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

Дакладна невядома, калі ўпершыню пачаў чытаць Якуб Колас творы Тараса Шаўчэнкі. Магчыма, гэта адбылося ў гады вучобы ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (1898-1902), магчыма, пасля, ужо падчас настаўнічання. Аднак несумненна, што знаёмства з творчасцю Кабзара было радасным і глыбокім. Ішло ж яно некалькімі шляхамі.

Першы шлях, самы ранні і самы непасрэдны,— гэта шлях народнай песні. Песню Тараса Шаўчэнкі, якая «безымяннай жыла ў беларускім народзе многія дзесяткі год» (Янка Купала), не мог, безумоўна,

---

[1] Лужанін. Колас расказвае пра сябе. Мінск, 1964, стар. 61—62.
[2] Гл. Якуб Колас. Праз пяць гадоў. «Звязда», 1937, 23 красавіка.
[3] [3]В. Вольскі. Пушкін на беларускай мове. «Полымя», 1950, № 2, стар. 129.

не пачуць у сваей вёсцы малы Кастусь. Але не толькі сялянам прыйшлася да душы то журботная, то жартаўліва-вясёлая, поўная іроніі да ворагаў народа і веры ў светлую будучыню песня Тараса. «У дарэвалюцыйныя часы сярод вучнёўскай беларускай моладзі і інтэлігенцыі, выйшаўшай з гушчы працоўнага народа, асабліва сярод сельскага настаўніцтва, песні Тараса Шаўчэнкі былі надзвычай папулярны». Гэта сцвярджаў сам Колас, асноўваючыся на ўласным вопыце[1].

Другі шлях — непасрэднае знаёмства з паэзіяй украінскага песняра. У гэтым Коласу ў многім дапамагла руская мова. «З творчасцю Шаўчэнкі,— прыгадваў паэт у 1938 г.,— у прыватнасці, з такім яго творам, як «Гайдамакі», я пазнаёміўся ўпершыню ў рускім перакладзе»[2]. Пасля першай рускай рэвалюцыі вершы Шаўчэнкі пачынаюць друкавацца і на беларускай мове. У прыватнасці, у перакладах Ф. Чарнушэвіча і А. Паўловіча яны з'явіліся ў «Нашай ніве» і часопісе «Лучынка». Некалькі вершаў Кабзара пераклаў Янка Купала, два з іх («Гогалю» і «Думкі») увайшлі ў зборнік «Жалейка» (1908). Можна меркаваць, што ў гэты час Колас чытаў творы Тараса Шаўчэнкі і ў арыгінале.

Трэці шлях — азнаямленне з дарэвалюцыйным беларускім шаўчэнказнаўствам.

Магчыма, Колас у свой час і не чытаў артыкулаў Максіма Багдановіча, якія былі апублікаваны ў маскоўскім часопісе «Украинская жизнь» і яраслаўскай газеце «Голос». Аднак «Наша ніва», якая вельмі прыязна ставілася да літаратур іншых народаў, асабліва народаўсуседзяў — рускіх, украінцаў, палякаў,— неаднаразова змяшчала артыкулы, у якіх было многа цёплых слоў, адрасаваных асобе Тараса Рыгоравіча Шаўчэнкі. У 1909 г. перадавым артыкулам «Тарас Шаўчэнка» было адзначана 95-годдзе з дня нараджэння і 48-годдзе з дня смерці «найслаўнейшага з песняроў украінскіх, што вялікімі творамі сваімі палажыў моцны фундамент для ўзросту ўсяго цяперашняга ўкраінскага пісьменства»[3] У газеце быў змешчаны таксама партрэт Кабзара і верш Янкі Купалы «Памяці Шаўчэнкі». 50-годдзю з дня смерці паэта, якое адзначалася ў 1911 г., была прысвечана палавіна восьмага нумару «Нашай нівы» за 24 лютага. Тут быў надрукаваны вядомы артыкул Рамуальда Зямкевіча «Тарас Шаўчэнка і беларусы», які некалькі разоў перадрукоўваўся і перадрукоўваецца зараз у розных зборніках, прысвечаных Кабзару[4].

---

[1] Якуб Колас. Збор твораў.., т. 11, стар. 199
[2] Якуб Колас. Яго голас лунае над усёй краінай. «Коммунист» (Кіеў), 1938, 29 верасня.
[3] «Наша ніва», 1909, 12 сакавіка.
[4] Гл., у прыватнасці: «Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура». Мінск 1964, стар. 30—32.

Царскі ўрад забараніў святкаванне 100-годдзя з дня нараджэння Шаўчэнкі. «Пасля гэтай меры мільёны і мільёны «абывацеляў» сталі ператварацца ў свядомых грамадзян і пераконвацца ў правільнасці таго выслоўя, што Расія ёсць «турма народаў»[1]. Аднак забарона была забаронай. Не шмат тагачасных выданняў адважыліся адзначыць гэтую дату. «Наша ніва» адзначыла (безумоўна, не без удзелу Янкі Купалы, які ў гэты час з'яўляўся яе рэдактарам): на трох першых старонках быў набраны артыкул Лявона Гмырака «Тарас Шаўчэнка»[2].

Усе гэтыя матэрыялы, што змяшчаліся на старонках «Нашай нівы», Колас, які з'яўляўся адным з актыўнейшых аўтараў газеты, безумоўна, чытаў.

Такім чынам, яшчэ да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Колас даволі глыбока пазнаёміўся з жыццём і творчасцю Шаўчэнкі. Іменна таму яшчэ ў тыя далёкія часы беларускі паэт змог спасцігнуць усю веліч выразніка дум і спадзяванняў украінскага народа. Імя Тараса стала для яго сімвалам паэта, непераўзыдзенага па таленту, які сябе да рэшты аддаў служэнню запрыгоненаму роднаму народу. Цікавыя ў гэтых адносінах словы з аднаго прыватнага ліста Коласа, пасланага ім з Мінскага астрога на волю: «Таварыш з Сібіру віншуе мяне з літаратурным поспехам.— Чытаў у часопісе «Познание России» артыкул аб адраджэнні беларускай мовы. Мяне, між іншым, паводле слоў таварыша, называюць другім Шаўчэнкам, беларускім, зразумела... Мабыць, ён зблытаў мяне з Янкам Купалам... Калі ж, звыш усякага спадзявання... словы гэтыя прызначаны мне, будзе вялікае лікаванне ў маёй душы. Гэта і будзе адзіная крыніца маёй радасці і сэнсу майго жыцця...»[3]

Муза Кабзара засталася з маладых гадоў блізкай Коласу на ўсё жыццё. Але толькі пасля Кастрычніка ён змог найбольш прычасціцца да гаючай крыніцы шаўчэнкаўскай паэзіі. Іменна ў гэты час пачалося «сплочванне доўгу». Вось факты ўдзелу народнага паэта Беларусі ў юбілейных ушанаваннях Тараса Шаўчэнкі ў 1939 г.

Люты — сакавік: на старонках беларускіх перыядычных выданняў з'яўляюцца адзін за адным пераклады вершаў і паэм Шаўчэнкі, зробленыя Коласам.

27 лютага: «Літаратура і мастацтва» публікуе верш Коласа «Баяну — Кабзару», прысвечаны Тарасу Шаўчэнку.

3 сакавіка: у той жа газеце друкуецца вядомы артыкул Коласа «Шаўчэнка і беларуская паэзія».

---

[1] У. І. Ленін. Творы, т. 20, стар. 201.
[2] «Наша ніва», 1914, 21 лютага.
[3] Ліст да А. Г. Рамановіч ад 30.V.1909 г. «Полымя», 1961, № 3, стар. 148.

6 сакавіка: «У 13 гадзін дня ў прысутнасці дзесяткаў тысяч працоўных Кіева адбылося адкрыццё помніка вялікаму ўкраінскаму Кабзару. На ўрачыстым адкрыцці помніка з прамовай выступіў... Старшыня Саўнаркома! Украіны тав. Каротчанка, пісьменнікі Бажан, Тычына, прэзідэнт Акадэміі навук УССР тав. Багамолец, родзіч вялікага Кабзара Цярэнцій Шаўчэнка. Ад беларускай; дэлегацыі выступіў тав. Колас»[1].

Трэба ўспомніць таксама і працу паэта па рэдагаваны ні (сумесна з М. Лыньковым) зборніка «У вянок! Т. Р. Шаўчэнкі» (1939), рэдагаванне (сумесна з Я. Купалам) поўнага выдання «Кабзара» (1939) на беларускай мове, куды ўвайшло шмат паэм і вершаў Шаўчэнкі ў; перакладзе самога Коласа.

Асабліва хочацца адзначыць даследаванне «Шаўчэнка і беларуская паэзія». Калі, па словах Коласа, «мала хто з украінскіх і рускіх крытыкаў даў такі тонкі усебаковы аналіз і ацэнку паэтычнага дару вялікага ўкраінскага Кабзара, як Максім Багдановіч»[2], то другі беларус — ужо сам Колас — даў першы і неперазўзыдзены пакуль што узор даследавання сувязі творчасці Кабзара з беларускай паэзіяй. Ён паказаў, што не толькі ідэйная накіраванасць, але і некаторыя фармальныя асаблівасці збліжаюць паэзію Янкі Купалы, Паўлюка Труса і іншых з творчасцю Шаўчэнкі. У прыватнасці, паэтычныя вобразы русалак, ведзьмаў, прывідаў, курганоў-магіл прыбярэжнай лазы, Дняпра «ўласцівы беларускай паэзіі і бясспрэчна ў значнай меры навеяны паэзіяй Шаўчэнкі»[3]. Шаўчэнка з'яўляецца адным з першых усходнеславянскіх літаратараў, хто, шырока звярнуўшыся да вуснай творчасці свайго народа, адкрыў вочы на фальклор многім пісьменнікам. І вось Ф Багушэвіч М. Багдановіч, Я. Купала, Я. Колас, П. Трус і многія іншыя, прычасціўшыся з крыніцы роднага фальклору, што струменіць побач з украінскай, угледзелі ў ёй многія вобразы, матывы, якія сустракаліся і ў творах Шаўчэнкі. Гэта дапамагло хутчэйшаму і больш арганічнаму засваенню родных фальклорных багаццяў, навеяла многія іншыя аналогіі ў выкарыстанні скарбаў беларускай вусна» народнай творчасці.

Аказаў Тарас Шаўчэнка пэўны ўплыў і на творчасць аўтара «Новай зямлі».

Седзячы ў Мінскім астрозе, Колас напісаў некалькі вершаў, якія ўмоўна можна аб'яднаць словам «думкі». («Думкі ўюцца, томяць грудзі», «Думкі», «...Рана вам журыцца» і інш.). Гэтыя вершы не толькі пе-

---

[1] «Літаратура і мастацтва», 1939, 9 сакавіка.
[2] Якуб Колас Выдатнейшы паэт і крытык. «Літаратура і мастацтва" 1947, 24 мая
[3] Якуб Колас. Збор твораў.., т. 11, стар. 205.

раклікаюцца асобнымі штрыхамі з вядомым вершам Шаўчэнкі «Думы», але —што галоўнае — падобныя да яго і па духуу іх той самы роздум, настрой горычы, тая самая запытальная інтанацыя. І не дзіўна: умовы, у якіх ствараліся вершы ўкраінскім і беларускім паэтамі, былі, бадай што, аднолькавымі: першы адчуваў на сваіх плячах увесь цяжар путаў прыгоннага ладу; другі, пазней на 70 гадоў, званіў ланцугамі ў прамым сэнсе слова. Ды скаваць думы нельга! Яны, народжаныя глыбокім роздумам над жыццём, верай у лепшую будучыню, альбо ўжо станавіліся «на паперы сумнымі радамі» (Т. Шаўчэнка), альбо іх яшчэ толькі заклікалі гэта зрабіць: «Дык ляціце ж, сэрца дзеці, на паперку кіньце след!»[1] У названых вершах паэта, адных з самых ранніх і ў вялікай ступені яшчэ вучнёўскіх, найясней відаць сляды непрыхаванага пераймання ў Шаўчэнкі-настаўніка. У іншых творах Коласа, асабліва пазнейшых па часе напісання, можна знайсці асобныя думкі, вобразы, мастацкія прыёмы, якія пераклікаюцца з шаўчэнкаўскімі, але ўжо нельга заўважыць вучнёўскага калькавання. Ці апяваў паэт радасную, хоць і цяжкую, працу хлебароба («Новая зямля», «Рольнік»), родны край («Родныя песні», «Родныя вобразы»), ці выкрываў расійскі царат («Мікалаю II», «Малебен»), ці марыў пра надыход лепшых дзён («Будзе навальніца», «Ворагам», «Перад бурай») — усё гэта ішло ад беларускай рэчаіснасці, з яе цяжкім мінулым і верай у надыход «вясны». Шаўчэнка ж з'яўляўся тым настаўнікам, які ў першую чаргу вучыу Коласа мысліць. Рамантычна прыўзнятыя ідэі, думкі Кабзара-лірыка знаходзілі добры грунт у ярка выражанай рэалістычнай паэзіі Коласа-эпіка, былі сугучныя беларускаму паэту. Перш за ўсё у карысць гэтага гаворыць той факт, што падчас рэвалюцыі 1905-1907 гг. шаучэнкаўскае слова, поўнае рэвалюцыйнага пафасу, смелага пратэсту супраць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, стала выдатнай зброяй у руках маладога Коласа. Ён, па сведчанні сястры паэта Марыі Міхайлаўны Міцкевіч, на вячорках у роднай Мікалаеўшчыне чытаў вершы Тараса (Рукапісныя матэрыялы Інстытута беларускай літаратур ры імя Я. Купалы АН БССР. Запісы Ю. С. Пшыркова А. А. Лойкі). Назвы вершаў гісторыя не захавала. Аднак, безумоўна, гэта было нешта накшталт:

І на оновленій землі
Врага не буде, супостата.
А буде син, і буде мати,
І будуть люде на землі.

---

[1] Якуб Колас. Збор твораў.., т. 1, стар. 93.

Гэтыя і ім падобныя матывы творчасці Кабзара адчуваюцца і ва ўласных, поўных рэвалюцыйнага пафасу веры ў светлую будучыню роднага народа, вершах беларускага паэта.

У першыя гады Савецкай улады маладая Беларусь стала скідаць з сябе ланцугі векавечнага сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. Беларуская мова была аб'яўлена дзяржаўнай, пачала афіцыйна ўжывацца не толькі ў пачатковай і сярэдняй школе, але і ў справаводстве, у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, тэатрах і г. д. Ленінская нацыянальная палітыка здзейсніла спрадвечныя мары мільёнаў людзей «турмы народаў»— царскай Расіі. У гэты час (1925-1926 гг.) Колас піша аповесць «На прасторах жыцця», у якой заклікае моладзь да «шырокіх размахаў грамадскай працы». Шмат праблем ставіцца ў аповесці, адна з іх — культурнае абуджэнне беларускага народа. І ў гэтым сэнсе вельмі паказальная наступная мастацкая дэталь: за добрую вучобу настаўнік дорыць гераіні аповесці Аленцы кнігу. Але якую ж? «Кабзар» Шаўчэнкі на ўкраінскай мове! Відавочна, для Коласа, як і для многіх іншых беларускіх пісьменнікаў, Шаўчэнка быў і застаўся перш за ўсё сімвалам змагара за нацыянальнае адраджэнне свайго народа. (Гэта і зразумела, бо сімвалам барацьбы з сацыяльным злом для беларусаў былі ў першую чаргу рускія літаратары на чале з рэвалюцыянерамі дэмакратамі.)

Варта заўважаць і тое, што мастацкая дэталь («Кабзар») мае ў творы і кампазіцыйную нагрузку — лагічны паказ вытокаў уласнай паэтычнай творчасці Аленкі. «Можна смела сказаць,— гаворыць аўтар аповесці,— што на гэтую дарогу (на дарогу паэзіі.—В. Р.) накіраваў яе дзядзька Тарас Шаўчэнка...»[1]

Шмат пазней, у 1947 г., у сваім звароце да беларускіх піянераў і школьнікаў «Шануйце і любіце сваю родную мову»[2] Колас, заклікаючы дзяцей «любіць, ведаць і шанаваць мову свайго народа», назваў прозвішча Шаўчэнкі сярод тых, хто чуйна прыслухоўваўся да голасу народа, браў усё лепшае, што было створана ім за шматвяковую гісторыю. Любіць родную мову, родны народ так, як любіў Тарас Шаўчэнка!— вось асноўная думка артыкула.

Такім чынам, на працягу ўсяго жыцця з Коласам жыла нязменная дарадчыца і сяброўка — песня Тараса Шаўчэнкі, блізкая нашаму паэту сваім праўдзівым словам пра сялянскую нядолю, смелым пратэстам супраць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, рэвалюцыйным пафасам, глыбокай сувяззю з вуснай народнай творчасцю. Але самым

---

[1] Якуб Колас. Збор твораў.., т. 7, стар. 20.
[2] «Піянер Беларусі», 1947, 24 верасня.

лепшым сведчаннем любві і павагі Коласа да Шаўчэнкі з'яўляюцца яго пераклады твораў Кабзара

Упершыню поўны беларускі «Кабзар» выйшаў да 125-годдзя з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі ў 1939 г. Сярод перакладчыкаў сустракаем вядомых беларускіх паэтаў — Я. Купалу, К. Крапіву, З. Бядулю, П. Глебку, П. Броўку, А. Куляшова, М. Клімавіча. Колас пераклаў семнаццаць вершаў і паэм класіка ўкраінскай літаратуры. Праўда, пэўную сістэму ў адборы твораў для перакладу выявіць цяжка: тут маюцца рэчы, якія розняцца паміж сабой як часам напісання, так і ідэйным зместам. У прыватнасці, Колас узнавіў па-беларуску баладу «Утопленка», шаўчэнкаўскія творы пра слаўных сыноў украінскага народа («Гамалія», «Чыгрыне, Чыгрыне»), творы з выразнай сацыяльнай афарбоўкай («Не завідуй багатаму», «Сава», «Не жаніся ты з багатай»). Неабходнасць за параўнальна кароткі час перакласці і выдаць на беларускай мове ўвесь «Кабзар» абумовіла тое, што творы для перакладу, за рэдкім выключэннем, размяркоўваліся адвольна, улічваліся не асабістыя схільнасці перакладчыкаў, а толькі колькасць паэтычных радкоў, якія неабходна было перакласці. Гэта прывяло да пэўных прыватных творчых пралікаў. Разам з тым адны з самых значных мастацкіх палотнаў Шаўчэнкі — паэмы «Ерэтык», «Неафіты», «Марыя» — трапілі на паэтычны варштат іменна Коласа, што прадвызначала ў многім агульны высокі ўзровень гучання беларускага «Кабзара».

Дзе б ні жыў, у якую эпоху ні тварыў паэт, у першую чаргу ён павінен быць актыўным барацьбітом за перадавыя ідэі свайго часу, г. зн. палітычным змагаром. Такім паэтам і з'яўляўся Тарас Шаўчэнка. Сказаць у сярэдзіне мінулага стагоддзя, што «все брехня — попи й царі...», як зрабіў гэта Шаўчэнка ў «Неафітах»,— на гэта трэба было мець мужнасць. У гэтай паэме Шаўчэнка ўслаўляе першых хрысціян, якія мужна і самаахвярна змагаліся супраць рымскага дэспатызму. Чытачы лёгка маглі ўбачыць у вобразах неафітаў рускіх і ўкраінскіх змагароў з тагачасным сацыяльным злом, а дэспатызм старажытнарымскі быў надзвычай падобны да манархічнага рэжыму царскага самаўладства. Намёк быў выразны. І выказацца так мог толькі смелы і мужны чалавек. Не меншая мужнасць была патрэбна і для таго, каб не пабаяцца паставіць у цэнтры свайго твора «Ерэтык» вобраз правадыра нацыянальна-вызваленчага руху чэха Яна Гуса. Бо сучаснікі паэта вельмі добра разумелі, да якога краю можна было адрасаваць, напрыклад, наступныя словы паэмы:

Кругом няпраўда і няволя,
Народ замучаны маўчыць.
І на апостальскім прастоле

Чарнец адкормлены сядзіць.
Крывёй гандлюе пад'ярэмных
І рай у наймы аддае![1]

Паэма «Марыя» — гэта не толькі нарыс жыцця «святой дзевы», паказаны з чалавечага і чалавечнага пункту гледжання. З Мадоннаю-Марыяй, як трапна сказаў вядомы ўкраінскі літаратуразнаўца Сямён Шахоўскі пра галоўную гераіню гэтай паэмы Шаўчэнкі, «можна не толькі гаварыць пра палітыку, разам з ёю палітыку можна тварыць»[2].

Як і большасць паэм Кабзара, гэтыя тры паэмы ліра-эпічнага складу. Ва ўсіх іх адчуваецца гарачае хваляванне аўтара за лёс роднай бацькаўшчыны, роднага народа. Патэтыка і пяшчотнасць — адзнакі лірызму ўкраінскага песняра — прысутнічаюць і ў беларускім перакладзе паэмы «Неафіты»:

Рыдаю,
Малю, рыдаючы: пашлі,
Падай душы убогай сілу,
Каб агнявіста гаварыла,
Каб слова полымем гуло,
Каб людзям сэрцы растапіла
І па Украіне паплыло,
І на Украіне каб свяціла,
Як тое божае кадзіла,
Кадзіла ісціны.

Шаўчэнкаўскі выраз «кадзіла ісціны» выклікаў у сучаснікаў паэта другі метафарычны выраз, які быў вядомы кожнаму адукаванаму чалавеку Расіі ў другой палове XIX ст. — «светильник разума». Гэта не проста асветніцкая «побрякушка», а словы з рэвалюцыйнага лексікону.

Удала, у асноўным, перакладзены не толькі «Неафіты», але і паэмы «Ерэтык» і «Марыя». Коласу ўдалося захаваць прывабнасць вобраза Яна Гуса, які за свае перакананні гатовы згарэць жывым на кастры інквізіцыі, перадаць шаўчэнкаўскі сарказм, з якім ён малюе «ісцінных хрысталюбаў»— крыважэрных манахаў.

Нельга не сімпатызаваць і Марыі, якая, калі загінуў яе сын-праведнік, сама працягвала яго справу — пашырала веру ў справядлівасць, у ісціну.

У гэтым — дакладным узнаўленні асноўных рыс галоўных вобразаў паэм — першаступенная вартасць перакладаў. Сам эпік, Колас

[1] Тарас Шаўчэнка. Кабзар. Мінск, 1952. Наступныя вытрымкі з перакладаў твораў Шаўчэнкі таксама ўзяты з гэтага выдання, якое з невялікімі папраўкамі паўтарае выданне 1939 г.
[2] Семен Шаховський. Огонь в одежі слова. Питання майстерності і стилю поезії Т. Шевченка. Київ, 1964, стар. 97.

змог глыбока пранікнуць у эпічную плынь твораў Шаўчэнкі і перадаць, не паступіўшыся ў галоўным, сутнасць падзей, характараў, сітуацый.

Але і лірыка Кабзара заструменіла ў перакладах Коласа ва ўсёй сваёй свежасці і паўнаводнасці. Найбольш яскрава гэта відаць не столькі ў паэмах, колькі ў меншых відавых формах паэзіі — вершах.

Верш «Гогалю» яшчэ ў гады першай рускай рэвалюцыі пераклаў на беларускую мову і надрукаваў у зборніку «Жалейка» Янка Купала (Пецярбург, 1908). Але ў «Кабзар» гэты верш увайшоў у перакладзе Коласа. Чаму так здарылася? Некаторыя даследчыкі прычыну бачаць у тым, што «ў зборніку «Жалейка» пераклад верша быў змешчаны не поўнасцю: з 28 радкоў толькі 16»[1].

Янка Купала ў час падрыхтоўкі да выпуску юбілейнага выдання «Кабзара» змясціў у друку шэраг перакладаў вершаў Шаўчэнкі. Мог бы ён перакласці зноўку і тыя тры страфы з верша «Гогалю», якіх не было ў зборніку «Жалейка». Хутчэй за ўсё прычынай, чаму верш «Гогалю» (у перакладзе Купалы «За думаю дума роем вылятае») не ўвайшоў у выданне «Кабзара», было тое, што ён, як і два другія раннія пераклады Купалы («Думкі» і «Пажоўкнуў ліст ...Прыгаслі вочы»), быў яшчэ першай, не пазбаўленай недахопаў, спробай паэта перадаць на беларускай мове творы Кабзара[2]. Гэта тым больш відавочна, што пераклад «Пажоўкнуў ліст ...Прыгаслі вочы» Купала таксама не ўключыў у «Кабзар» (там гэты верш змешчаны ў перакладзе З. Бядулі). Свае раннія пераклады ён, такім чынам, сам лічыў яшчэ недасканалымі.

Колас жа, перакладаючы верш «Гогалю», быў у росквіце сваіх творчых сіл, меў даволі значны вопыт, набыты ў час працы над перакладам «Палтавы». Таму з той жа сілай, як і на ўкраінскай мове, пабеларуску загучалі радкі, у якіх украінскі пясняр выказваў свае спадзяванні аб сацыяльным і нацыянальным вызваленні роднай Украіны. У перакладзе, як і ў арыгінале, адчуваецца боль і смутак паэтапатрыёта аб тым, што

Не заравуць на Украіне
Вольныя гарматы.
Не зарэжа бацька сына,
Роднае дзяціны,
За чэсць, славу, за братэрства,
За волю Украіны.
Не зарэжа: выкахае

[1] С. Александровіч. Старонкі братняй дружбы. Мінск, 1960, стар. 92.
[2] Пераклады датуюцца 1905—1907 гг.

Дай прадасць з кахання
Раскалю ў разброд.
То, бачыш,
Удовіна даянне
Цару-бацьку, і айчыне,
І нямчуры плата[1]

Беларуская і ўкраінская мовы вельмі блізкія, асабліва з лексічнага боку. На першы погляд здаецца што гэта аблягчае справу перакладу з адной мовы на другую. Але такі вывад быў бы залішне паспешлівым. Вось што гаворыць, напрыклад, адзін сучасных рускіх тэарэтыкаў перакладу ў артыкуле, які цалкам прысвечаны пытанню перакладу з блізкіх моў: «Карнявое і граматычнае падабенства паміж славянскімі мовамі якое палягчае іх вывучэнне, пры мастацкім перакладзе хутчэй перашкаджае, чым дапамагае. Нязначныя на першы погляд моўныя адрозненні набываюць значэнне рашаючых перашкод пры ўсякай спробе граматычна альбо лексічна дакладна перанесці мастацкі тэкст з адной мовы на другую. У тым вось і справа, што, як кажуць усе ў літаратуры трымаецца на «ледзь-ледзь», на танейшых адценнях нюансах, а ўжо іх у кожнай развітай мове зусім дастаткова, каб перашкодзіць простаму калькаванню”[2]

Гэтыя «нязначныя на першы погляд» моўныя адрозненні прыводзяць не толькі да недакладнасцей уперадачы аўтарскай думкі, вобразна-стылістычных асаблівасцей арыгінала, а і да недаравальных кур'ёзаў. Так словы Шаўчэнкі “Пішла луна (г. з,н. рэха, — В. Р.) гаем” на рускай мове перакладзены як «Выплыл месяц над дубравой»; словы Сасюры «На розі дзвенів трамвай» — як «По розам (?!) звенел трамвай»; радок Пушкіна «С дружиной своей, в цареградской броне» паукраінску гучыць: «І з жінкою (!) своею в царгородській броні»[3] С. Александровіч прыводзіць прыклад з перакладу Ф. Чарнушэвіча шаўчэнкаўскай паэмы «Кацярына», дзе украінскае слова вороженьки (ворагі) перакладчык зразумеў як... варажбіткі[4].

Шмат такіх недарэчнасцей і ў перакладзе з беларускай мовы на рускую. Вось толькі некалькі прыкладаў з перакладу паэмы Коласа «Сымон-музыка», які ўвайшоў у чатырохтомнік твораў пісьменніка на рускай мове:

---

[1] Гэтых радкоў якраз і не хапала ў перакладзе, уключаным у «Жалейку». Украінскі літаратуразнаўца Б. Чарняўскі выказаў слушную думку, што іх выкраслiла царская цэнзура (Т. Шаўчэнка і беларуская літаратура. «Літэратура ў школі», 1954, № 5)
[2] Вл. Россельс. Подспорья и преграды. (Заметки о переводе с близкого языка.) Зб. «Мастерство перевода, 1962» М 1963, стар. 170-171.
[3] Гл. Ф. Неборячок. О. С. Пушкін українською мовою. Львів, 1958, стар. 132
[4] Гл. С. Александровіч. Старонкі братняй дружбы. Мінск, 1960, стар. 85.

| У Коласа: | у перакладзе: |
| --- | --- |
| Будуць лаяць – няхай лаюць | Будут лаять - пускай лают (?!), |
| Будуць біць-няхай б'юць. | Будуть бить - пусть хоть убьют. |
| | |
| Кінуў жмут калючых слоў... | Кинул жгут колючих слов |
| Вецер лозы | Ветер лозы |
| на балоце варушыў. | На болоте ворошил[1] |

Калісьці Максім Багдановіч склаў своеасаблівы слоўнічак, у якім занатаваў словы, якія аднолькава гучаць, але маюць у беларускай і рускай мовах розны сэнс. Сярод іх качка (рус. утка), люлька (трубка), ліст (письмо), сварыцца (ссориться), пытаць (спрашивать), зорка (звезда), свет (мир), лик (счет), мыліцца (ошибаться), кіт (замазка), згубіць (потерять) і інш,— усяго 101 слова[2]. На самай жа справе такіх міжмоўных амонімаў значна больш. І перакладчыку трэба быць асабліва пільным, каб не павялічыць лік казусаў, пра якія ўжо гаварылася.

Чоловік, напрыклад, па-ўкраінску азначае не толькі чалавек, але і муж. Перакладчык, які кепска ведае ўкраінскую мову, мог бы трапіць пры перакладзе гэтага слова ў непажаданае становішча. Аднак Колас, як добры знаўца роднай і ўкраінскай моў, па-майстэрску спраўляўся з падобнымі цяжкасцямі. Параўнаем, напрыклад, з арыгіналам наступны ўрывак з перакладу паэмы «Сляпы» («Нявольнік»).

| У Коласа: | У Шаўчэнкі: |
| --- | --- |
| Ой, гоп, чыкі-чыкі! | Ой, гоп, чики-чики! |
| Чырвоныя чаравікі | Та червоні черевики, |
| Ды яшчэ і тры музыкі,— | Та троїсті музики,— |
| Была б рада дужа | Од віку до віку |
| Ды любіла мужа. | Я любила б чоловіка. |

Чоловік перакладзены словам муж. У гэтых адносінах пераклад Коласа стаіць значна бліжэй да арыгінала, чым, скажам, пераклад гэтых вершаў на рускую мову М. Асеева, дзе слова чоловік перакладзена як молодой[3].

Але ўсё ж галоўная цяжкасць пры перакладзе з блізкіх моў — не ў гэтых, добра бачных моўных рыфах.

Як слушна сказаў эстонскі перакладчык беларускай літаратуры Олев Йыгі, каб «высветліць для сябе розныя значэнні слоў, аднолькавых па гучанні... гэта патрабуе пэўных намаганняў, але асваенне

[1] М. Мушынскі. «Сымон-музыка» Якуба Коласа на рускай мове. Гл. Зб. «Беларуская літаратура. Даследаванні», вып. V. Мінск. 1963, стар. 172.
[2] Гл. М. Багдановіч. Збор твораў у двух тамах, т. 2. Мінск, 1968, стар. 373-374.
[3] Тарас Шевченко. Кобзарь. М., 1947. стар. 228.

любой чужой мовы — справа не менш цяжкая»[1]. Асноўная цяжкасць заключаецца ў іншым. Слова, у залежнасці ад кантэксту, можа мець розныя сэнсавыя адценні. Улавіць іх, перадаць на другой мове — справа нялёгкая. Апрача таго што перакладчык абавязаны бездакорна ведаць мову арыгінала, ён павінен па-майстэрску валодаць родным словам, быць добрым паэтам, чуйным да гучання матчынай мовы.

У паэме «Сляпы» («Нявольнік») дзяўчына Ярына звяртаецца да героя твора:

«Скажи-бо, Степане!
Може, справді нездужаєш?
Я зілля дістану,
Я побіжу за бабою —
Може, це з пристріту

Пристріт — намова, урокі. Колас пераклаў:

«Дык скажы, Сцяпане.
Можа праўда занядужаў?
Я зелля дастану,
Ды збегаю да знахаркі...
Можа то з намовы».

Тут Ярына зусім не хоча верыць таму, што сказаў Сцяпан. Яго словы здаюцца ёй намовай, нечым нагаворам, і не больш. Калі ж той зноў паўтарае, што яна, Ярына, не сястра яму, то дзяўчыне, якая яшчэ не верыць у праўдзівасць Сцяпанавых слоў, здаецца зусім ясным, ад чаго той «захварэў»:

— Што чаўпе ён?
Яй-богу з урокаў.

У беларускай мове ўрокі (як і пристріт на Украіне) — слова народнае, гутарковае. Значэнне яго вузей за значэнне слова намова. Гэтым перакладчык падкрэсліў большую канкрэтнасць здагадак гераіні паэмы аб уяўнай хваробе Сцяпана.

Ярына некалькі гадоў прачакала Сцяпана. Нарэшце к «варажбітцы панесла сваё гора»:

Варажыла варажбітка,
Ліха замаўляла.
Талан-долю за тры грошы
З воску вылівала.

[1] Олев Йыги. Заметки из практики переводчика. «Неман», 1970, № 2, стар. 166.

Слова пристріт, нарэшце, бярэцца ў самым шырокім сваім значэнні — ліха. І гэта правамерна, таму што варажбітка замаўляла не канкрэтную хваробу, а ўсё ліха-гора, усю тугу па любімым чалавеку.

Такім чынам, слова пристріт, у залежнасці ад сэнсавай нагрузкі, у трох выпадках. Коласам перакладзена па-рознаму (ліха, намова, урокі).

У той жа паэме «Сляпы» («Нявольнік») бацька ласкава звяртаецца да любімай дачкі:

Іди ж, доню! А ти, сину,
Послухаєш вісти.

Колас гэтыя словы перадаў так:

Ідзі ж, рыбка! А ты, сынку, Паслухаеш весці.

У словах бацькі адчуваецца просьба. Таму ў гэтым выпадку рыбка — найбольш падыходзячы сінонім да клічнай формы слова доня. Гэта — і ласкава, і па-народнаму паэтычна.

А вось у наступных радках у большай меры, чым просьба, выказваецца пажаданне. Адчуваецца гэта і ў перакладзе.

| *У арыгінале:* | *У перакладзе:* |
|---|---|
| Та й каже:— Доню, не журись. | І кажа:— Дочка, не бядуй. |

І ў словах бацькі ўжо чуецца не толькі пяшчотнасць, але і трывога, калі ён усклікае:

Диво сталось
З тобою, доненько моя!

У перакладзе:

Дзіва стала
З табою, дочухна мая!

Колас у сваіх перакладах улічваў не толькі прамое значэнне і сэнсавыя нюансы шаўчэнкаўскага слова, але і яго эмацыянальную афарбоўку. Гэта ў значнай меры дапамагло пранікнуць ва ўнутраны сэнс арыгінала, раскрыла ўменне Тараса Шаўчэнкі карыстацца народным словам, паказала багацце і гнуткасць беларускай мовы.

Некалі Трэдзіякоўскі вельмі тонка заўважыў, што «перакладчык ад тварца толькі што імем розніцца». Дзеля дакладнасці перадачы сэнсу арыгінала, яго моунавыяўленчых сродкаў перакладчыку часта патрэбна адступаць ад літары твора. Ён заўсёды павінен памятаць пра тых, для каго творы перакладаюцца — пра чытачоў: іх склад мыслення, іх духоўныя запатрабаванні, іх моўную стыхію. Аўтарская думка, аўтарскае хваляванне павінны і ў перакладзе ў той меры, як і у арыгінале, уздзейнічаць на чытачоў. «Перад перакладчыкам — гаварыў М. Забалоцкі,— дзве шалі вагаў: першая належыць аўтару

арыгінала, другая — чытачу пераклала. Пераклад будзе добры ў тым выпадку, калі шалі вагаў не выйдуць з раўнавагі»[1]

Пра Коласа ніяк нельга сказаць, што ён літараліст Ужо у «Палтаве» выявілася галоўная рыса Коласа-перакладчыка: перадаваць не літару, а дух арыгінала. Таму і прыўносіліся у пераклад некаторыя новыя рэаліі па-свойму, але ў духу творчасці аўтара, трансфармаваліся паэтычныя вобразы. Так, Колас надзяліў героя «Палтавы» атамана Палея новай якасцю, пра якую Пушкін прама не сказаў. Палей у Коласа - гэта не толькі бясстрашны герой, але яшчэ і герой-практык. Практык таму, што сам удзельнічаў у многіх бітвах.

Ці можа перакладчык так рабіць? Можа, калі трактоўка вобраза перакладчыкам не ідзе ўразрэз з вобразам, намаляваным аўтарам. А ў даным выпадку гэта іменна так. Прывядзем тлумачэнне самога Пушкіна вобраза Палея, змешчанае пасля тэксту паэмы: «Сямён Палей — хвастоўскі палкоўнік, слаўны наезнік За сваволныя набегі сасланы ў Енісейск па скаргах Мазепы. Калі гэты апошні аказаўся здраднікам, то і Палей як закаранелы вораг яго, быў вернуты з ссылкі і знаходзіўся у Палтаўскім баі»[2]

Вось, аказваецца, што паслужыла перакладчыку асновай, каб прыпісаць герою — атаману Палею — і нейкую долю практыцызму. Гістарычная праўдзівасць як бачым, тут не парушана.

А вось як намалявана карціна пярэдадня Палтаўскай бітвы ў арыгінале і ў перакладзе:

| | |
|---|---|
| И царь туда (на Палтаўскае поле. В. Р.) помчал дружины. | Цар туды ж дружыны рушыў. |
| Они как буря, притекли | Яны, як бура, наплылі |
| И оба стана средь равнины | Абодва станы, чутка вушы |
| Друг друга хитро облегли. | І вочы востра напралі |

Цікава, што, перакладаючы «Меднага конніка» Пушкіна у адзін час з Коласам, Купала, як слушна піша літаратуразнаўца Д. Палітыка, таксама «...малюе карціну па-свойму, новымі моўнымі сродкамі», адны паняцці замяняе другімі, але аднароднымі[3]. Чамусьці даследчык гэта лічыць «арыгінальнай знаходкай» Купалы.

Як бачна, такі перакладчыцкі прыём выкарыстоўваў і Колас. І не толькі ў раннім сваім перакладзе—«Палтаве», але І ў больш позні час — пры перакладзе твораў Шаўчэнкі.

«Гамалія»— твор аб слаўным запарожскім атамане Гамалію і, разам з тым,— гімн казачай вольніцы, братэрству; гэта — патрыятыч-

---

[1] Н. Заболоцкий. Заметки переводчика. Зб. «Мастерство перевода». М., 1959, стар. 251.
[2] А. С. Пушкин. Сочинения. М., 1949, стар. 105
[3] Д. Палітыка. Янка Купала — перакладчык. Мінск, 1959, стар. 33—34.

ная песня Кабзара. Каб пранікнуць у ідэйную аснову, паўней перадаць сэнс паэмы, Колас трансфармуе некаторыя паэтычныя вобразы яе па-свойму. Разам з тым гэта не абеларушванне твора, якое часам назіралася, як мы бачылі, у творчай практыцы некаторых беларускіх перакладчыкаў другой паловы XIX — пачатку XX ст.

Вось адна страфа з перакладу:

Яна (Візантыя,— В. Р.) баіцца, каб Чарнец
Не засвяціў ізноў Галату,
Каб з войскам не прыйшоў у сваты
К ёй сам Падкова-удалец.

У арыгінале:

Вона боїться, щоб Чернець
Не засвітив Галату знову
Або гетьман Іван Підкова
Не кликнув в море на ралець.

Адразу прыцягваюць увагу новыя паэтычныя вобразы, уведзеныя ў верш перакладчыкам. Прыходзіць з войскам у сваты — сказана паэтычна, з лёгкім гумарам: няцяжка здагадацца, у якія сваты можна хадзіць з войскам. Альбо — Падкова-удалец. Хаця Шаўчэнка прама і не гаворыць пра смеласць, маладзецтва Івана Падковы, але гэта добра бачна з самога твора. Таму і эпітэт удалец, якім Колас у перакладзе надзяляе гэтага казацкага атамана, поўнасцю апраўданы.

Адзін з раздзелаў паэмы «Сляпы» («Нявольнік») пачынаецца словамі:

Так коло полудня, в неділю,
Та на зелених ще й святках,
Під хатою в сорочці білій
Сидів з бандурою в руках
Старий козак.

У перакладзе чытаем:

Вясёлым часам, у нядзелю,
Якраз у дзень зялёных свят,
З бандураю, ў кашулі белай,
Сядзеў у ценю каля хат
Стары казак.

Колас у вершы Шаўчэнкі ўвёў сваё ўдакладненне: вясёлым часам. І гэта зусім не супярэчыць зместу твора. З далейшага добра бачна, што нядзеля — сапраўды вясёлы час: людзі ў гэты дзень пяюць, танцуюць, весяляцца. Калі мы чытаем вершаваныя радкі, перад намі таксама паўстае летні, светлы, сонечны дзень. Гэта карціна напісана асобнымі мазкамі паэта: дзень зялёных святак бандурыст сядзіць пад

хатаю ў сарочцы белай. Таму ўласна коласаўскі вобраз у ценю каля хат не толькі знаходзіцца ў адпаведнасці са зместам арыгінала, але і канкрэтызуе карціну, намалёваную Шаўчэнкам, звяртаючы ўвагу чытача на паасобныя яе дэталі.

Сацыяльная накіраванасць верша Шаўчэнкі «Не завідуй багатаму» асабліва востра выражана ў канцоўцы:

Не завидуй же нікому
Дивись кругом себе:
Нема раю на всій землі,
Та нема й на небі.

Колас гэтую страфу пераклаў, крыху відазмяніўшы яе сэнс:

Не завідуй жа нікому,
А зірні наўкола:
Няма раю на ўсёй зямлі,
Як і ў небе гола.

Параўнаннем «як і ў небе гола» перакладчык адцяніў іменна сацыяльны бок гэтага верша. Але ў перакладзе, апрача гэтага, ёсць і адно невялікае адхіленне ад тэксту арыгінала. Шаўчэнка гаворыць, што не толькі на зямлі,— на небе нават раю няма. (Нема раю на всій землі, Та нема й на небі.) У Коласа мы нібы адчуваем, што не толькі на небе,— на зямлі таксама нясоладка. Дасягаецца гэта шляхам таго ж параўнання: галата на зямлі параўноўваецца з галатой, пустэчай на небе, існаванне якой там лічыцца бясспрэчным. Колас гэтым самым завастрае шаўчэнкаўскую думку аб сацыяльным размежаванні і адначасова разбурае веру ў хвалёны папоўскі рай, у які нібыта можа трапіць чалавек пасля смерці. Усе гэтыя «адхіленні» перакладчыка знаходзяцца, відавочна, у рэчышчы творчасці Шаўчэнкі-рэвалюцыянера, Шаўчэнкі-атэіста.

Сустракаюцца ў перакладах і новаўвядзенні крыху іншага парадку. Яны ўжо абумоўлены, калі можна так сказаць, больш аб'ектыўнымі прычынамі, чым суб'ектыўнымі. У паэме «Гамалія» чытаем: «Любило (мора — В. Р.) завзятих усатих слав'ян».

Гэта сказана пра казакаў-запарожцаў. Але ва ўяўленні беларусаў запарожскія казакі вонкава вызначаліся не столькі вусамі, як доўгімі чубамі, што звісалі з паголеных галоў. Таму, набыўшы іншы эпітэт, і загучалі гэтыя радкі ў перакладзе крыху па-іншаму, але з тым жа светлым шаўчэнкаўскім гумарам:

Любіла заўзятых чубатых славян.

А вось вытрымка з перакладу балады «Утоплены».

Зачарована!.. Пастой жа —
Шэпча ў злосці маці:

Трэба зелля раздабыў,
Трэба пашукаці
Старой ведзьмы.

У арыгінале было не зелля, а трути роздобути, г. зн. атруты. Чаму ж тут Колас замяніў гэтае слова? Адказ трэба шукаць у беларускай фальклорнай традыцыі, паводле якой зелле — гэта магічная сіла, што ў руках ведзьмаў, чараўніц і другіх цёмных сіл амаль заўсёды выступае як атрута.

Аднак трэба агаварыцца, што, згодна той жа традыцыі беларускага фальклору, у тым разе, калі зеллем валодаюць звычайныя людзі, яно дзейнічае як лякарства. У такім значэнні гэтае слова выступала, у прыватнасці, у нашым ранейшым прыкладзе («Сляпы»):

Дык скажы, Сцяпане!
Можа праўда занядужаў?
Я зелля дастану...

Усе прыведзеныя прыклады — сведчанне майстэрскага, творчага перакладу Коласа. Амаль кожнае слова ці спалучэнне слоў перакладчык пры жаданні мог бы пакінуць у перакладзе альбо замяніць адпаведным беларускім. Аднак у кожнай мове ёсць такія моўна-выяўленчыя сродкі, якія перакладчык, нават пры самым вялікім жаданні, даслоўна перадаць не можа. Сюды ў першую чаргу можна аднесці фразеалагічныя спалучэнні і спецыфічныя граматычныя канструкцыі. Іх адэкватны пераклад «слова ў слова» можа прывесці да скажэння аўтарскай думкі. Таму абавязкова трэба шукаць сэнсавыя эквіваленты цэлага выразу.

Але творы Шаўчэнкі ў перакладах Коласа такія ж зразумелыя, прывабныя, як і на ўкраінскай мове Гэта дасягаецца, у прыватнасці, і шляхам паўнацэннай замены украінскіх фразеалагізмаў беларускімі:

| *У арыгінале:* | *у перакладзе:* |
|---|---|
| Та цур тобі | А бадай ты |
| З тими старостами... | З сваімі сватамі |
| Стары грає, примовляє | Стары грае, прымаўляе |
| Ногами тупцює | Тахты адбівае. |

(«Сляпы»)

і пэўнай перадачай граматычных канструкцый украінскай мовы:

| | |
|---|---|
| І кинула круго очима... | І зрокам абвяла паляну |
| круг себе сумно озирнулась. | азірнулася наўкола |

(«Марыя»)

і ўмелым падборам адпаведных эмацыянальна-насычаных слоў:

| | |
|---|---|
| Пабачила стара мати | Пабачыла стара маці - |

Сказилася люта.                    Пачарнела люта.

(«Утопленка»)

У артыкуле «Краса и сила. Опыт исследования стиха І. І. Шевченко» Багдановіч пісаў: «У асобе вялікага украінскага Кабзара Тараса Шаўчэнкі сусветная літаратура мае паэта з вершам меладычным і прыгожым — І паэта, які прыгажосць сваіх твораў будаваў не на б'ючых у вочы сродках паэтычнага ўздзеяння, а, наадварот на сродках найбольш тонкіх — асанансах, алітэрацыях унутраных рыфмах; паэта, які да гэтай прыгажосці ўказаных элементаў верша далучаў яшчэ незвычайную сілу ј сваіх рытмаў, а таксама арыгінальнасць, жывасць і грацыёзнасць разнастайных метраў»[1] Багдановіч прыводзіў прыклад умелай інструментоўкі радка, узяты з балады «Утопленка»:

Хто се, хто се по сім боці
Чеше косу? Хто се?..
Хто се, хто се по тім боці
Рве на собі коси?...
Хто се, хто се?

Дзякуючы ўмеламу падбору свісцячых с, ц, шыпячых ш, ч, глухога х мы выразна чуем сцішаны свіст, пошум ветру ў прыбярэжнай асацэ.

Коласу, які перакладаў гэтую баладу на беларускую мову, часам не ўдавалася поўнасцю перадаць усё багацце гукаў арыгінала:

Хто ж то, хто на гэтым боку
Расчэсвае косу?..
А хто рве на другім боку
На сабе валоссе?..
Хто ж то, хто ж то?..

Пры перадачы рукапісных радкоў на іншай мове важна захаваць не толькі агульную колькасць гукаперайманняў, але і іх нагрузку на кожны радок. Так, у перакладзе толькі на некалькі гукаперайманняў менш, чым у арыгінале. Аднак размеркаваны яны неаднолькава: у Шаўчэнкі на радок прыходзіцца 4-6, у Коласа — ад 1 да 4 гукаперайманняў. Гэта ў значнай меры і занізіла гукапіс у перакладзе.

Але Колас заўсёды імкнуўся да высокай культуры перакладчыцкага майстэрства. Хаця перадаваць шаўчэнкаўскі гукапіс на беларускай мове было справай не лёгкай, перакладчык, па меры магчымасці, усюды стараўся захаваць слыхавы вобраз Кабзара. І як узнагароду за пошукі таго непаўторнага, адзінага, дакладнага радка мы ўжо ў канцы балады выразна чуем:

---

[1] «Украинская жизнь», 1914, № 2, стар. 47.

«Шэпча вецер з асакою:
Хто ж то безгалосы
Сядзіць сумна над вадою,
Расчэсвае косы?»

Сапраўды па-майстэрску шаўчэнкаўскае гукаперайманне перададзена тут беларускім паэтам.

Сіла рытмаў, а таксама арыгінальнасць, жывасць і грацыёзнасць разнастайных метраў паэзіі Шаўчэнкі, на якія звяртаў увагу яшчэ М. Багдановіч, дастаўляюць перакладчыкам вершаў і паэм Кабзара нямала клопату. Як данесці да чытача паэзію Шаўчэнкі ва ўсёй паўнаводнасці яе рытмічнай плыні? У прыватнасці, сярод перакладчыкаў твораў паэта на рускую мову вядуцца дыскусіі пра тое, якім чынам нам перакладаць так званую сілабічную частку яго вершаванай спадчыны. Пра гэта на IV Міжнародным з'ездзе славістаў у 1958 г. гаварыў Максім Рыльскі: «Сёй-той схільны шаўчэнкаўскія вершы суцэльна і паслядоўна сілабатанізаваць, гэта значыць перакладаць іх так, як рабілі ў дакастрычніцкі час. Меншасць імкнецца перадаць сілабіку Шаўчэнкі дакладна эквірытмічна, асноўваючыся пры гэтым на думцы, што шаўчэнкаўская сілабіка ідзе не столькі ад кніжнай традыцыі, колькі ад народнай песні. Трэція схіляюцца да кампраміснага рашэння: захоўваючы ў перакладзе агульны дух харэя ці амфібрахія, яны ўнутры радка размяшчаюць націскі больш свабодна, чым прынята ў рускім вершаскладанні»[1].

Пошукі працягваюцца, бо сапраўды ўжо нейкім вельмі ж архаізаваным здаецца Шаўчэнка ў некаторых рускіх перакладах. Напрыклад, у гэтым:

Что же мне так тяжко, что же мне так скучно.
Что ж мое сердце рыдает, кричит
Голодным дитятей? Что же сердцу нужно?
Трудное ты, сердце, что ж тебя томит?
Голод или жажда, или спать ты хочешь?
Засни, успокойся, замолкни навек,
Открыто, разбито... А злой человек
Пускай сатанеет... Закрой, сердце, очи...

Спрэчкі адносна перадачы рытміка-меладычнай асновы шаўчэнкаўскіх вершаў сярод беларускіх перакладчыкаў, у адрозненне ад іх рускіх калег, няма. На першы погляд, гэта здаецца па меншай меры дзіўным. У чым жа справа?

---

[1] Цыт. па артыкулу Ул. Росельса «Подспорья и преграды». Зб. «Мастерство перевода, 1962». М., 1963, стар. 162.

Каб адказаць на гэтае пытанне, трэба паглядзець, што ўвогуле ўяўляе сабой рытміка Шаўчэнкі. У аўтара «Кабзара» ёсць цэлы шэраг твораў, рытмічны малюнак якіх устанавіць даволі цяжка. Гэта адносіцца ў першую чаргу да так званых каламыйкавых вершаў. Не толькі памер іх, але нават сістэма варшаскладання, якой яны напісаны, пакуль што канчаткова не вызначаны. Некаторыя даследчыкі лічылі іх сілабічнымі (Ул. Ператц), альбо ўмоўна-сілабічнымі (М. Рыльскі), іншыя (М. Багдановіч і яго паслядоўнікі) —сілаба-танічнымі. Так, у катрэне:

Вітре буйний, вітре буйний,
Ти з морем говориш,
Збуди його, заграй ти з ним,
Спитай сиге море,—

Максім Багдановіч у першых трох радках бачыў харэй— амфібрахій — ямб, у апошнім — ямб і два харэі. Г. Сідарэнка, аўтар працы «Ритміка Шевченка», імкнучыся ўдакладніць Багдановіча, разглядае апошні радок як два амфібрахіі. Большасць жа літаратуразнаўцаў увогуле не спрабуе вызначыць памер верша, абмяжоўваючыся толькі канстатацыяй яго тэндэнцыі да харэічнага рытму.

Беларускі даследчык І. Ралько, скурпулёзна прааналізаваўшы працы пра верш Шаўчэнкі, катэгарычна заяўляе: «На нашу думку, імкненне даследчыкаў уціснуць своеасаблівыя шаўчэнкаўскія рытмы ў вузкія схемы сілаба-тонікі неправамернае», каламыйкавы верш — «гэта, бясспрэчна, акцэнтны верш, у рытмарадах якога патрэбна лічыць не склады, не стопы (ямбы, харэі, амфібрахіі), а толькі колькасць моцных акцэнтаў, прыпадаючых заўжды на сэнсава найбольш значныя словы»[1] У прыватнасці, нагаданы вышэй верш Шаўчэнкі («Вітре буйний, вітре буйний...») — гэта не што іншае, як акцэнтны верш з двума моцнымі (апорнымі) націскамі ў кожным радку. У асобных частках паэмы Купалы «Безназоўнае», вершы якой дагэтуль разглядаюцца выключна з пазіцый сілаба-тонікі, таксама яскрава відаць колькасная ўпарадкаванасць націскных складоў (два моцныя націскі ў кожным радку) пры поўнай свабодзе іх размяшчэння ў рытмарадзе:

Беларусь на куце
У хаце сваёй села,—
Чарка мёду у руцэ,
Пазірае смела.

---

[1] І. Ралько. Беларускі верш. Мінск, 1969, стар. 115, 133.

Радкі гэтыя — яскравы ўзор купалаўскага акцэнтнага верша, які ўжываўся паэтам у паэме «Бандароўна» і многіх іншых творах.

Акцэнтны верш Шаўчэнкі, як і Купалы, сваё радаслоўе вядзе з народнапесеннай творчасці. Аднак каламыйкавы народны верш — гэта, у сваю чаргу, своеасаблівая мадыфікацыя літаратурнага леонінскага (8 + 6) верша, які прыйшоў ва ўкраінскі і беларускі фальклор Ці з лацінскай паэзіі непасрэдна, ці праз пасрэдніцтва Польшчы, Чэхіі альбо адной з паўднёваславянскіх народнасцей. Тым не менш акцэнтны верш Шаўчэнкі «не копія народнапесеннага верша, а новы, арыгінальны тып літаратурнага верша, у слова і рытм якога вельмі арганічна ўвайшоў музычна-песенны напеў і зрабіў яго незвычайна меладычным, інтанацыйна выразным, эўфанічна багатым і эмацыянальна экспрэсіўным»[1]

Вывады І. Ралько маюць прынцыповае значэнне не толькі для разумення рытмікі Шаўчэнкі, але і для практыкі перакладу твораў паэта на іншыя мовы, у тым ліку на рускую і беларускую.

Відавочна, эстэтычны густ украінскага чытача (калі мець на ўвазе паэзію, яе форму) фармавала ў першую чаргу не сілаба-тоніка, а народнапесенны верш і акцэнтны (каламыйкавы) верш Шаўчэнкі. Гэта ж можна сказаць і пра беларускага чытача і беларускую паэзію, у якой народнапесенныя традыцыі і традыцыі каламыйкавага верша Купалы (а дзякуючы перакладам — і Шаўчэнкі) маюць вялікую вагу. Іменна таму вершы Шаўчэнкі і для ўкраінца і для беларуса гучаць сёння зусім натуральна, бо яны не накладваюць на іх жорсткую мерку сілаба-танічнага вершаскладання, якая фіксуе кожнае адхіленне ад прынятага памеру. Думаецца, што ў гэтым — сакрэт натуральнасці гучання шаўчэнкаўскага каламыйкавага верша ў беларускім моўным асяроддзі, разгадка таго, што многія вершы Кабзара трапілі ў беларускі фальклор і іх «цяжка... па складу адрозніваць ад народных»[2] У гэтым — і вытлумачэнне поспеху дарэвалюцыйных і савецкіх перакладчыкаў твораў Шаўчэнкі на беларускую мову, якія маюць свайго неадменнага і надзейнага памочніка ў жывых традыцыях роднага фальклору.

У рускай жа паэзіі традыцыі народнапесеннага верша, у тым ліку каламыйкавага, вельмі нязначныя. Сілаба-тоніка тут пачала сваё жыццё значна раней, чым у беларускай і ўкраінскай літаратурах, сфармавала пэўны эстэтычны густ чытача, настроіла яго слых на сілабатанічнае гучанне вершаванага радка. Магчыма, таму каламый-

---

[1] І. Ралько. Беларускі верш. Мінск, 1969, стар. 135.
[2] З. Бядуля. Водгукі кабзарскіх струн. У кн.: «Шаўчэнка і беларуская літаратура». Мінск, 1964, стар. 74.

кавыя вершы ўкраінскага паэта (таксама як і аналагічныя вершы Янкі Купалы), мэтазгодна было б перакладаць унармаваным леонінскім (8 + 6) сілабатанічным вершам, які ў рускай паэзіі мае даволі значныя традыцыі (пераклады В. Жукоўскага з Гётэ, Уланда і інш., вершы Цютчава і г. д.). Не капіруюць жа ўсходнеславянскія перакладчыкі сілабіку А. Міцкевіча, Ю. Славацкага ці іншых польскіх паэтаў!

Зрэшты, да думкі перадаваць творы Кабзара на рускай мове сілаба-тонікай (хоць і не заўсёды канкрэтна леонінскім вершам), усё часцей прыходзяць цяпер і самі перакладчыкі, якіх турбуе той факт, што «рускі Шаўчэнка губляе чытачоў»[1]

Такім чынам, тое, што рускім чытачом успрымаецца як наўмысная архаізацыя ці, па меншай меры, стылізацыя, для беларускага чытача — знаёмы водгук народнай песні. Таму і вершы слаўнага сына Украіны на беларускай мове загучалі вельмі натуральна. Вось тыя радкі Кабзара, якія мы прыводзілі вышэй на рускай мове, у перакладзе Якуба Коласа:

Чаго мне так цяжка, чаго мне так нудна,
Чаго сэрца плача, рыдае, крычыць,
Як дзіця галоднае? Чаго ж табе трудна?
Чаго ты жадаеш? Што ў цябе баліць?
Ці піці, ці есці, ці спатанькі хочаш?
Засні маё сэрца, засні ты навек!
Разбітае сэрца... Няхай чыніць здзек
Звар'яцелы люд... Закрый, сэрца, вочы...

Гэты верш (дарэчы, не каламыйкавы), магчыма, не асабліва яскрава ілюструе нашу думку, таму што ў арыгінале ён амаль цалкам напісаны амфібрахіем, толькі трэці радок — харэем, а ў чацвёртым маецца перабой рытму. Такі ж амаль рытмічны малюнак і ў перакладзе. Аднак відавочна, што па-беларуску твор гучыць больш свабодна, чым па-руску. Што датычыць каламыйкавых вершаў Шаўчэнкі, то яны чытаюцца ў перакладзе лёгка і натуральна.

Вось пачатак першай часткі паэмы «Мар'яна-чарніца»:

У нядзелю на выгане
Дзяўчаты гулялі,
Жартавалі з дзецюкамі
І песні спявалі —
Пра заранкі, вечарынкі
Ці як маці біла,
Каб з казакам не стаяла

[1] Вл. Россельс. Подспорья и преграды. Зб. «Мастерство перевода, 1962». М., 1963, стар. 170.

I не гаварыла.

У арыгінале было:

У неділю на вигоні
Дівчата гуляли,
Жартували з парубками,
Деякі співали —
Про досвітки-вечорниці,
Та як била мати,
Щоб з козаком не стояла.
Звичайно, дівчата...

Як і ў арыгінале, у перакладзе захавана аднолькавая колькасць складоў у радках (8 + 6), але націскныя і ненаціскныя склады паўтараюцца нераўнамерна. У той жа час колькасць моцных акцэнтаў у кожным радку адна і тая ж (два) — выразная прыкмета шаўчэнкаўскага танічнага верша. Такім чынам, і шаўчэнкаўскі вершаваны рытм вытрыманы, і верш гучыць натуральна ў беларускім моўным акружэнні. А апошняе — заслуга не столькі Коласа-перакладчыка, колькі моцных традыцый народнапесеннай стыхіі ў сучаснай беларускай паэзіі.

Амаль увесь час мы гаварылі пра дасягненні Коласа-перакладчыка. Ці ж ёсць у яго перакладах твораў Шаўчэнкі якія-небудзь недахопы?

Калі ўважліва параўнаць арыгінал і пераклад верша «Чаго мне так цяжка?..», то можна лёгка заўважыць ненатуральны «скачок» у выкарыстанні займеннікаў «мне» і «табе». Сапраўды, у першым радку паэт пытае сябе «Чаго ж так цяжка?..» У трэцім радку ўжо чытаем: «Чаго ж табе трудна?» Чытач пакуль што не ведае, каго мае на ўвазе паэт, бо толькі пад канец верша сустракаецца «разбітае сэрца».

У арыгінале ж чытаем:

Чого мені тяжко, чого мені нудно,
Чого серце плаче, ридає, кричить,
Мов дитя голодне? Серце моє трудне,
Чого ти бажаєш, що в тебе болить?

Часам у пераклад Колас уводзіць і непатрэбныя калькі з украінскай мовы, беларускую лексіку замяняе ўкраінскай. Замест слова байструк ужыта байстра («Утопленка»), замест адубеўшыя рукі — замяклыя рукі (там жа), замест пачуем — пачуема («Гамалія») і інш. Вядомы ўкраінскі перакладчык Р. Кочур недвухсэнсоўна пісаў: «Мне не падабаецца, калі некаторыя перакладчыкі «для захавання мясцовага каларыту» пакідаюць без перакладу беларускія словы (наогул даволі вядомыя), што не маюць у сабе нічога спецыфічнага: «сябры»,

«вёскі»— усё гэта ва ўкраінскім тэксце здаецца таннай бутафорскай «беларускай экзотыкай»[1] Такой таннай «украінскай экзотыкай» здаюцца і некаторыя ўкраінскія словы, пакінутыя Коласам без перакладу.

Калі-нікалі ў перакладах Якуба Коласа можна заўважыць і адступленне ад рытмічнага малюнка шаўчэнкаўскага верша, не захаваныя асананс ці алітэрацыю, не перададзеную ўнутраную рыфму... Побач з тым, асабліва ў перакладах ранніх рамантычных твораў Шаўчэнкі, відаць некаторае зазямленне ўзвышанай вобразнасці, канкрэтызацыя абстрактных разуменняў, умоўных паняццяў. Літаратуразнаўца Э. Мартынава справядліва зазначае: «Калі гаварыць пра беларуска-ўкраінскі паэтычны ўзаемапераклад, то параўнальна-стылістычны аналіз паказвае, што беларуская паэзія мае больш устойлівую эпічную плынь, а ўкраінская — лірычную. Іменна гэтым можна тлумачыць тое, што ў шэрагу выпадкаў ва ўкраінскіх перакладах беларускай паэзіі паслабляецца эпічнасць, а ў беларускіх перакладах украінскай — лірычнасць»[2]. Што датычыць перакладаў Коласа, то тут сыгралі сваю ролю не толькі агульная асаблівасць усёй беларускай паэзіі, але і канкрэтны талент мастака-перакладчыка — выразнага рэаліста, эпіка. Безумоўна, характар творчай натуры не мог не паўплываць на некаторае змяншэнне рамантычнай умоўнасці ў паасобных творах Шаўчэнкі.

Усё гэта паказвае, што праца над перакладамі твораў Шаўчэнкі на беларускую мову не скончылася з выданнем поўнага «Кабзара» ў 1939 г. Разам з тым не гэтыя недалікі вызначаюць вартасць працы Коласа па перадачы твораў вялікага ўкраінскага паэта на мове беларускага народа. Можна не сумнявацца, што вершы і паэмы Кабзара ў перакладах народнага паэта Беларусі яшчэ доўга будуць жыць і прыносіць чытачам вялікую асалоду.

Пераклады твораў Шаўчэнкі для Якуба Коласа з'явіліся значным крокам наперад у яго перакладчыцкай дзейнасці. Гэты крок — надзейны подступ да авалодання спадчынай аўтара «Героя нашага часу».

## «ЖУРБОТНЫ ДЭМАН...»

Якуб Колас прыгадваў: «Дзве зімы я вучыўся самастойна. Пачаў з таго, што схадзіў у Нясвіж і купіў сабе граматыку Говарава... Але граматычныя правілы чамусьці не лезлі ў галаву. Яны чаргаваліся з

[1] Григорий Кочу р. Встречи с белорусской поэзией. «Неман», 1970, № 2, стар. 172.
[2] Э. Мартынава. Пра ўяўную лёгкасць і сапраўдныя цяжкасці. «Літаратура і мастацтва», 1970, 2 кастрычніка.

урыўкамі цудоўных твораў. Я прабягаў вачыма тое ці іншае правіла і адразу ж хапаўся за радкі Пушкіна або Лермантава: «Терек воет, дик и злобен...»

Чытаю і чытаю, адарвацца не магу. Гэта падабалася незразумеласцю, непадобнасцю да таго свету, які быў навакол мяне. Вычытаныя ў граматыцы і запомненыя мясцінкі я сустракаў пазней, чытаючы ўжо цэлыя творы, адкуль яны былі ўзяты, як добрых, даўно знаёмых сяброў. І ад гэтага, як мне здавалася, твор набываў яшчэ болей сілы і харарства»[1]

М. Лермантава, як і А. Пушкіна, у сям'і Міцкевічаў проста багатварылі. Дзядзька Антось ведаў шмат вершаў вялікага рускага паэта напамяць і часта іх дэкламаваў. Любоў да класіка рускай літаратуры была настолькі моцнай, што многія яго творы браты і сёстры Якуба Коласа запомнілі на ўсё жыццё. Так, у прыватнасці, родны брат народнага паэта Уладзімір Міхайлавіч (Уладзік) нават у 75-гадовым узросце помніў і хораша дэкламаваў верш М. Лермантава «По синим волнам океана» («Воздушный корабль»)[2].

Відаць, у гады маленства прымяраў Колас беларускае слова і да вершаў Лермантава. А ў кастрычніку 1939 г., калі святкаваўся юбілей вялікага рускага паэта, радкі «Дэмана», дзякуючы Коласу, многія маглі прачытаць і па-беларуску:

Журботны Дэман, дух выгнання.
Блукаў над грэшнаю зямлёй,
І дум аб светлым яго ранні
Над ім снаваўся тлумны рой,—
Аб днях, калі ў харомах света
Ён жыў, шчаслівы херувім;
Калі вандроўніца-камета
Усмешкай яснаю прывета
Любіла памяняцца з ім;
Калі праз вечныя туманы
Ён, веды прагнучы, сачыў,
Як ходзяць зорак караваны,
У багнах неба плывучы;
Калі ён верыў і любіў,
Шчаслівы першы сын тварэння,
Не ведаў злобы і сумнення,
І не пужаў душу яго

[1] Максім Лужанін. Колас расказвае пра сябе. Мінск, 1964, стар. 65—66.
[2] С. Александровіч, А. Лойка, Ю. Пшыркоў. Якуб Колас. Паводле ўспамінаў братоў і сясцёр. «Маладосць», 1962, № 11, стар. 62.

Вякоў бясплодных рад панылы...
І многа-многа... ды ўсяго
І ўспомніць не было ў ім сілы[1]

Праўда, упершыню «Дэман» загучаў на беларускай мове ў 1926 г., калі ён выйшаў асобным выданнем у Вільні[2]. Перакладчык Макар Краўцоў, дзякуючы якому два гады перад гэтым па-беларуску загаварыў няскораны Мцыры, як на той час няблага справіўся са сваёй задачай. Пераклад і сёння чытаецца адносна лёгка, сэнс лермантаўскай паэмы, многія яе моўна-выяўленчыя сродкі перададзены ўвогуле добра. Аднак чытаеш паэму, і ў многіх месцах ловіш сябе на думцы: так, гэта Лермантаў, але нейкі надта з'іначаны, залішне абеларушаны. Гэта — асноўны недахоп перакладу Макара Краўцова. Перакладаць так маглі яшчэ ў канцы XIX ст., але ў 20-х гадах XX ст., пасля з'яўлення перакладаў Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, адапціраваць арыгінал было нельга. На перакладзе адмоўна адбілася і тагачасная неўладкаванасць лексічных і арфаэпічных норм беларускай мовы. Апрача таго, у віленскім беларускім «Дэмане» наглядаецца зніжэнне тону паэмы, якое часам даходзіць да фамільярна-саладжавага сюсюкання (там, дзе ў Лермантава конь, у перакладзе — конік, дзе ружье — стрэльбачка, дзе нагайка — бізунчык, дзе чистый — чысценькі і г. д.).

Нават пры павярхоўным азнаямленні з дзвюма інтэрпрэтацыямі вядомага твора Лермантава можна лёгка ўбачыць перавагі перакладу Коласа. Вось першы — лепшы ўрывак паэмы — апісанне грузінскай прыроды ў супастаўленні з абодвума перакладамі.

Арыгінал:

И, глубоко внизу чернея,
Как трещина, жилище змея,
Вился излучистый Дарьял,
И Терек, прыгая, как львица
С косматой гривой на хребте,
Ревел — и грозный зверь, и птица.
Кружась в лазурной высоте,
Глаголу вод его внимали[3].

| *Пераклад Краўцова:* | *Пераклад Коласа:* |
| --- | --- |
| І для вачэй яго прынада | Глыбока чорнаю разорай |
| Унізе нарой, будынкам гада | Дзе нібы змей рассунуў горы |

[1] «Полымя рэвалюцыі», 1939, № 10, стар. 19.
[2] М. Лермантаў. Дэман. З расейскае мовы пераклаў Краўцоў Макар. Вільня, Выд. Віленскага беларускага выдавецкага таварыства, 1926.
[3] Лермонтов М.

Чарнеў, круціўшыся, Дар’ял
Ды Тэрэк, пруткі як лявіха
З кудлатай грывай на хрыбце,
Роў паддзыгаючы... І ціха,
Кругі рабіўшы ў высаце
Звяры і птушкі яго чулі.

Дар'ял заломісты ляжаў.
Унізе Церак белагрывы
Як львіца, скачучы між скал,
Грымеў, і горны звер пужлівы,
І птушка, летучы ў прагал,
У гоман вод яго ўніклі.

У перакладзе Краўцова страчаны былы ўрачыста узвышаны тон рамантычнай «усходняй аповесці” Лермантава, як, адпавядае велічнай, магутнай прыродззіі з яе стромымі гарамі, імклівымі рэкамі, грымучымі вадаспадамі. Бо нават адно слова, узятае з бытавой лексікі (роў паддзыгаючы), прыземлівае ўвесь малюнак. У працытаваным урыўку заўважаюцца проста недарэчнасці: Дар’ял чарнеў... нарой. Убачыць можна толькі адтуліну, пачатак нары, не больш. У Лермантава сказана выразна: как трещина. Таму і Коласаў вобраз - чорная разора праўдзівы штрых у агульным лермантаўскім малюнку Дар'яльскай даліны. Альбо апошнія радкі: ...кругі рабіўшы у высаце, звяры і птушкі яго чулі. Выходзіць, што звяры... кругі рабілі, лёталі!

Колас, перакладаючы «Дэмана», імкнуўся не адступаць без неабходнасці ад тэксту арыгінала. У многіх выпадках захаваны моўныя канструкцыі, выразы, нават асобныя радкі лермантаўскай паэмы. Так, перакладчык зразумеў мастацкую неабходнасць вялікіх сінтаксічных перыядаў, што маюцца ў творы, і ашчадна захаваў іх у перакладзе (раздзелы III, IV і інш.). Разам з тым у Коласаўскім «Дэмане» не адчуваецца фетышызацыі літары арыгінала. Колас дзеля захавання «душы» лермантаўскага твора не трымаецца даслоўнасці, па-свойму, але ў духу творчасці рускага паэта, трансфармуе вобразы паэмы.

Вось нарачоны Тамары спяшаецца на вяселле. Цяжкія дарогі ў гарах: крутыя абрывы, імклівыя патокі. Апрача ўсяго і горш за ўсё — шматлікія разбойнікі. Гэта яшчэ больш падганяе нецярплівага жаніха:

Под ним весь в мыле конь лихой
Бесценной масти, золотой,—
Питомец резвый Карабаха
Прядет ушьми и, полный страха,
Храпя косится с крутизны
На пену скачущей волны.
Опасен, узок путь прибрежный.

Якуб Колас не імкнуўся даслоўна перадаць гэты ўрывак. Але ўсё ж мы не можам папракнуць перакладчыка ў тым, што ён аддаліўся ад арыгінала:

Пад ім запенены ўвесь конь
Чырвонай масці, як агонь.—
Ён, выхаванец Карабаха,
Вушамі водзіць, поўны страха,
Храпе і коса з круч крутых
Глядзіць на пырскі хваль сівых.—
І страшны шлях той узбярэжны.

У перакладзе падкрэслены словы і выразы, якія чым-небудзь (сэнсава альбо стылёва) адрозніваюцца ад адпаведных мясцін арыгінала. Усе яны «працуюць» на тое, каб стварыць лермантаўскі малюнак, поўны неспакою, прадчування блізкай і непазбежнай пагібелі князя-жаніха. І калі літаральна праз момант раздаецца ў начной цемрадзі стрэл, для чытача ён не з'яўляецца нейкай нечаканасцю. Бо чытач падрыхтаваны да гэтага настраёвасцю папярэдняга малюнка, у стварэнні якога вялікае значэнне мелі і напружаны рытм радка, і добрая інструментоўка яго (алітэрацыя: храпе і коса з круч крутых глядзіць на пырскі хваль сівых).

Колас ужывае некаторыя свае вобразна-выяўленчыя сродкі і пры перакладзе некаторых іншых раздзелаў «Дэмана».

| *У Лермантава:* | *У Коласа:* |
| --- | --- |
| Клянусь полночною звездой, | Клянуся зоркамі стажар, |
| Лучом заката и востока, | Праменняў сонечных патокам, |
| Властитель Персии златой | Багатай Персіі ўладар |
| И не единый царь земной | І ні адзін у свеце цар |
| Не целовал такого ока. | Не цалаваў такога вока. |

Лермантаў прама не параўноўвае прыгажосць Тамары з прыгажосцю полночной звезды, луча заката и востока. Аднак такое параўнанне па асацыяцыі міжвольна узнікае ва уяўленні чытача. У перакладзе гэты асацыятыўны мосцік захоўваецца. Таму патрэбна было захаваць першародную прывабнасць параўнанняў паэта Зоркі стажар, праменняў сонечных паток — гэтыя вобразы не толькі па сваёй радаслоўнасці знаходзяцца зусім побач з адпаведнымі вобразамі арыгінала, але незаўважна і вельмі хораша характарызуюць таксама прыгажосць самой князёўны Тамары.

Паэма Лермантава «Дэман»— не толькі адзін з найбольш значных твораў паэта, але і дзівоснае дасягненне рускага рамантызму. Умоўна-рамантычны вобраз Дэмана арганізуе ўсю паэму, яднае ў адно непарыўнае цэлае рамантычныя характары, сітуацыі, прадвызначае высокую танальнасць твора, яе ўзнёслы, патэтычны склад. Не дзіва, што ў «Дэмане» шмат стараславянскіх слоў, выразаў, сінтаксічных канструкцый (глагол вод, око, врата, чело, кущи, красы, ланиты,

поле брани, денница, почиет в бозе і г. д.). У гэтым выявіўся не толькі індывідуальны стыль Лермантава, але і асаблівасць рамантызму як літаратурнага метаду наогул.

У беларускай літаратурнай мове, як ужо адзначалася словы высокага гучання прадстаўлены мала І Абумоўлена гэта не ў апошнюю чаргу тым, што беларуская літаратура, у прыватнасці паэзія, вызначаецца галоўным чынам, сваім моцным эпічным, рэалістычным пачаткам. Рамантычная ж плынь у ёй параўнальна кволая, слабая, стварыць высакапарны, узнёслы рамантычны моўны стыль яна не магла. Колас сам быў эпікам тыповым рэалістам. Ды здарылася так (і ў гэтым адзін з цяжкавытлумачваемых парадоксаў), што ўсе асноўныя творы, якія ён перакладаў,— гэта творы рамантычнага плану. Гаму, магчыма, Колас-перакладчык, узнаўляючы па-беларуску Пушкіна, Шаўчэнку ці Лермантава, сустрэўся з большымі цяжкасцямі, чым некаторыя яго таварышы па працы (напрыклад, Купала)— яму неабходна было перш за ўсё пераадолець самога сябе, вачыма рамантыка глянуць на свет, вуснамі рамантыка выказацца.

Надзвычай развітая пісьменніцкая здольнасць Коласа пераўвасабляцца дазволіла яму ўвайсці ў кола думак і пачуццяў лермантаўскага Дэмана. Дэман Коласа — той жа ўнутрана супярэчлівы, шматгранны вобраз, праз які раскрываецца «цэнтральная для Лермантава думка пра прыгажосць і безнадзейнасць адзінокага бунту і пра тое, што ізаляваны герой-бунтар, які супрацьпаставіў сябе ўсяму на свеце, непазбежна адчувае трагічныя вынікі гэтага супрацьпастаўлення»[1] Побач з гэтым глыбокае веданне роднай мовы, а таксама вопыт, назапашаны ў часе працы над творамі Пушкіна і Шаўчэнкі, дазволілі Коласу захаваць у асноўным рамантычны стыль «Дэмана». Перакладчык для перадачы ўзвышанай лексікі мабілізаваў каларытныя беларускія народныя словы і выразы, якія ў літаратурнай мове сустракаюцца даволі рэдка: незримая — невідомая, достиг — дасяг, мгновенье — мгненне, туманный — мглівы, мститель — помснік і інш. Як і пры перакладзе «Палтавы», ён выкарыстаў стылявыя магчымасці кароткіх форм прыметнікаў. Разам з тым актывізаваны быў невялікі запас славянізмаў, што сустракаюцца ў беларускай мове. І Лермантаў загаварыў па-беларуску ўзнёсла-паэтычна, палка і задушэўна.

Вось арыгінал і пераклад шырокавядомых радкоў лермантаўскай паэмы:

На воздушном океане
Без руля и без ветрил

[1] Д. Е. Максимов. Поэзия Лермонтова. М,—Л., 1964, стар. 80—81.

Тихо плавают в тумане
Хоры стройные светил;
Средь полей необозримых
В небе ходят без следа
Облаков неуловимых
Волокнистые стада.

У надземным акіяне
Без стырна і без вятрыл
Ціха носяцца ў тумане
Хоры стройныя свяціл;
Пасярод палёў бязмежных
У небе ходзяць без слядоў
Статкі лёгкіх, беласнежных,
Танкарунных аблакоў.

Як дарэчы тут выкарыстана слова стырно (руль), што адносіцца да невялікай групы славянізмаў у сучаснай беларускай мове! Побач з іншымі словамі ўзвышанай лексікі (надземны, вятрыла, свяціла, бязмежны, беласнежны, танкарунны) яно ўдзельнічае ў выпрацоўцы таго высокага «шціля», без якога мова Дэмана здавалася б агрубленай, неапраўдана зямной.

У іншым месцы Колас (таксама ў мове Дэмана) ужывае і славянізм дзянніца — там, дзе Дэман звяртаецца да Тамары:

К табе я стану прылятаць,
Гасціць я буду да дзянніцы
І на павейкі-шаўкавіцы
Сны залатыя навяваць.

Цікава адзначыць, што гэтае слова маецца і ў перакладзе Краўцова, хоць, відавочна, ужыў яго Колас цалкам самастойна.

І ўсё ж, нягледзячы на сказанае, у цэлым высокі тон І «Дэмана» ў перакладзе Коласа аказаўся некалькі зніжаным. Не ўсюды перакладчык змог перамагчы ў сабе рэаліста, эпіка, не заўсёды ў роднай мове можна было і знайсці належныя адпаведнікі лермантаўскаму слову, адэкватна перадаць умоўна-рамантычную тропіку. Безумоўна, Колас перакладаў Лермантава па любві, а не па разліку. Аднак дасканалую якасць перакладу адна любоў не можа прадвызначыць. Павінна быць яшчэ і творчая роднаснасць, стылявая блізкасць паміж аўтарам твора і яго перакладчыкам. Перакладчыцкая дзейнасць і Коласа — гэта прыклад таго, як вялікі мастак у імя любві да іншамоўнага паэта свядома ішоў на адрачэнне ад уласнай творчай манеры. У пераважнай большасці выпадкаў гэта акуплялася значнымі мастацкімі

здабыткамі. Але ў некаторых, у тым ліку і ў перакладзе «Дэмана»,— «ахвяра» не заўсёды прыводзіла да жаданых вынікаў. Магчыма, таму Колас пераклаў толькі першую I палову паэмы, а не ўсю яе (другую палову пераклалі і А. Зарыцкі і А. Бялевіч).

У тэксце перакладу заўважаюцца некаторыя моўныя недагляды: русізмы (араматныя, розы, вакруг, кавёр, увы!, здаляка), няправільна прабаўленыя націскі на словах (мара замест мара, змарыў замест змарыў). Іх, праўда, няшмат. Ды і то народны паэт Беларусі пры перавыданні «Дэмана» ў 1950 г. пастараўся выправіць некаторыя радкі перакладу, якія гучалі раней не зусім выразна. У прыватнасці, былі выкінуты некаторыя русізмы, папраўлены вершы, дзеназіраўся рытмічны «збой» (лісцвенны шалаш — лісцвяны шалаш; жывае дзіця — жвавае дзіця; на двары цiснецца народ — ля вокнаў цiснецца народ). У двух выпадках Колас узнавіў раней апушчаныя радкі.

У публікацыі «Дэмана» ў «Полымі» чацвёртая частка паэмы пачыналася словамі:

I перад ім у падарожжы
Малюнкі іншыя ляглі:
Даліны Грузіі прыгожай
Красой жывою расцвілі.

Відавочна, што прыблізная рыфма (падарожжы — прыгожай) — не ў духу паэтыкі Лермантава. Пасля выпраўлення радкі загучалі некалькі па-іншаму, больш па-лермантаўску:

Прад ім у гэтыя хвіліны
Малюнкі іншыя ляглі:
Прыгожай Грузіі даліны
Красой жывою расцвілі.

Варта параўнаць таксама радкі, якія ўжо раз цытаваліся:

Першапачатковы варыянт:

Ён, выхаванец Карабаха,
Вушамі водзіць, поўны страха,
Храпе і скоса з крутых скал
Глядзіць на пенны хваляў вал.
I страшны шлях той узбярэжны:
Уцёсы з правай стараны...

Пазнейшы варыянт:

Ён, выхаванец Карабаха,
Вушамі водзіць, поўны страха,
Храпе і коса з круч крутых
Глядзіць на пырскі хваль сівых —
I страшны шлях той узбярэжны!

Налева гмахі гор старых...

Як бачыце, у першапачатковым варыянце перакладу не было ні пазнейшай алітэрацыі, ні лёгкасці радка, ні натуральнасці гучання. Увогуле ж пазнейшыя выпраўленні і ўдакладненні нязначныя. Аднак яны ёсць і іх дастаткова, каб не згадзіцца з мэтазгоднасцю ўключэння ў дванаццацітомны Збор твораў Якуба Коласа[1] першапачатковага варыянта перакладу «Дэмана», а не пазнейшага тэксту 1950 г. Апошні нават не агавораны ў «Каментарыях». Акадэмічнае выданне — Збор твораў Якуба Коласа ў 12-ці тамах — пакуль што самае аўтарытэтнае. Да яго звяртаюцца і будуць звяртацца даследчыкі спадчыны народнага паэта Беларусі, зацікаўленыя чытачы. А таксама (у гэтым няма сумнення) — цяперашнія і будучыя перакладчыкі «Дэмана»: вучоба ў Якуба Коласа ім, безумоўна, шмат у чым дапаможа. Таму пралік складальнікаў відавочны.

Праз трыццаць год пасля Коласава перакладу «Дэмана» з'явіўся новы беларускі пераклад лермантаўскай паэмы. У 1969 г. у «Полымі» быў апублікаваны «Дэман» у перакладзе паэта Аркадзя Куляшова. У тым жа годзе паэма ўвайшла ў кнігу выбраных твораў Лермантава на беларускай мове[2]. А ў 1970 г. за пераклады паэзіі Лермантава, а таксама «Песні аб Гаяваце» Лангфела і «Энеіды» Катлярэўскага Куляшову была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы.

У перакладзе Коласа і Куляшова ёсць некаторыя тэкставыя супадзенні. Канечне, наіўна было б на іх аснове рабіць заключэнне аб прамым уплыве аднаго перакладчыка на другога. Куляшоў у Коласа вучыўся не перакладу паасобных, найбольш цяжкіх мясцін «Дэмана» (зрэшты, зусім скідаць з рахунку гэтага таксама нельга), а перш за ўсё агульнаму стаўленню да арыгінала. Куляшоў у яшчэ большай ступені, чым Колас, адыходзіць ад тэксту твора, імкнецца галоўным чынам перадаць яго сэнс, мастацкія асаблівасці, стыль. Там жа, дзе можна было трымацца блізка арыгінала, дзе формы беларускай мовы асабліва не разыходзіліся з рускай, перакладчык шукаў недалёка ад таго месца, дзе вёў калісьці пошукі аднаго-адзінага, дакладнага слова Колас. Здаецца, у такім разе невялікай шкодай было б запазычыць, узяць знойдзенае ўжо. Аднак Куляшоў не запазычае, але адшуквае ў моўнай скарбонцы свой сінонім. Так, лермантаўскі печальный Демон у Коласа стаў журботным. У Куляшова ён — маркотны. Вось яшчэ паралелі: на беззаботную семью — на бестурботную сям'ю — на

[1] Якуб Колас. Збор твораў.., т. 10, стар. 590-600
[2] М. Ю. Лермантаў. Выбраная паэзія. У перакладах А. Куляшова. Мінск, 1969.

бесклапотную сям'ю; измучив доброго коня — стаміўшы добрага каня — змарыўшы добрага каня. Нават у самім гэтым жаданні не паўтараць Коласа відаць арыенціроўка на папярэдні пераклад.

Часам у творах вядомых паэтаў сустракаюцца своеасаблівыя парадоксы. Напрыклад, і літаратуразнаўцы, і чытачы застаюцца ў недаўменні, калі, чытаючы верш Пушкіна «Анчар», у далёкай бязводнай пустыні сустракаюць... рускае лыка. Слова моцна ўрасло ў радок, замыкае яго. А рыфмуюцца ж звычайна найбольш важныя па значэнні словы верша.

Як павінны паступаць у гэтым выпадку перакладчыкі? Ці маюць яны права падпраўляць аўтара арыгінала?

У Лермантава — львица с косматой гривой на хребте. Як вядома, грыву мае леў, а не львіца. Відавочны казус. Але ён, умацаваны рыфмай (львица — птица), настолькі ўжыўся з творам, што часта нават не заўважаецца.

Краўцоў пакінуў гэты вобраз нязменным. У перакладзе Коласа сэнсавыя акцэнты крыху перасунуты ў параўнанні з арыгіналам. Эпітэт белагрывы, не адносіцца да львіцы, а да ракі Церак. Інтанацыйна гэтыя два радкі чытаюцца з невялікай паўзай паміж імі, якая і дапамагае ўнікнуць сэнсавай недарэчнасці:

Унізе Церак белагрывы (паўза),
Як львіца, скачучы між скал,
Грымеў...

Ці меў права Колас «выпраўляць» Лермантава? Думаецца, што меў. Нягледзячы на вядомую яшчэ старажытным грэкам ісціну: «Меншая памылка, калі паэт не ведаў, што самка аленя не мае рагоў, чым калі ён не жыва апісаў яе» (Арыстоцель) — усё ж відавочныя недарэчнасці аўтара арыгінала перакладчык павінен выпраўляць. Праўда, у Лермантава сустракаюцца ў некаторых творах «памылкі» іншага парадку. Так, у вершы «Когда волнуется желтеющая нива» гаворыцца адначасова і пра желтеющую ниву, малиновую сливу (пачатак восені) і пра ландыш (вясна) — змешаны розныя поры года. Нешта падобнае заўважаецца і ў некаторых іншых вершах («Прекрасны вы, поля земли родной», «Спеша на север издалека», «Родина»), Аднак у гэтых прыкладах — «не мастацкая памылка Лермантава, а праяўленне яго метаду, у даным выпадку скіраванага на шырокае абагульненне»[1]

Куляшоў, як і Колас, адступае ад сэнсу арыгінала ў імя дасягнення жыццёвага праўдападабенства:

---

[1] Д. Е. Максимов. Поэзия Лермонтова. М.— Л., 1964, стар. 35.

I Церак, скачучы, ільвінай
Калматай грывай трос і роў,
Каменнай сціснуты цяснінай,
Дзе ўвага птушак і звяроў
Прыкута да грымоткай хвалі[1]

Улічыўшы Коласава стаўленне да гэтай далікатнай з'явы, Куляшоў, як бачым, сумеў застацца ў перавыражэнні лермантаўскіх вершаў цалкам самастойным, арыгінальным.

Так, Аркадзь Куляшоў улічваў у сваёй працы зробленае Коласам. Развіваючы традыцыі, памнажаючы здабыткі класіка беларускай літаратуры, ён здолеў узняцца на вышэйшую ступень перакладчыцкага майстэрства. Як правільна адзначала крытыка, «перакладчыка падсцерагала адна з небяспек, бо высокі, урачыста-ўзнёслы стыль паэмы вымагаў ад яго пошуку адпаведных лексічных і сінтаксічных сродкаў, адпаведных форм сённяшняй літаратурнай мовы... Аркадзь Куляшоў выдатна справіўся з гэтай цяжкасцю»[2]. Мова перакладу — узор беларускай літаратурнай мовы, чыстай, выразнай, багатай і ўзнёслай. Верш — гнуткі, рытмічна разнастайны, лёгкі для чытання і вымаўлення. Зразумела, нельга кананізаваць пераклад А. Куляшова. Новы час запатрабуе новай інтэрпрэтацыі паэмы Лермантава. Але будучыя перакладчыкі абавязкова павінны будуць улічыць тое, што зрабіў Куляшоў, чаго дасягнуў Колас.

У пасляваенныя гады Якуб Колас перакладам не займаўся. Выключэнне складаюць хіба што некалькі вершаў М. Рыльскага і П. Тычыны. Галоўны клопат пісьменніка быў іншы — аўтарызацыя перакладаў уласных твораў на рускую мову, у прыватнасці аўтарызацыя «Новай зямлі».

## АЎТАРЫЗАЦЫЯ? НЕ ТОЛЬКІ

У рукапісным фондзе Літаратурнага музея Якуба Коласа ў Мінску[3] захоўваюцца тры тоўстыя папкі — тры варыянты перакладаў «Новай зямлі» на рускую мову, зробленыя вядомымі літаратарамі М. Ісакоўскім, С. Гарадзецкім, Я. Мазальковым, П. Сямыніным і П. Радзімавым. Амаль на кожнай старонцы машынапіснага тэксту маюцца шматлікія запісы, выпраўленні, заўвагі самога аўтара паэмы, які быў надзвычай зацікаўлены ў тым, каб плён яго шматгадовай працы ў

[1] М. Ю. Лермантаў. Выбраная паэзія. Мінск, 1969, стар. 114—115.
[2] Анатоль Вярцінскі. Другая сустрэча з «Дэманам». «Літаратура і мастацтва», 1969, 24 чэрвеня.
[3] Карыстаючыся выпадкам, шчыра дзякуем дырэктару Літаратурнага музея Якуба Коласа Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу за дапамогу ў адшуканні матэрыялаў для гэтага раздзела кнігі.

найлепшым выглядзе дайшоў таксама і да рускага чытача. Гэтыя чарнавыя варыянты перакладу паэмы каштоўныя ў тых адносінах, што паказваюць кірунак, у якім ішло ўдасканаленне перакладу «Новай зямлі» на рускую мову, шліфоўка яго паасобных мясцін. Але разам з тым яны пашыраюць наша ўяўленне і пра Якуба Коласа як перакладчыка, таму што (і гэта мы ўбачым далей) праца яго над рускім перакладам паэмы была не толькі і не проста аўтарызацыяй.

У скарочаным выглядзе «Новая зямля» на рускай мове ўпершыню з'явілася ў 1934 г. Гэта быў час, калі крытыка, абцяжараная баластам вульгарнага сацыялагізму, не змагла яшчэ як след разабрацца ў ідэйна-мастацкіх вартасцях аднаго з лепшых коласаўскіх твораў. Відаць, у выніку гэтага пацярпеў і пераклад. Нягледзячы на тое, што пад назвай паэмы стаяла магічнае «аўтарызаваны», шырокі савецкі чытач у 30-я гады так і не пазнаёміўся належным чынам з жамчужынай беларускай паэзіі: у рускім тэксце «Новай зямлі» не знайшлося месца не толькі для многіх лірычных адступленняў, разважанняў герояў, але нават для цэлых раздзелаў, дзе некаторыя крытыкі (Л. Бэндэ, А. Кучар) бачылі ідэалізацыю мінулага, апяванне хутарской гаспадаркі[1] Таму, калі пасля Вялікай Айчыннай вайны з'явілася магчымасць выдаць паэму поўнасцю, Колас узяўся за гэтую справу з асаблівым запалам.

Выхад «Новай зямлі» на рускай мове азначаў для пісьменніка, па сутнасці, другое нараджэнне любімага твора. У лісце да Мазалькова[2] ад 2.VI. 1946 г. Колас пісаў: «Неяк заходзіў да мяне Турганаў[3] Гарадзецкі даў яму чатыры раздзелы «Новай зямлі» для перакладу. Як зазвычай С. Г.[4] аптымістычны, нібы цыган. Ён сказаў, што да чэрвеня ён прадставіць пераклады ў канчатковым выглядзе. А я гаварыў яму: «Добра, калі пераклады будуць гатовы да верасня»[5]. Перакладанне «Новай зямлі», як і прадчуваў паэт, зацягнулася. Толькі 30 сакавіка 1948 г. Колас напісаў свайму другому перакладчыку, Сямыніну: «Дарагі Пётр Аляксандравіч! Сёння я атрымаў Ваш ліст. Дзякую за яго. Вельмі рад, што пераклад Вы давялі да канца. Асабіста за Вашы пераклады я спакойны. У нас, у Беларусі, паміж нашых лепшых

---

[1] Якуб Колас. Новая земля. Авторизованный перевод с белорусского С. Городецкого. М., 1934. У перакладзе апушчаны раздзелы «На першай гаспадарцы», «Дзядзька-кухар», «Дзедаў човен», «Каляды», «Панская пацеха», «Вялікдзень» і інш., усяго 13 раздзелаў.

[2] Меркавалася спачатку, што Я. С. Мазалькоў будзе рэдактарам перакладу. Але хвароба перашкодзіла яму займацца рэдактарскай працай.

[3] Перакладчык асобных раздзелаў «Новай зямлі» на рускую мову.

[4] С. Г.— Сяргей Гарадзецкі.

[5] «Полымя», 1962, № 8, стар. 127.

паэтаў умацавалася думка пра Вас як пра вельмі добрага паэта і перакладчыка. Рады гэта заўважыць»[1].

Але хоць пераклад усёй паэмы быў скончаны, аддаваць яго ў друк Колас не спяшаўся: праца была далёкая ад дасканаласці. «Пераклад я затрымаў да выдання, хоць мяне і падганяюць,— пісаў паэт Сямьшіну.— Вы — хачу верыць — не будзеце асуджаць мяне за гэтую затрымку, таму што я хачу сур'ёзна аднесціся да выдання «Н. з» на рускай мове»[2].

У І варыянце перакладу паэма пачыналася так:

Мой край родной! Как ты мне мил!
На миг забыть тебя нет сил![3]

Цяжка пазнаць тут афарыстычныя радкі, якія знаёмы кожнаму яшчэ з дзяцінства:

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!

Плаўнасць, разважлівая задуменнасць у перакладзе зніклі. Радкі зрабіліся нейкімі нервовымі, канвульсіўнымі, мужчынскія рыфмы раптоўна «абсякаюць» іх. У выніку словы Коласа сталі падобнымі на скарагаворку, што ўжо зусім нельга спалучыць з філасофскім роздумам паэта аб пройдзеных жыццёвых дарогах, дарогах роднага краю. А гэта ж першыя радкі паэмы, той «гук камертона, на які настройваецца чытач»! (С. Цыхоўскі.)

Відавочна, што вопытны перакладчык Гарадзецкі не справіўся тут са сваёй задачай. І таму Колас, указваючы на недахопы прыведзеных радкоў перакладу, у нататцы да перакладчыка дае свой рускі пачатак паэмы, які гучыць больш натуральна, па-коласаўску шчыра:

Уют родной мой, сердцу милый!
Забыть тебя во мне нет силы (воп. 29, ч. 2)

Ужо на гэтым прыкладзе відаць уменне Якуба Коласа беражліва перанесці паэтычную думку з адной моўнай плыні у другую, не растраціўшы пры гэтым яе ранейшай прывабнасці.

Безумоўна, ніхто так, як Колас, не мог адчуць пульс арыгінала, яго жывое дыханне. Аддаўшы напісанню паэмы дванаццаць год, паэт узважыў кожнае слова ў ёй, кожны радок, вобраз. І таму паасобны недагляд альбо пралік перакладчыка паэт не толькі лёгка заўважаў, але і балюча перажываў.

---

[1] «Неман», 1962, № 5, стар. 141.
[2] Ліст да П. А. Сямыніна ад 30.III.1948 г. «Неман», 1962, № 5, стар. 141—142.
[3] Рукапісны фонд Літаратурнага музея Якуба Коласа, воп. 29, ч. 1, арк. 1. Далей №№ вопісу, частак і аркушаў даюцца пасля цытат у тэксце.

Не жадаючы здаваць у друк пераклад паэмы ў яго першапачатковым выглядзе, Колас пасылае тэлеграму ў Ленінград, да Гарадзецкага, каб той нанова перагледзеў сваю працу і працу сваіх калег. А покуль што ён сам выпраўляе некаторыя месцы перакладу, а ў некаторых выпадках — толькі ўказвае на недахопы. Гэтыя заўвагі, якія датычаць толькі першага раздзела паэмы «Леснікова пасада», зведзены паэтам на асобны аркуш паперы і могуць даць неблагое ўяўленне наогул аб працы Коласа над перакладам. Таму прыводзім іх поўнасцю, не перакладаючы з рускай мовы, на якой яны былі напісаны.

Раздзел 1—6

**Усадьба лесника**

Строки 1-2 «Кут» — это не край, обобщать не следует Женские рифмы обязательны. 2-я строка должна звучать более плавно, без «на миг».

Может быть, поэму начать так:

«Уют родной мой, сердцу милый!
Тебя забыть во мне нет силы».

5-6 В одной из строк «душа» заменить.

10 «Убрать с пути те камни злые» — какофония. М. б. лучше: Убрать с дорог те камни злые?

18 Нужно говорить не конкретно об определенной волне, а о любой из волн, уносимых рекой.

34-35 Весьма близко стоят —«свиданье» и «расставанье», получается неправдоподобно. «В последний миг свой»— очень тяжело и громоздко.

41 Как могут отдаваться напевы?

43 «Радость поет в звуках»— как понять?

48-49 Не тот словесный арсенал; моление — это не молитва. Храм да еще «темный» и «тихий» заменить обязательно.

59 Передать строку без «и».

64 Нет картины, да и смысла маловато.

74-75 Мужские рифмы чересчур резко разрывают медленное течение ритма. Это необоснованно, т. к. течение ручейка тоже медленное. Кроме того, тоже очень резок переход. «И тут» — после точки и разговора о совершенно иных вещах.

81-83 Нет последовательности. Сначала ручей скрывается, а затем читатель должен видеть его извивы. «Живописно» ничего не говорит. Лучше сказать, не украшая, а приблизив к оригиналу.

84 Все описание луга не конкретно. «Як скінуць вокам» не передается через «окинешь оком»— получается сужение простора.

Лучше не «до Немана от хаты», а от хаты, т. к. смотрит поэт именно от хаты по направлению к реке (в. 29, ч. 2).

Як бачна, гэтыя заўвагі Коласа маюць дачыненне менш чым да ста першых радкоў перакладу паэмы. Але яны яскрава ўзнаўляюць перакладчыцкую лабараторыю народнага песняра. Наколькі пагоршыўся б пераклад, калі б іх не ўлічылі. (Як гэта, на жаль, і здарылася: некаторыя заўвагі не былі ўлічаны.) Возьмем, для прыкладу, хоць бы вось гэтую кароценькую Коласаву заўвагу: «Перадаць радок без «н».

У першапачатковым варыянце пераклад гучаў:

А елки хмурыми крестами
Высоко в небе выделялись
И тихо с соснами шептались.
Всегда печальные, как вдовы,
Они стояли и отдельно (воп. 29, ч. 1, арк. 2).

Заўвага Коласа прымусіла Гарадзецкага не толькі змяніць перадапошні радок, але і больш пільна прыглядзецца да ўсяго гэтага ўрыўка, зверыць яго з арыгіналам. У беларускім жа тэксце было:

А елкі хмурымі крыжамі
Высока ў небе выдзяляліся
Таемна з хвоямі шапталісь.
Заўсёды смутныя, бы ўдовы,
Яны найбольш адны стаялі,
І так маркотна пазіралі
Іх задуменныя галовы![1]

Пасля выпраўлення пераклад стаў па духу бліжэйшым да арыгінала, у ім знікла ранейшая моўная скаванасць, звязаная з простым калькаваннем коласаўскіх радкоў:

А елки хмурыми крестами
На небе четко выделялись
И словно с звездами (тучами)[2] шептались.
Они стояли, точно вдовы,
Поодаль, чаще (хмуро) одиноко…
(воп. 28, арк. 2).

Асаблівай паэтычнасцю вызначаюцца пейзажныя замалёўкі Коласа. З сапраўдным замілаваннем і, разам з тым, з вялікай дакладнасцю выпісаў ён, у прыватнасці «куточак той прыгожы» — незабыўную Альбуць-Парэчча! Вось адзін фрагмент з гэтага шырокага

---

[1] Якуб Колас. Збор твораў.., т. 6, стар. 8.
[2] Тут і ў наступнай цытаце ў дужкі ўзяты выпраўленні П. А. Сямыніна, якія ляглі ў аснову канчатковага, трэцяга варыянта перакладу паэмы (воп. 27).

малюнка роднай прыроды ў першапачатковым варыянце перакладу паэмы на рускую мову:

И тут из леса мирно тек
Травой заросший ручеек.
К его волнам неторопливым
Ветвями наклонялись ивы,
Но из-под сени их густой
Он шел чуть видной бороздой
На луг, средь тростников скрываясь,
И, долго в поле извиваясь,
Вливался в Неман голубой.
Зеленый луг окинешь оком —
До Немана от самой хаты
Лежит он пышно и широко,
Травой сверкая и цветами,
Всех красок жаркими тонами
В сияющих их переливах... (воп. 29, ч. I, арк. 3).

Коласа гэты пераклад не задаволіў. Таму ў канчатковым варыянце пераклад выглядае так (выдзелены ўнесеныя перакладчыкам праўкі):

Из глуби леса мирно тек
Травой заросший ручеек.
К его волнам неторопливым
Склонялись трепетные ивы,
Но из-под сени их густой
Он чуть заметной бороздой
Шел через луг, в траве скрываясь,
И, живописно извиваясь,
Вливался в Неман голубой.
А луг — насколько хватит ока —
Свободно, пышно и широко
Простерся скатертью богатой
Вдоль Немана от самой хаты,
Сверкая яркими цветами,
Всех красок жаркими тонами
В неуловимых переливах
Оттенков нежных... (воп. 28, арк. 3).

Хоць гэты варыянт перакладу таксама далёкі ад дасканаласці (тут заўважаецца непатрэбная напышлівасць: трепетные ивы, из-под сени... густой; не ўсюды ўлічана абавязковасць жаночых рыфмаў, якія трымаюць рытмічны малюнак, паказваюць павольнае цячэнне

ручая, шырыню, бяскрайнасць прынёманскіх лугоў і інш.)[1],— аднак рускі чытач не зможа не залюбавацца харастовам беларускага наднёмання. І за гэта ён будзе найбольш удзячны Коласу-паэту. А між тым тут не меншую заслугу мае і Колас як неафіцыйны рэдактар перакладу, якому наканавала гэтую «пасаду» яго аўтарскае права. Успомнім, якія заўвагі зрабіў народны паэт да першага варыянта перакладу гэтага месца паэмы. Хіба не адчуваецца ў гэтых заўвагах рука вопытнага перакладчыка, дзякуючы якому незадоўга перад гэтым па-беларуску загаварылі Пушкін, Шаўчэнка, Лермантаў?!

Ужо з прыведзеных прыкладаў відаць, што Коласа не задавальняў ранейшы варыянт перакладу «Новай зямлі» на рускую мову. Таму ён звярнуўся да Гарадзецкага з просьбай пераглядзець пераклад усёй паэмы. І калі апошняму не выпала гэта зрабіць, народны паэт піша Сямыніну: «У мяне з'явілася думка звярнуцца да Вас з просьбай узяць на сябе галоўную рэдакцыю таго, што ўжо зроблена»[2]. А ўжо 2 чэрвеня 1948 г. Колас паведамляў Мазалькову: «Сямынін многа і паспяхова працуе над выпраўленнем перакладаў «Новай зямлі». Першыя пяць раздзелаў адрэдагаваны. Паэма гучыць куды лепш. Калі Сямыніну ўдасца правесці ўсю працу ў той жа якасці, яе не сорам будзе паказаць рускаму чытачу. Цяпер паэма пачынаецца так:

О, детства уголок мой милый!
С тобой расстаться я не в силах[3]

З не меншым напружаннем працаваў над перакладам паэмы і сам аўтар. Яшчэ да Сямыніна ён «прагледзеў амаль 26 (!) раздзелаў паэмы»[4]. І не было, бадай, ніводнай старонкі, дзе б акуратным, роўным почыркам не значыліся праўкі: цалкам новыя альбо часткова перароблены строфы, радкі, словы; дзе б не стаялі розныя ўмоўныя значкі (птушкі, пытальнікі, клічнікі) — гэта даваліся пэўныя ўказанні перакладчыкам.

Асаблівую ўвагу Колас звяртаў на праўдзівасць перадачы арыгінала. Тэма «Новая зямля» рэалістычная па сваім складзе, гэткі ж рэалістычны, моцна заземлены, аб'ектывізаваны і яе галоўны герой — селянін. Таму было б няправільным, нават пры перадачы ўрачыстых, велічных карцін, як-небудзь штучна «прыўзнімаць» іх. У Коласа вельмі проста і разам з тым неяк па-святочнаму прыўзнята сказана пра надыход вялікадня:

І ўжо падвечар сама хата

---

[1] У гэтых радках Колас не ўжывае ніводнай мужчынскай рыфмы.
[2] Ліст да П. А. Сямыніна ад 26.IV.1948 г. «Неман», 1962, № 5, стар. 142.
[3] Ліст да Я. С. Мазалькова ад 2.VI.1948 г. «Полымя», 1962, № 8, стар. 127-128.
[4] Ліст да П. А. Сямыніна ад 8.IX.1948 г. «Неман», 1962, № 5. стар. 142.

Была прылучана да свята:
Лагоднасць, згода і павага
І вельмі сталая развага
Увесь гэты дзень тут панавалі[1]

Гэты малюнак, Просты і велічны, у перакладзе захаваць не ўдалося: узнёсласць засталася (хоць і напышлівая, ненатуральная), прастата ж — знікла зусім:

Все в хате прибрано, готово
Для навечерия святого.
Согласье, ласка, уваженье,
Солиднейшее поведенье
На этот день тут воцарилось
(воп. 29, ч. 1, арк. 220).

Відавочна, ужытыя тут словы са стылявога пласта ўзвышанай лексікі (навечерие, солиднейшее, воцарилось) зусім не да месца, бо абмалёўваецца сялянскі побыт. І таму цалкам зразумелая заўвага Коласа: «Прасцей!» Перакладчык П. Радзімаў перапрацаваў гэтыя радкі, і яны загучалі сапраўды прасцей і больш праўдзіва:

Все в хате прибрано, готово
Для встречи праздника большого.
Друг к другу доброе вниманье,
Во всем согласье, послушанье
На этот день тут воцарилось...
(воп. 28, арк. 209).

Хто не памятае цудоўны вобраз дзядзькі Антося, гэтага земляроба з душой паэта, своеасаблівага вясковага філосафа! Антось — сапраўдны герой працы і разам з тым ён — просты селянін, з усімі яго добрымі якасцямі і слабасцямі. Ён не скупы, але вельмі ашчадны, беражлівы. Таму аўтар арыгінала пры рэдагаванні таго месца перакладу паэмы, дзе Антось выбірае сабе касу, «праясніў» вобраз:

І варыянт:

Глядит неспешно, по порядку
Как на носок, так и на пятку,
На шейку смотрит, на клеймо
И не торопится домой.

III варыянт
(з папраўкай Коласа):

Глядит неспешно, по порядку,
Как на носок, так и на пятку,
На марку глянет и на шейку,
Чтоб зря не выбросить копейку
(воп. 29, ч. 1, арк. 230—231).

[1] Якуб Колас. Збор твораў.., т. 6, стар. 203.

Такая характарыстыка, зразумела, нікольні не прыніжала вобраз Антося. Аднак інакш чамусьці разважыў перакладчык. Ён, не палічыўшыся з думкай Коласа, усё ж пакінуў:

На марку глянет и на шейку,
Поразмышляет хорошенько
(воп. 28, арк. 219).

Словы поразмышляет хорошенько нічога новага не дадаюць да характарыстыкі вобраза, бо развагі Антося бачны з усяго малюнка куплі касы.

Перакладаць такі твор, як «Новая зямля», многія вершы якой даўно сталі ўжо крылатымі выразамі, вельмі цяжка. Напрыклад, у многіх на вуснах наступныя Коласавы словы:

Хоць, праўда, хлеб ядуць і з вуды,
Але не ўсе і не заўсюды[1]

Як перадаць іх на іншай мове, каб не страціць афарыстычнасці? Мазалькоў імкнуўся зрабіць для гэтага ўсё магчымае, аднак у I варыянце перакладу поспех яго, безумоўна, не напаткаў:

Удой балуются паны
И, извините, свистуны.
Хоть толку многого не будет,
Но кой-чего себе наудят (воп. 29, ч. 1, арк. 93).

Тут не толькі няма ранейшай афарыстычнасці, але сама думка збеднена. У II варыянце вершы гучаць лепш:

Что удочки! Одна лишь слава,
Не дело это, а забава,
Хоть кормят и они людей,
Но не всегда и не везде (воп. 28, арк. 87).

Колас перакрэсліў два апошнія радкі перакладу і напісаў побач:

Хоть, правда, хлеб дает уда,
Но не везде и не всегда (воп. 29, ч. I, арк. 93).

Перакладчык Мазалькоў спачатку згадзіўся з папраўкай аўтара, і ў III варыянце перакладу стала:

Что удочки? Одна лишь слава,
Не дело это, а забава.
Хоть, правда, кормит нас уда,
Но не везде и не всегда (воп. 27, арк. 109).

---

[1] Гл. гэтыя радкі ў кн.: Ф. Янкоўскі. Крылатыя словы і афарызмы. Мінск, 1965, стар. 113. Тут жа змешчаны і іншыя крылатыя выразы Коласа.

Але ў выданні паэмы на рускай мове 1949 г. апошнія радкі чамусьці зусім апушчаны[1] Безумоўна, гэта было не лепшае выйсце са становішча.

Асабліва ўважліва Колас ставіўся да рэдагавання перакладу тых месц паэмы, дзе выказаны яго запаветныя думкі, мары, дзе надзвычай адчуваецца лірычны струмень твора. Хто не памятае цудоўных слоў паэта, прысвечаных роднаму краю:

Эх, мілы край адвечнай мукі!
Праклятыя будзьце, вусны, рукі,
Што на цябе ланцуг кавалі
І ў твар зняважліва плявалі!
Няхай агонь і жар пакуты
Навекі спаляць здзек той люты,
Які спрадвеку там пануе,
Над тым, хто родны скарб шануе
І хто ўсім сэрцам і душою
Астацца хоча сам сабою.
Жыві ж, наш край! Няхай надзея
Гарыць у сэрцы і мацнее,
Што хоць не мы, дык нашы дзеці
Убачаць цэльным цябе ў свеце![2]

Шліфоўка перакладу гэтых радкоў паэмы ішла палініі набліжэння да сутнасці арыгінала, яго духу, па лініі завастрэння патрыятычнай ідэі лірычнага адступлення.

*У Гарадзецкага:*
И что в лицо твое плевали...
Пускай огнем страданий гнет,
Который с давних пор царит
Над тем, кто дом родной хранит…
Живи ж, наш край! И пусть же светит
В сердцах надежда все сильней
Что ты не нам, так нашим детям
Предстанешь в цельности своей!

*У Коласа:*
И в очи, злобствуя, плевали...
Пускай страданья, гнев наш лютый
Сожгут неволи черной путы,

[1] Якуб Колас. Новая земля. Поэма. Авторизованный перевод с белорусского. Редакция и обработка перевода и предисловие П. Семынина. Минск, 1949, стар. 89.
[2] Якуб Колас. Збор твораў.., т. 6, стар. 139.

Развеют прахом вражьи силы,
Что полонили край наш милый...
Живи ж, наш край! Пусть все сильней
В сердцах людских надежда светит!
И пусть тебя хоть наши дети
Увидят в цельности твоей!..
(воп. 29, Ч. I, арк. 149).

Здаецца, простая замена месцамі дзеяслова і акалічнасці ў апошнім чатырохрадкоўі (светит і все сильней), а наколькі дынамічней стаў радок! Павялічылася экспрэсія і ў першым прыкладзе (в лицо — в очи, злобствуя). Такім чынам, амаль усё гэта лірычнае адступленне паэт перарабіў нанова. У такім выглядзе яно і надрукавана.

Нарэшце працу па рэдагаванні перакладу «Новай зямлі» на рускую мову скончылі. Можна было паэму здаваць у друк. Аднак Якуб Колас асобнымі месцамі перакладу застаўся незадаволены.

Так, у другім варыянце перакладу, нават пасля выпраўленняў рэдактара Сямыніна, паэт яшчэ раз звяртаецца да вобраза дзеда Юркі. Старанна, любоўна выпісаны аўтарам, ён з'яўляецца адным з лепшых у паэме. Вось дзед Юрка, падвыпіўшы, прыходзіць дахаты:

«Язэп, ўставай!— крычыць ён сыну:—
Уставай у гэтую ж хвіліну!—
Бярэ дзед ноты ценаровы,
Нібыта злосны яго бровы.
— Чаго да хлопца прывязаўся?
Лепш лёг бы каменем. Набраўся!—
Гаворыць баба і сярдуе,
А дзед яе як бы й не чуе[1]

Перадаць своеасаблівы каларыт гэтых радкоў не вельмі проста. Надзвычайная ёмістасць сказа (у двух радках — амаль і ўвесь партрэт дзеда: ён — спявак царкоўнага хору, у яго тэнар: бярэ... ноты ценаровы; сам дзед не зласлівы: нібыта злосны яго бровы), добры, мяккі гумар, фразеалагічная немнагаслоўнасць (лепш лёг бы каменем) і інш.— Усё гэта патрэбна было ўзнавіць і на рускай мове. Відавочна, самаму дакладнаму перакладу цяжка зраўняцца з арыгіналам, калі ён — выдатны мастацкі твор. Нешта падобнае здарылася і ў гэтым выпадку. Здаецца, і пераклад нядрэнны, і гучыць няблага, а параўнаеш з арыгіналам — адчуваеш розніцу:

— Язэп, вставай!— кричит он сыну.—
Вставай!— и ну честить детину.

[1] Якуб Колас. Збор твораў.., т. 6, стар. 90.

Церковных нот приносит свиток
...............................................[1]
— Чего ты к хлопцу привязался
Дурак ты сивый, нализался!—
Ворчит жена. — Все спят ведь, тише!—
А дед как будто и не слышит (воп. 28, арк. 89).

Коласа асабліва не задаволілі апошнія радкі перакладу, і ён прапанаваў свой варыянт:

Христина-бабка негодует.
А дед и в ус себе не дует (там жа).

Зразумела, што негодовать — гэта не толькі ворчать, *а и в ус не дуть* — трохі больш, чым не слышать. У канчатковай рэдакцыі перакладу засталося яшчэ і другое аўтарскае выпраўленне.

| *Першапачаткові варыянт:* | *Канчатковы варыянт:* |
| --- | --- |
| Церковных нот приносит свиток | Святых листков приносит свиток |
| ............................. | Сам строгий, сущий папа с виду (воп. 28, арк. 89). |

Эпічная плынь «Новай зямлі» шмат разоў перапыняецца лірычнымі адступленнямі. У іх то выказваецца аўтарская пазіцыя адносна якой-небудзь падзеі ці факта, то кандэнсуецца філасофская развага паэта, што мае дачыненне не толькі да ўсёй паэмы, але і да самога яе аўтара. Рэдактар перакладу паэмы Сямынін пайшоў спачатку па лініі звужэння эпічнага гучання паэмы і ўзмацнення ў ёй драматычнага руху. Для гэтага ён выкрэсліваў тыя месцы перакладу, якія, на яго думку, не садзейнічалі драматызацыі падзей, прытуплялі канфлікт герояў і характараў. У большасці выпадкаў гэта былі менавіта лірычныя адступленні. Сямынін у даным выпадку не ўбачыў, безумоўна, таго, што «барацьба, драматызм з плана знешняга перанесены ў паэме ў план унутраны, псіхалагічны»[2] што ёсць у паэме і канфліктнасць. Але яна — «не сутыкненне герояў, светапоглядаў, характараў, а канфліктнасць герояў і абставін, герояў і ладу-парадку, заведзенага панамі»[3].

Спачатку Якуб Колас нібыта згаджаўся з такімі выпраўленнямі паэмы. Так, у лісце да Мазалькова ад 6.VII. 1948 г. ён пісаў: «Некаторыя радкі паэмы, што не маюць істотнага значэння, мы апускаем»[4]. Але неўзабаве, ужо ў другім варыянце перакладу, побач са шматлікімі выкрэсліваннямі Сямыніна, паэт піша: «Перапісаць»[5]. Амаль усе вык-

---

[1] Радка не ўдалося расчытаць.
[2] І. Я. Навуменка. З глыбінь жыцця. Мінск, 1960, стар. 36.
[3] А. А. Лойка. «Новая зямля» Якуба Коласа. Вытокі, веліч, хараство. Мінск, 1961, стар. 84.
[4] «Полымя», 1962, № 8, стар. 128.
[5] Гл. воп. 28, арк. 160, 210, 212, 214, 232, 254, 255, 258, 266-268, 280, 281.

расленыя строфы былі адноўлены. Тым не менш да сённяшняга дня рускі чытач так і не ведае поўнага тэксту «Новай зямлі». Афіцыйны рэдактар перакладу Сямынін так і не ўключыў у рускае выданне паэмы асобных яе мясцін, сярод якіх былі няблага перакладзеныя радкі. Так, у выданне 1949 г. чамусьці не ўвайшло лірычнае адступленне з пачатку раздзела «Падгляд пчол», што пачынаецца словамі:

Пакуль што досыць аб панох:
Яны прыеліся, дальбог!

На жаль, апушчана і лірычнае адступленне з пачатку XII раздзела паэмы («Сесія»), якое выдатна пераклаў на рускую мову сам Колас, і інш. Праўда, дзеля справядлівасці варта заўважыць, што «часта да такой аперацыі звярталіся толькі таму, што асобныя мясціны былі не зусім удалыя, а зрабіць іх лепш не ўдавалася»[1]. Відавочна, ад такіх пропускаў пераклад калі і не выйграваў, то мала прайграваў. І ўсё ж не толькі недабраякаснасць перакладу была прычынай таго, што паасобныя радкі паэмы не ўвайшлі ў яе рускае выданне. Нават у першым варыянце перакладу не было аднаго лірычнага адступлення з раздзела «Па дарозе ў Вільню», дзе паэт з тугой зазначае, што «дарогі, вечныя дарогі» ўсё ж не вечныя, што «абмяжован... круг жыцця». Дарэчы, не ўвайшло яно і ў выданне паэмы 1934 г. Радкі гэтыя былі ўпісаны ў пераклад самім Коласам (на рускай мове) пасля слоў «звенят ручьи живой воды, как струны утренней звезды»:

Но грусть берет, как вспомнишь вдруг,
Что ограничен жизни круг,
Железным поясом окован,
Как будто кем-то заколдован,
Придавлен черною печатью,
Не в силах снять с себя заклятье
(воп. 29, ч. І, арк. 264).

У другім варыянце яны ўжо былі ўнесены ў тэкст перакладу, але затым рукой рэдактара Сямыніна выкраслены. Колас жа, не згаджаючыся з гэтым, піша побач: «Перапісаць» (воп. 28, арк. 252). У трэцім варыянце перакладу гэты філасофскі роздум паэта над чалавечым жыццём, над яго сутнасцю, пакінуты. Аднак, падкрэсліўшы апошнія два радкі, ужо сам Колас пытаецца ў рэдактара: «Ці не змрочныя гэтыя думкі» (воп. 27, арк. 313). У рускае выданне «Новай зямлі» 1949 г. гэтае лірычнае адступленне так і не было ўключана.

Асцерагацца вульгарызатарскай крытыкі ў першыя пасляваенныя гады былі ўсе падставы. Яшчэ не за гарамі быў той час, калі

---

[1] Ліст Коласа да Я. Мазалькова ад 25.XI.1948 г. «Полымя», 1962, № 8, стар. 128.

паасобныя літаратуразнаўцы прама казалі, што асноўная ідэя паэмы — гэта заклік да «стварэння заможных хутарскіх гаспадарак» (А. Кучар). Праўда, у 40-я гады думка крытыкаў адносна вартасці паэмы крыху змянілася[1]. Але «Новая зямля» выходзіла на ўсесаюзную арэну, і, хто ведае, што яе чакала наперадзе.

У час перакладу твора на рускую мову Колас уносіў некаторыя змены і ў першапачатковы тэкст паэмы. У ліпені 1948 г. ён пісаў Мазалькову: «У апошнім раздзеле паэмы «Смерць Міхала» я хачу ў адпаведным месцы закінуць сумненне ў сэрца Міхала — ці сапраўды «свая» зямля дасць поўнае шчасце, ці не парушыць яго гэты пануючы сацыяльны парадак, дзе на першых скрыпках граюць паны І чыноўнікі. Гэта я хачу зрабіць для таго, каб не было прыдзірак з боку крытыкаў, якім часта трэба адна толькі дубінка для таго, каб па прыватнаму выпадку ахаяць усю паэму»[2] Вось гэтыя «16 радкоў для таго, каб у нейкай ступені знізіць зачараванасць уласнай зямлёй»[3]:

Ці дасць зямля табе збавенне
Ад злога панскага насення?
З адным рассватаешся тут,
Там у другі залазь хамут.
Паны і розныя чынушы
І там патрапяць выбіць душы
І павыцягваць з цябе жылы,
Бо ты без права і без сілы.—
Такія думкі, разважанні,
Як молат, білі ў сэрца Ганне:—
Тут справа не ў сваёй сядзібе,
А ў ладзе гэтым уся злыбедзе —
Хмурнеў тады Міхал таксама.
Няўжо ж у свет замкнёна брама?
Няўжо старанне пойдзе прахам?
Пытаў Міхал сябе са страхам.

Колас пісаў Мазалькову, што «ўстаўка ні ў якой меры не парушыла ўсёй будовы паэмы і яе сэнсу»[4]. На самай справе гэтыя выпраўленні і не маглі парушыць сэнсу паэмы, бо ў ёй ніхто ніколі і не збіраўся заклікаць да «стварэння заможных хутарскіх гаспадарак».

Урэшце, у 1949 г., паэма выйшла з друку. Перакладчык Мазалькоў успамінае: «Якуб Колас высока ацаніў працу Сямыніна. На яго ду-

---

[1] Гл. пра гэта больш падрабязна ў кн.: А. А. Лойка. «Новая зямля» Якуба Коласа. Мінск, 1961, стар. 143-145.
[2] Ліст да Я. Мазалькова ад 6.VII.1948 г. «Полымя», 1962, № 8, стар. 128.
[3] Ліст да Я. Мазалькова ад 25.XI. 1948 г., там жа.
[4] Там жа.

мку, пасля рэдагавання Сямыніна пераклады сталі зусім прыдатныя»[1]. Аднак вядома, што Колас і пасля надрукавання паэмы на рускай мове не пераставаў працаваць над удасканаленнем перакладу. У рукапісным фондзе Літаратурнага музея Якуба Коласа захаваліся тры старонкі рукапісу з перакладамі паасобных мясцін паэмы на рускую мову, зробленыя самім паэтам (воп. 29, ч. 3, арк. 1-2). Вось адзін урывак з раздзела «Вечарамі» ў перакладах Коласа і Гарадзецкага.

*Арыгінал:*
Таксама вечар свае бавы
Нясе з сабой не менш цікавы
І асабліва перад святам
Калі, бывала, дзядзька з татам,
А з імі часам гэтак сама
Язык развяжа свой і мама,
Пачнуць казаць свае ўспамінкі
Пра незвычайныя здарэнні
І ім даваць тут тлумачэнні
Цяпер камінак спачывае,
А хату лямпа асвятляе.

*Пераклад Коласа:*
По вечерам в хатине мирной
Забав иных был круг обширный.
Особенно в канун воскресный
Послушать было интересно,
Когда Антось и мать с Михалом
Начнут рассказывать, бывало,
В привычно-смутной тишине
О том, о сем, о старине,
О случаях неизъяснимых,
Бывавших иногда и с ними.
Очаг теперь опочивает,
А хату лампа освещает
(воп. 29, ч. 3, арк. 1).

*Пераклад Гарадзецкага:*
А сколько вечера скрывали
Чудес и тайн, как трепетали
Сердца детей под вьюги ропот,

---

[1] «Полымя», 1962, № 8, стар. 114.

(В канун же праздников особо)
Когда начнут Антось с Михалом
И мамка перед сном, бывало,
В тревожно-смутной тишине
Рассказывать о старине,
О случаях неизъяснимых,
Бывавших иногда и с ними.
Хоть в очаге огонь мерцает
И лампа хату освещает.
Но как-то призрачно все (воп. 27, арк. 179).

Не патрэбна спецыяльна спыняцца на разглядзе абодвух варыянтаў перакладу, каб убачыць, што пераклад Коласа гучыць намнога лягчэй, што ён больш праўдзіва передае арыгінал. Перапрацаваў Колас і пераклад таго месца твора, дзе апяваюцца ўсе перавагі зямлі, якую хоча купіць Міхал (воп. 27, арк. 27-28), і лірычнае адступленне з першага раздзела паэмы «Леснікова пасада» (воп. 27, арк. I), і некаторыя іншыя ўрыўкі з перакладу. На жаль, ні адна з апошніх заўваг Коласа пры далейшых публікацыях паэмы на рускай мове не была ўлічана.

Такім чынам, праца народнага паэта Беларусі па ўдасканаленні перакладу «Новай зямлі» на рускую мову была, па справядлівай заўвазе С. Александровіча, «не звычайная аўтарызацыя, а вялікая і карпатлівая творчая работа выдатнага мастака, якой ён аддаў многа часу і ўвагі»[1] Мы, зусім зразумела, мелі справу амаль выключна з творчымі ўпушчэннямі перакладчыкаў і выпраўленнямі іх Коласам. Таму можа скласціся няправільная думка, што пераклад «Новай зямлі» зусім не ўдаўся. У процівагу гэтаму варта назваць хаця б майстэрскія пераклады М. Ісакоўскага (раздзелы «Зіма ў Парэччы», «На рэчцы», «Каляды» і «Таемныя гукі»), некаторыя мясціны паэмы, цудоўна перакладзеныя С. Гарадзецкім, П. Сямыніным, Я. Мазальковым, П. Радзімавым. Разам з тым, улічваючы непаўнацэннасць перадачы некаторых раздзелаў паэмы на рускай мове, адсутнасць у перакладзе некаторых радкоў яе (у асноўным лірычных адступленняў), нельга не згадзіцца з Я. Мазальковым, які пісаў, што «Новая зямля» пакуль што «не прагучала па-руску так, як яна павінна была прагучаць»[2]. Таму вельмі радасным і абнадзейваючым з'яўляецца імкненне аднаго з лепшых савецкіх перакладчыкаў— М. Ісакоўскага, выказанае ім на старонках «Литературной газеты» з выпадку святкавання 80-годдзя з

[1] Сцяпан Александровіч. Папраўлена яго рукою. У кн.: «Гісторыя і сучаснасць». Мінск, 1968, стар. 42.
[2] «Полымя», 1962, № 8, стар. 114.

дня нараджэння народнага паэта Беларусі: «Калісьці я збіраўся пера-класці на рускую мову цалкам усю паэму Коласа «Новая зямля», але абставіны перашкодзілі мне гэта зрабіць у свой час. Калі здароўе мне дазволіць, то, магчыма, я вярнуся яшчэ да гэтай працы, каб праз шмат гадоў зноў адчуць радасць сустрэчы з Чалавекам, Грамадзя-нінам і Паэтам Якубам Коласам»[1].

## ТРАДЫЦЫІ ВЯЛІКАГА МАЙСТРА
### *(замест заключэння)*

Ці абмяжоўваецца перакладчыцкая праца народнага паэта Беларусі названымі творамі і імёнамі? Знаёмства з перыёдыкай паказвае, што ў свой час Якуб Колас працаваў над перакладам на беларускую мову твораў і некаторых іншых паэтаў. У прыватнасці, вось якое паведамленне было змешчана ў № 5 часопіса «Полымя рэва-люцыі» за 1937 г.: «Да XX гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі выйдзе з друку анталогія паэзіі Савецкага Саюза на беларускай мове... Над перакладамі працуюць: Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александро-віч, Пятрусь Броўка...»[2] А вось яшчэ адна выпіска з літаратурнай хро-нікі: «На пасяджэнні паэтычнай секцыі ССП Беларусі абгаворвалася пытанне аб выданні юбілейнага зборніка Шата Руставелі. Вырашана выдаць у скарочаным выглядзе ў перакладзе на беларускую мову геніяльную паэму вялікага грузінскага паэта «Віцязь у тыгравай шкуры». Над перакладамі працуюць Я. Купала, Я. Колас, П. Броўка, М. Хведаровіч, П. Глебка, А. Куляшоў і інш.»[3] Аднак у свой час гэтыя кнігі так і не выйшлі ў свет, і пераклады Коласа, відаць, страчаны назаўсёды.

У 1940 г. Колас пераклаў верш Адама Міцкевіча «Пашч і дзяў-чына», у пачатку 50-х гг.— некалькі вершаў украінскіх калег па пяру і сваіх сяброў Максіма Рыльскага («Музей Леніна ў Пароніне») і Паўло Тычыны («Іэнец на мячы», «Над бранскімі лясамі», «Ёсць шмат у нас мораў...»). У гэтых друкаваных перакладах увасоблены тыя ж пера-кладчыцкія прынцыпы, што склаліся яшчэ ў часы працы над творамі Пушкіна, Лермантава і Шаўчэнкі. Якія ж гэта прынцыпы? І ўвогуле, якія традыцыі Коласа-перакладчыка жывуць і сёння, пацвярджаючы сваю жыццядайную моц у творчай практыцы сучасных беларускіх перакладчыкаў?

---

[1] М. Исаковский. Сила его слова. «Литературная газета», 1962, 10 ноября.
[2] «Полымя рэвалюцыі», 1937, № 5, стар. 179.
[3] «Полымя рэвалюцыі», 1937, № 9-10, стар. 170.

Адразу ж агаворымся. Спыняючы ўвагу на Коласавых традыцыях, мы ўсё ж не схільны «вылушчваць» іх з агульных традыцый беларускага рэалістычнага перакладу, аддзяляць, у прыватнасці, ад таго, што зрабілі, чаго дасягнулі ў гэтай галіне Янка Купала і Максім Багдановіч. Тры класікі роднай літаратуры ў роўнай ступені прычасціліся да высакароднай справы закладкі фундаменту таго будынка, які ўзводзіцца і зараз, імя якому — беларускі савецкі пераклад. Да імя ж Коласа мы будзем далей апеляваць выключна таму, што іменна яго творчы даробак быў прадметам нашага разгляду.

Сваёй перакладчыцкай дзейнасцю Колас неаспрэчна даказаў жыццёвую неабходнасць перакладной мастацкай літаратуры. Вялікі майстар слова асабістым прыкладам натхняў і натхняе цяпер многіх таленавітых перакладчыкаў. Яшчэ ў даваенны час з'явіліся шматлікія цікавыя пераклады К. Крапівы, К. Чорнага, П. Броўкі, П. Глебкі, А. Дудара, Ю. Таўбіна і інш. Пасля вайны атрад беларускіх перакладчыкаў значна вырас. На поўную моц раскрыўся талент М. Танка, Я. Брыля, А. Зарыцкага, М. Лужаніна, Э. Агняцвет, М. Аўрамчыка, М. Хведаровіча, С. Дзяргая, Н. Гілевіча. Усё часцей перакладам пачынаюць займацца Р. Барадулін, П. Макаль, Г. Бураўкін, Хв. Жычка, А. Лойка, А. Шаўня, А. Вярцінскі, П. Бітэль, А. Грачанікаў і іншыя паэты і празаікі. Для іх гэта — не нейкі адыходны промысел, а арганічная патрэба духоўнага яднання з творцамі іншых народаў, планамерная праца па азнаямленні беларусаў з літаратурай розных краін і эпох.

Цікава, што ў Беларусі, за выключэннем некалькіх чалавек (Я. Семяжон, Ю. Гаўрук, В. Сёмуха і некаторыя іншыя), няма перакладчыкаў-прафесіяналаў. Усе яны, як калісьці і Колас, сумяшчаюць з перакладчыцкай працай уласную творчасць. У выніку адбываецца найбольш арганічнае і непасрэднае літаратурнае ўзаемадзеянне, калі цесна пераплятаюцца элементы ўспрыняцця і аддачы, «свайго» і «чужога», калі ўласныя творчыя знаходкі прыўваходзяць нярэдка ў пераклад, а знаходкі іншамоўнага аўтара, у сваю чаргу, аказваюць уздзеянне на арыгінальную творчасць.

Узрастае і ўвага грамадскасці да перакладу. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць прысуджэнне Дзяржаўнай | прэміі БССР імя Янкі Купалы Аркадзю Куляшову за пераклады «Энеіды» І. Катлярэўскага, кнігі выбраных вершаў і паэм М. Лермантава і «Спеву аб Гаявеце» Лангфела.

Перакладныя кнігі ўсё часцей атрымліваюць прафесійныя водгукі ў друку[1]. Пачалі з'яўляцца буйныя даследаванні, у якіх абагульняецца вопыт пэўнага перакладчыка (кніга Д. Палітыкі «Янка Купала — перакладчык», 1959; аўтарэферат кандыдацкай дысертацыі С. Александровіча «Я. Купала — майстар мастацкага перакладу», 1958), альбо вядзецца размова пра спецыфіку перакладу з адной мовы на другую (аўтарэферат кандыдацкай дысертацыі Э. Мартынавай «Пераклад як форма ўкраінска-беларускіх літаратурных узаемасувязяў», 1970). Робяцца таксама спробы падагульніць здабыткі беларускага перакладу за ўвесь савецкі час[2] Ва ўсім гэтым неацэнную паслугу даследчыкам аказваюць бібліяграфічныя даведнікі[3]. І ўсё ж трэба прызнаць, у галіне тэорыі і гісторыі беларускага перакладу зроблена яшчэ недаравальна мала.

Што датычыць саміх перакладаў, то, нягледзячы на відавочны якасны рост, заўважаецца, на жаль, іх паступовае колькаснае змяншэнне. У Беларусі зараз выходзіць значна менш перакладных кніг, чым выдавалася, скажам, у 30-х гг.—падчас актыўнай перакладчыцкай працы Якуба Коласа. А між тым «сённяшнія маштабы культурных узаемасувязяў паміж народамі і краінамі, пашырэнне і ўмацаванне дзяржаўных і грамадскіх кантактаў, агульны рост культуры савецкага чалавека вымагаюць, каб мастацкаму перакладу была надана яшчэ большая ўвага як справе дзяржаўнай і палітычнай важнасці»[4]. У перыядычным друку ўсё настойлівей гаворыцца пра тое, што перакладаем мы яшчэ мала, выдавецтвы не заўсёды ахвотна друкуюць перакладныя кнігі, не выйшла ніводнай кнігі выбраных перакладаў нават самых лепшых беларускіх перакладчыкаў, у тым ліку Я. Коласа. Падкрэсліваецца, што наспела патрэба ў беларускім перыядычным органе, разлічаным на перакладную літаратуру, накшталт «Иностранной литературы» ці ўкраінскага «Всесвіту». Праблемы гэтыя даволі складаныя, але ад іх вырашэння ў пэўнай ступені залежыць далейшы росквіт беларускай савецкай культуры.

Значна зменшылася ў нас за пасляваенны час і колькасць перакладаў з блізкіх моў, перш за ўсё з рускай. Тут мы таксама забываемся на традыцыі Я. Коласа, які сваімі перакладамі з Пушкіна і Лермантава наглядна паказаў неабходнасць беларускіх перакладаў

---

[1] Гл. раздзел «Пераклады» ў бібліяграфічным даведніку «Беларускае мовазнаўства» (склалі А. Д. Васілеўская, М. А. Жыдовіч, Я. М. Рамановіч, А. К. Юрэвіч). Мінск, 1967, стар. 376—388.

[2] Н. И. Лапидус. Зарубежная литература в белорусских изданиях и переводах, вып. 1. Минск, 1968.

[3] Сувязі беларускай літаратуры з літаратурамі зарубежных славянскіх народаў. 1906-1962. Склалі А. Мажэйка і Л. Самасейка. Мінск, 1963: Замежная літаратура ў перакладзе на беларускую мову. 1917-1963. Складальнік Л. М. Бабкова. Мінск, 1965; Мастацкая літаратура народаў СССР у перакладзе на беларускую мову. 1917-1965. Склала І. І. Фалькоўская. Мінск, 1967.

[4] Н. Гілевіч. Развіваць традыцыі сувязяў. «Звязда», 1970, 27 жніўня.

твораў рускай літаратуры. Аднак не ўсіх твораў, а лепшых! Як справядліва падкрэслівае А. Мальдзіс, «у сілу блізкасці беларускай мовы да рускай колькасць перакладаў у нас непазбежна будзе меншай, чым, скажам, у Літве ці Эстоніі. Але тым больш востра паўстае пытанне аб крытэрыях адбору. У першую чаргу павінны перакладацца творы выдатныя... Па-другое... трэба аддаваць перавагу творам, прысвечаным Беларусі або напісаным у ёй»[1]

Дарэчы, тое самае можна сказаць і пра пераклады з іншых моў. Беларускія чытачы праз рускую мову, якую яны добра ведаюць, знаёмяцца, бадай, з усімі больш-менш значнымі творамі савецкай і сусветнай літаратуры. І таму на беларускую мову варта было б перакладаць творы выдатныя, вяршыні нацыянальнага пісьменства, пераклад якіх выканае не толькі чыста азнаямленчую функцыю, але і ўзбагаціць нашу культуру, літаратуру і мову. Мы павінны і тут пільней прыглядацца да Коласа. Пушкін, Лермантаў, Шаўчэнка, Міцкевіч, Рабіндранат Тагор, Рыльскі, Тычына — ці не вяршыні гэта сваіх уласных, а разам з тым — і сусветнай літаратур?! У перакладчыцкім даробку класіка роднай літаратуры няма ніводнага выпадковага аўтара, ніводнага «прахаднога» твора. Урок, дадзены нам Коласам, сапраўды знамянальны.

Самааддана працуючы над удасканаленнем перакладу «Новай зямлі» на рускую мову, Колас сцвердзіў неаспрэчнае значэнне перакладаў беларускіх твораў на іншыя мовы, і асабліва — на мову вялікага рускага народа. Руская мова даносіць слова нашых пісьменнікаў да шырокага ўсесаюзнага чытача, яна нярэдка з'яўляецца адзіным пасрэднікам для замежных перакладчыкаў беларускай літаратуры. Таму надзвычай важна, каб па-руску загучалі лепшыя творы, каб яны былі перакладзены належным чынам.

Колас давёў і неабходнасць аўтарызацыі перакладаў. Аўтар, чалавек, якому твор асабліва дарагі, можа хутчэй за іншых заўважыць пралікі перакладчыка. Як мы пераканаліся, пераклад «Новай зямлі» значна палепшыўся ў выніку творчай садружнасці Я. Коласа з М. Ісакоўскім, Я. Мазальковым, П. Сямынінparam і П. Радзімавым. У сучаснай перакладчыцкай практыцы, на жаль, выраз «аўтарызованы пераклад» часамі ставіцца на тытулах перакладных кніг для прыдання ім адно толькі большай саліднасці.

Здараецца і іншае. Аўтара чамусьці не знаёмяць з перакладам яго твора да публікацыі. І вось калі перакладчык не ведае як след мовы арыгінала, рэалій роднай для пісьменніка рэчаіснасці, у пера-

---

[1] Мальдзіс. Мацаваць «вясёлкавыя масты» дружбы. «Літаратура і мастацтва», 1971, 16 красавіка.

клад прабіваюцца розныя недакладнасці і нават яўныя недарэчнасці. Так, у нядаўна апублікаваным у ГДР рамане Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды» «мэндлікі» сталі... «міндальнымі дрэвамі», «ушысткія свентыя» — «вашывымі святымі», «прышыбееўскі голас» — «прышыбленым голасам», «разгалістыя дрэвы» — «голымі дрэвамі», «тры чырвонцы»— «трымя рублямі» і г. д.[1] Можна не сумнявацца, што ўсяго гэтага не здарылася б пры аўтарызацыі перакладу, калі б пісьменніка своечасова азнаёмілі з перакладам яго твора на нямецкую мову, якую ён, дарэчы, ведае.

Вывучэнне творчага вопыту Коласа-перакладчыка дае нам магчымасць адказаць не толькі на пытанне, што перакладаць, але і хто можа стаць перакладчыкам. Быццам бы перакладчыка «Палтавы» характарызуе Язэп Семяжон, калі гаворыць пра наступныя якасці, якімі павінен валодаць кожны сучасны майстар мастацкага перакладу: «Праца ў вышэйшай ступені творчая, ён, мастацкі пераклад, па сваёй прыродзе павінен быць прыдатны для асобы творча адоранай, самой прыродай надзеленай талентам і тым неацэнным матчыным дарам, без якога наогул немагчыма кінуць зерне на ніве роднай літаратуры — дасканалым валоданнем роднай мовай»[2].

Зразумела, што Колас, адзін з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і літаратурнай мовы, меў і геніяльны талент мастака, і энцыклапедычныя веды ў лексічных, фразеалагічных і іншых пластах роднай мовы. Але усё ж мала для перакладчыка добра ведаць сваю мову, нібы кажа нам Колас. Трэба абавязкова валодаць і той, з якой перакладаеш. Толькі адзін раз, ды і то на самым пачатку перакладчыцкага шляху, ён карыстаўся мовай-пасрэднікам (пры перакладзе вершаў Р. Тагора). Пазней Колас перакладаў непасрэдна з арыгінала, з моў (рускай, украінскай, польскай), якія добра ведаў. Гэтым самым Колас даў своеасаблівую водпаведзь розным прыхільнікам падрадкоўніка, перакладу-пасрэдніка. Праўда, аўтар «Новай зямлі» не разважаў над самой праблемай ліквідацыі падрадкоўніка. Над гэтым задумваюцца, у прыватнасці, нашы сучаснікі, калі гавораць пра мэтазгоднасць прадуманай падрыхтоўкі высокакваліфікаваных перакладчыцкіх кадраў, неабходнасць стварэння іншамоўна-беларускіх перакладных слоўнікаў і г. д.

Коласаўскі прынцып — дасканала ведай родную мову, валодай мовай арыгінала — знаходзіць увасабленне ў працы лепшых нашых перакладчыкаў, знаўцаў моў народаў СССР і замежных, — А. Куля-

[1] Гл. М. Навіцкі. Пераклад — гэта творчасць. «Літаратура і мастацтва», 1971, 23 красавіка.
[2] Язэп Семяжон. Пераклад — гэта не на плячо з пляча... «Літаратура і мастацтва», 1970, 10 красавіка.

шова (украінская), М. Танка (украінская, польская), Я. Семяжона (англійская, нямецкая, французская), Ю. Гаўрука (англійская, нямецкая), Р. Барадуліна (латышская), Н. Гілевіча (балгарская, сербахарвацкая) і інш.

Якуб Колас непарушна выконваў адзін з асноўных перакладчыцкіх запаветаў: браць для перакладу аўтара па любві, а не па разліку. Літаральна ўсіх паэтаў, якія загаварылі па-беларуску дзякуючы яго клопатам, Колас лічыў для сябе самымі дарагімі. Аднак практыка коласаўскага перакладу ўносіць у гэты «прынцып любові» пэўныя карэктывы. Любоў да аўтара, якой бы значнай яна ні была, сама па сабе яшчэ не можа гарантаваць перакладу яго высокую якасць. Неабходна, каб і творчыя прынцыпы перакладчыка і любімага ім пісьменніка былі падобнымі. У гэтым пераконваюць нас як дасягненні Коласа-перакладчыка, так і паасобныя яго няўдачы (выпадак з перакладам «Дэмана», дзе коласаўская рэалістычная манера пісьма часамі «прызямляе» высокую рамантыку «ўсходняй аповесці» Лермантава). Дык ці не тут і адна з асноўных прычын таго поспеху, які напаткаў пазней Ул. Дубоўку пры перакладзе ім санетаў Шэкспіра, Я. Семяжона — пры перадачы на беларускай мове вершаў Р. Бёрнса, Ю. Гаўрука — пры беларускім пераўвасабленні Г. Гейнэ?! Гэтым жа ў значнай ступені можна вытлумачыць і пэўныя перакладчыцкія пралікі Ул. Дубоўкі, Я. Семяжона і Ю. Гаўрука пры перакладзе імі твораў іншых паэтаў. Уласны перакладчыцкі стыль, калі ён ужо выпрацаваны, змяніць немагчыма нават у тым выпадку, калі сам перакладчык хоча паступіцца сваёй індывідуальнасцю на карысць аўтара арыгінала. І ў гэтым сэнсе вопыт Коласа надзвычай павучальны.

Такім чынам, Якуб Колас даказаў яшчэ раз вялікае значэнне перакладной мастацкай літаратуры для ўзбагачэння культуры, літаратуры і мовы. Згодна Коласу, на беларускую мову неабходна перакладаць толькі выдатныя творы нацыянальных літаратур. Творы для перакладу адбіраюцца не па разліку, а па любві. Варта таксама, каб творчыя прынцыпы (тып літаратурнай творчасці, стылявы кірунак) аўтара арыгінала і перакладчыка былі аднолькавымі, ці, прынамсі, падобнымі. Сапраўдны перакладчык не карыстаецца падрадкоўнікам. ён добра ведае мову арыгінала, але ў яшчэ большай ступені — сваю, на якую робіцца пераклад. Вялікую паслугу яму можа аказаць сам аўтар. Да аўтарызацыі перакладаў варта ставіцца сур'ёзна, як і да ўласнай творчасці. Гэта — асноўныя запаветы Коласа-перакладчыка. Але ёсць і яшчэ адзін, не менш важны.

Мы бачылі, як перакладаў Якуб Колас. Аднак указанняў адносна таго, як трэба перакладаць, у пісьменніка мы не знойдзем. Гэта і не

дзіўна. Колас вельмі добра разумеў, што перакладчыцкая праца — творчасць. У перакладчыка, як і ў аўтара арыгінала, няма нязменных, раз назаўсёды дадзеных мастацкіх сродкаў і прыёмаў. Кожны з іх добры на сваім месцы, у свой час. Перакладчык — мастак. Не супернік, не раб пісьменніка, якога перакладае, а хутчэй за ўсё яго добразычлівы сааўтар. Ён можа і ўзвысіць, і прынізіць пісьменніка — усё залежыць ад яго таленту, мастакоўскага такту, настойлівасці ў барацьбе з сілаю супраціўлення слова. Гэтым абумоўліваецца і рашэнне разнастайных канкрэтных творчых задач, больш ці менш складаных, нечаканых, непрадбачаных. Галоўнае ж — каб пераклад быў высокамастацкім, дакладным. А што такое дакладнасць перакладу — пра гэта думаў, клапаціўся Якуб Колас. У гутарцы з вядомым рускім паэтам Рыленкавым класік беларускай літаратуры выказаўся пэўна і катэгарычна: «Пра дакладнасць перакладу... я вам вось што скажу. Яшчэ ў глыбокай старажытнасці, у X стагоддзі, ці што, балгарскі экзарх Іаан пісаў: «Слова, прыгожае ў адной мове, у іншай непрыгожае, страшнае ў адной, у іншай нястрашнае, у адной мае добры сэнс, у другой мае іншы... У сувязі з гэтым і мы, адмаўляючыся часам ад тоеснасці ў словах, наглядалі тоеснасць сэнсу, таму што дзеля сэнсу перакладаем гэтыя кнігі, а не дзеля тоеснасці ў словах». І Якуб Колас дадаваў: «Вось гэтак і ў нас павінна быць»[1] У гэтых словах — мудрасць мастака, які змог ахапіць сваім творчым уяўленнем дасягненні перакладчыцкай думкі некалькіх стагоддзяў, стаць адным з заснавальнікаў беларускага савецкага перакладу. Мудрасць, вартая памяці і ўвагі нашчадкаў.



[1] Н. Рыленков. Дядька Якуб. «Литературная газета», 1962, 10 ноября.

# БІБЛІЯГРАФІЯ
# ПЕРАКЛАДЫ ЯКУБА КОЛАСА

## Прынятыя скарачэнні:

Зб. тв., 10 — Якуб Колас. Збор твораў у дванаццаці тамах, т. 10. Мінск, 1964.

Зб. тв., 2 — Якуб Колас. Збор твораў у дванаццаці тамах, т. 2. Мінск, 1962.

Кабзар, 1939 — Тарас Шаўчэнка. Кабзар. Мінск, 1939.

Выб. тв, — Т. Шаўчэнка. Выбраныя творы. Мінск, 1941.

Выб. в.— Т. Г. Шаўчэнка. Выбраныя вершы і паэмы. Мінск, 1948.

Кабзар, 1952— Тарас Шаўчэнка. Кабзар. Мінск, 1952.

## Рабіндранат Тагор

«Шапнуў ён: «Мілая, ну, глянь, хоць разік глянь!» — «Чырвоны сейбіт» (літаратурна-мастацкі дадатак да газеты «Беларуская вёска»), 1926, № 5; Зб. Тв., 2, стар. 16.

...Скажы мне, мой любы, ці праўда ўсё гэта... — Там жа; Зб. тв., 2, стар. 18.

## А. С. Пушкін

А. С. Пушкін. Палтава. Мінск, ДВБ, 1938; Палтава (урывак) — «Звязда», 1936, № 234; «Звязда», 1937, К» 32; «ЛІМ», 1937, № 9; «ЛІМ», 1937, № 14.

А. С. Пушкін. Выбраныя творы. Мінск, 1949, стар. 65-111; Зб. тв„ 10, стар. 437-478.

## Т. Р. Шаўчэнка

Мар'яна-чарніца — Кабзар, 1939, стар. 54-58; Выб. тв., стар. 82-92; Кабзар, 1952, стар. 121-132; Зб. тв., 10. стар. 479-489.

Утопленка (балада) — Кабзар, 1939, стар. 58-60; Выб. в., стар. 153-159; Кабзар, 1952, стар. 132-137; Зб. тв, 10, стар. 490-495.

Гамалея — Кабзар, 1939, стар. 71-74; Выб. тв., стар 92-97; Выб. в., стар. 144-149; Кабзар, 1952, стар. 164-169; Зб. тв., 10, стар. 496-501.

Раскапаная магіла — «ЛІМ», 1938, № 51; Кабзар, 1939, стар. 79; Кабзар, 1952, стар. 182-184: Зб. тв., 10, стар. 502-503.

...Чыгрыне, Чыгрыне — «ЛІМ», 1938. № 51; «Чырвоная змена», 1939, 26. II; Кабзар, 1939, стар. 80; Выб. тв., стар. 97-99; Кабзар, 1952, стар. 184-186; Зб. тв., 10, стар. 504-506.

Сава — «Полымя рэвалюцыі», 1932, № 2; Кабзар, 1939, стар 81-83; Выб. тв., стар. 99-105; Выб. в., стар. 198-205; Кабзар, 1952, стар. 186-192; Зб. тв., 10, стар. 507-513.

Дзявочыя вочы — Кабзар, 1939, стар. 83; Выб. в., стар 109 Кабзар, 1952, стар. 192-194; Зб. тв., 10, стар. 514-515.

...У нядзелю не гуляла — Кабзар, 1939, стар. 90; Выб тв. стар. 120; Выб. в., стар. 149; Кабзар, 1952, стар. 207-210; Зб тв, 10 стар. 516-518.

Гогалю — Кабзар, 1939, стар. 91; Выб. тв., стар. 123; Выб. в, стар. 35; Кабзар, 1952, стар. 211; Зб. тв.. 10, стар. 521.

...Чаго мне так цяжка... — Кабзар, 1939, стар. 31; Выб тв, стар. 122; Кабзар, 1952, стар. 210; Зб. тв., 10. стар. 519.

...Заваражы мяне. волхве — Кабзар, 1939, стар. 91; Выб тв, стар. 123; Кабзар, 1952, стар. 210; Зб. тв., 10, стар. 520.

...Не завідуй багатаму — Кабзар, 1939, стар. 92; Выб тв стар: 124; Выб. в., стар. 36; Кабзар, 1952, стар. 212; Зб. тв., 10, стар. 522.

...Не жаніся ты. з багатай — Кабзар, 1939, стар. 92; Выб тв стар. 125; Выб. тв., стар. 110; Кабзар, 1952, стар. 212; Зб. тв., 10, стар. 523.

Ерэтык «Полымя рэвалюцыі», 1939, № 3; Кабзар 1939 стар. 93-98: Кабзар, 1952, стар. 213-222: Зб. тв., 10, стар. 524-534

Сляпы (Нявольнік) — «ЛІМ», 1938, № 51; Кабзар, 1939, стар. 98-106; Выб. тв., стар. 126-144; Выб. в., стар. 205-225; Кабзар, 1952, стар. 222-240; Зб. тв., 10, стар. 535-553.

Неафіты — Кабзар, 1939, стар. 236-243; Кабзар, 1952, стар. 511-526; Зб. тв., 10, стар. 554-569.

Марыя — Кабзар, 1939, стар. 251-258; Кабзар, 1952, стар. 540-558; Зб. тв., 10, стар. 570-589.

**М. Ю. Лермантаў**

Дэман (раздзелы І — VII) —«ЛІМ», 1939, № 33.

Дэман (частка І)—«Полымя рэвалюцыі», 1939, № 10.

М. Лермантаў. Паэмы. Мінск, 1950, стар. 151-162 Зб тв, 10 стар. 590-600.

**Адам Міцкевіч**

Паніч і дзяўчына — Адам Міцкевіч. Выбраныя творы. Мінск, 1955, стар. 15—18; Зб. тв., 10, стар. 601-604.

### М. Рыльскі

Музей Леніна ў Пароніне — «Літаратура і мастацтва», 1951, 6 студзеня; «Беларусь», 1952, № 3; Украінская савецкая паэзія. Анталогія. Мінск, 1952, стар. 38.

### П. Тычына

Танец на мячы —«Полымя», 1951, № І. Над бранскімі лясамі — там жа.

«ёсць шмат у нас мораў...» — П. Тычына. Выбраныя творы. Мінск, 1954, стар. 159. Украінская савецкая паэзія. Анталогія Мінск, 1952, стар. 393.

### Крытычныя працы

М. Базарэвіч. Якуб Колас — перакладчык. «Літаратура і мастацтва», 1958, 13 жніўня.

М. Базарэвіч. Майстэрства перакладу. «Звязда», 1962, 3 лістапада.

В. П. Рагойша. «Кабзар» у перекладах білоруською мовою Якуба Коласа. Праці Одеського держуніверсітету, т. 152. Збірник студентських наукових робіт, вип. 8. Одеса, 1962, с. 33-39.

В. Рагойша. Якуб Колас — перакладчык. «Беларусь», 1962, №11. стар. 15.

В. Рагойша. Перакладзена Коласам. «Літаратура і мастацтва», 1964, 14 ліпеня.

В. Рагойша. Колас перакладае «Дэмана». «Літаратура і мастацтва», 1964, 16 кастрычніка.

С. Александровіч. Папраўлена яго рукою. «Полымя», 1964, № 2, стар. 140-145. Тое ж, у кн.: «Гісторыя і сучаснасць». Мінск, 1969.

А. Ф. Сіранькоў. Якуб Колас як перакладчык Т. Р. Шаўчэнкі. У кн.: «Матэрыялы першай канферэнцыі па вывучэнні бела руска-ўкраінскіх літаратурных і фальклорных сувязяў. Тэзісы дакладаў», Гомель, 1969, стар. 96—98.

## ЗМЕСТ



“...А пра дакладнасць перакладу, — працягваў Колас, — я вам вось што скажу. Яшчэ ў глыбокай старажытнасці... балгарскі экзарх Іаан пісаў: «Слова, прыгожае ў адной мове, у іншай непрыгожае, страшнае ў адной, у іншай нястрашнае, у адной мае добры сэнс, у другой мае іншы... У сувязі з гэтым і мы, адмаўляючыся часам ад тоеснасці ў словах, наглядалі тоеснасць сэнсу, таму што дзеля сэнсу перакладаем гэтыя кнігі, а не дзеля тоеснасці ў словах». Вось таксама і ў нас павінна быць».

Я на ўсё жыццё запомніў гэту кароткую размову, зразумеў, пра якія пераклады марыў гэты вялікі народны паэт.

(З успамінаў пра Якуба Коласа)

Мікалай Рыленкаў.